

**Мы пойдзем другім шляхам.** З карціны мастака П. Белавусава.

На першай старонцы вокладкі: **у спартыўным клубе таварыства «Буравеснік» (Мінск). Практыкаванне выконвае студэнтка першага курса інстытута замежных моў Эла Гадзіцкая.**

Фото С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.

На чацвёртай старонцы вокладкі: **на Мінскім заводзе жалезабетонных вырабаў. Адпраўка гатовых дэталей на будоўлю новых жылых дамоў.**

Фото А. Дзітлава.



## ПЕРШЫЯ БЕЛАРУСКІЯ НАФТАВІКІ

**Комсамолец Нікалай Сялюк — рабочы вышукальнага ўчастка** (гл. рэпартаж «Нафта Палесся», ст. 20). Злева — **адна з разведвальных вышак.**

Фото А. Дзітлава.

Пролетарыі ўсіх краін, єднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

**Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі**

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання V.

**Красавік.**

**№ 4(49).**

**1957.**



## ВЫСОКАЯ ЎЗНАГАРОДА ЛЕНІНСКАМУ КОМСАМОЛУ

**1 сакавіка г. г. у Маскве ў Вялікім Крэмлёўскім палацы адбыўся ўрачысты Пленум ЦК ВЛКСМ, прысвечаны ўручэнню Ленінскаму комсамолу ордэна Леніна.**

На здымку: **Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР К. Е. Варашылаў перадае ордэн Леніна дэлегацыі ВЛКСМ.**

Фото В. Барадзіна.
Фотахроніка ТАСС.

# ЁН БАЧЫЎ ЛЕНІНА

Шэсцьдзесят год пражыў на свеце Уладзімір Аляксандравіч Чабатароў — стары бальшэвік, рабочы Мінскага аўтазавода. Гэтыя гады, вядома, пакінулі свае прыкметы: галава пасівела, няма ранейшай рухавасці. Але вочы ў гэтага чалавека яшчэ маладыя. Яны свецяцца мудрай дабратой, якая гаворыць аб тым, што ён ведае цану жыцця.

Калісьці Уладзімір Чабатароў працаваў у Піцеры на Пуцілаўскім заводзе. Пажаўцелая ад часу яго разліковая кніжка датавана 1916 годам. Ён удзельнічаў у вядомай стачцы пуцілаўцаў, што была адным з прадвеснікаў Вялікага Кастрычніка. Ужо тады Чабатароў быў самаадданым барацьбітом за справу рэвалюцыі.

Уладзімір Аляксандравіч успамінае суровыя дні лютаўскіх падзей. З групай матросаў-балтыйцаў ён пражыў тады два тыдні ў аўтамабілі, які на скорую руку быў абцягнуты бранёй. У гэтым аўтамабілі яны насіліся па гораду, наводзячы рэвалюцыйны парадак на вуліцах. У былых царскіх арсеналах яны бралі зброю і раздавалі яе паўстаўшым рабочым. Ва ўсіх кішэнях Чабатарова ляжалі тады браўнінгі і наганы, грудзі крыж-на-крыж былі абцягнуты патроннымі лентамі, на поясе віселі бомбы. Чабатароў быў меткім стралком, яго кулі даставалі ворагаў рэвалюцыі на плошчах, перад палацамі, на званіцах, у вокнах арыстакратычных кватэр Неўскага праспекта.

Тыя дні былі напоўнены такімі вялікімі падзеямі, якія нават цяпер, праз сорак год, не страцілі сваёй яркасці ў памяці Уладзіміра Аляксандравіча.

... Незабыўны вечар каля Фінляндскага вакзала. Уладзімір Чабатароў, маленькая кропелька жывога людскога мора, слухае Леніна. Вялікі правадыр рэвалюцыі назаўсёды застаўся ў памяці старога рабочага. Ленін гаварыў, сціснуўшы кепку ў левай руцэ; яго правая рука з адкрытай далонню была працягнута да шматтысячнага натоўпу людзей. Чабатароў быў бальшэвіком і да гэтай сустрэчы. Але голас Леніна, яго прарочыя словы, яго незгасальная вера ў рэвалюцыю, у перамогу працоўнага народа напоўнілі душу рабочага новай, нязмернай сілай.

У якіх цяжкіх абставінах і выпрабаваннях ні даводзілася быць Чабатарову, ён ніколі не губляў жывой сувязі з Ільічом, якая ўзнікла на гэтым мітынгу. Ён помніў Леніна, калі наладжваў работу транспарту; вобраз Леніна стаяў у яго вачах, калі ён у ліку бліжэйшых спадарожнікаў Міхаіла Іванавіча Калініна ездзіў на агітцягніку па ўсёй краіне. Ён не забываў Леніна, калі прадстаўляў Савецкую дзяржаву ў адказных паездках за мяжу.

Успамінаючы перажытае, Уладзімір Аляксандравіч расказвае больш пра сваіх рэвалюцыйных сяброў, пра іх гераічныя справы. Пра сябе ён расказваць не любіць, сябе ён лічыць толькі маленькай часцінкай велізарнага рэвалюцыйнага калектыву. Слухаючы гэтага чалавека, не перастаеш захапляцца высакароднасцю такіх вось простых людзей, якія адкрылі новую старонку ў жыцці чалавецтва.

**М. БЕЛЬСКІ.**

Юрась СВІРКО

### Жывы

**По вуліцах так доўга я хадзіў,**
**Аж забалелі стомленыя ногі.**
**Партрэты бачыў, помнік не адзін,**
**Хацеў я ўбачыць Леніна жывога.**

**І я падумаў: Ленін кожны дзень**
**Глядзіць на свет адкрыта і далёка.**
**На плошчах ён пакінуў толькі цень,**
**А сам застаўся у людскім патоку.**

# ІМЯ МЯСНІКОВА

М. СТЫРНЭ, С. МАСЕВІЧ

Сорак з лішнім гадоў назад на адной з ускраін Мінска размяшчаліся вагонарамонтныя майстэрні Аляксандраўскай чыгункі — прадпрыемства невялікае і непрыкметнае. Калі горад яшчэ спаў, аб пачатку рабочага дня абвяшчаў не магутны гудок, а тонкі, пранізлівы свісток, падобны на свісток паравоза. Панурыя рабочыя моўчкі праходзілі каля домiка начальніка майстэрань, будынак якога, нібы вартавы, узвышаўся ля ўваходу. Двор перасякалі рэйкі. На рэйках стаяла некалькі старэнькіх вагонаў з фабрычнай маркай Бранскага вагонабудаўнічага таварыства. За месяц майстэрні выпускалі з рамонту ўсяго адзін-два такія вагоны, бо працавалі ўручную. Звычайны малаток ды іншы няхітры слясарны інструмент — вось і уся механізацыя таго часу ў майстэрнях.

Зрэдку па двары праходзіў начальнік майстэрань пан Клаусен. Рабочыя здымалі шапкі. Але не адчуваў Клаусен належнай павагі ў гэтых паклонах. На пытанні людзі адказвалі неахвотна, панура. Праца была цяжкая, а заробкі малыя... Ад гэтых панурых, затоеных позіркаў пану Клаусену станавілася не па сабе. Аб чым думаюць гэтыя людзі? Што ў іх на душы? Начальнік майстэрань і не шукаў адказу на гэтае пытанне. Вельмі мала ведаў ён гэтых людзей, вельмі рэдка думаў аб іх.

У апошні час пан Клаусен пачаў заўважаць нейкае затоенае хваляванне сярод рабочых. Шпікі дакладвалі, што ў майстэрнях неспакойна, людзі адкрыта спачуваюць бальшэвікам. Насоўваліся незвычайныя падзеі — і гэтага ўжо нельга было не заўважаць.

Прадчуванні не ашукалі пана Клаусена.

...Стройны чалавек у афіцэрскім шынялі з пагонамі прапаршчыка стаіць на падножцы вагона. Яго шчыльна акружае натоўп, які ўслухоўваецца ў кожнае слова прамоўцы. Чалавек гаворыць усхвалявана, але выразна і зразумела. У яго голасе гучыць нешта такое, што мімаволі прымушае людзей прыслухацца: словы яго важкія, нібы камені. Людзі прагна ловяць іх, і толькі зрэдку хто-небудзь паспешліва запытаецца:

— А хто ён такі?

— Мяснікоў.

Мяснікова ў майстэрнях ведалі многія. Ужо не раз ён бываў тут, выступаў на мітынгах. Вялікай шчырасцю і праўдай веяла ад кожнага яго выступлення. І калі пасля Мяснікова пачынаў гаварыць які-небудзь эсэр ці кадэт, рабочыя не хацелі іх нават слухаць. Урад Керэнскага, што на ўсе лады расхвальваўся гэтымі прамоўцамі, мала чым адрозніваўся ад царскай улады. А вось тое, аб чым гаварыў бальшэвік Мяснікоў, супадала з уласнымі думкамі рабочых. Так, улада павінна належаць ім, рабочым. І не толькі ўлада, а і фабрыкі, заводы — усе багацці краіны. Але для гэтага трэба ўзяцца за зброю, трэба заваяваць сваю ўладу.

А прамоўца, які стаіць на падножцы вагона, па-юнацку звонкім голасам кідае ў натоўп рабочых суровыя кароткія словы:

— Да зброі, таварышы! Арганізоўвайце ў майстэрні сваю Чырвоную гвардыю...

І натоўп адказвае мноствам воклічаў:

— Запісвай! А зброю дасцё?

— Будзем біць контру!

— Далоў Керэнскага!

Аляксандр Мяснікоў саскоквае з падножкі, і натоўп яшчэ цясней акружае яго. Рабочыя гавораць аб тым, што ім патрэбна зброя, што яны гатовы змагацца за народную ўладу. І ў гэты момант, калі Мяснікоў паціскае рукі рабочым, у ім ужо цяжка пазнаць таго суровага, гнеўнага прамоўцу, які толькі-што стаяў на падножцы вагона. Нечакана рабочыя заўважаюць, што ён яшчэ вельмі малады і ў яго добрая, крыху задуменная ўсмешка. Аднекуль з натоўпу, быццам сама па сабе, вырываецца песня:

Смело мы в бой пойдём
За власть Советов...

А ў гэты час сталяр Голубеў тут-жа запісвае добраахвотнікаў у атрад Чырвонай гвардыі, які арганізоўваецца ў майстэрнях. І людзі, што спяваюць песню,— ужо не проста рабочыя вагонарамонтных майстэрань Аляксандраўскай чыгункі. Гэта ўжо баявая рабочая дружына, у якую ўліліся больш за сотню чалавек. І для кожнага з іх словы песні ў гэты момант набываюць свой, асаблівы сэнс. Так, яны гатовы аддаць сваё жыццё за тое, каб не было больш несправядлівага, праклятага жыцця, за сваю ўладу, за ўладу Саветаў.

Сярод гэтай сотні чырвонагвардзейцаў быў і Аляксандр Русееў — малады рабочы-электраманцёр.

Семнаццацігадовым падлеткам прыйшоў ён у 1915 годзе ў майстэрні. Не так ужо многа ведаў Саша Русееў аб жыцці. Але адно ён ведаў добра — свет пабудаваны несправядліва і жыць у ім рабочаму чалавеку вельмі цяжка. Чаму людзі жывуць так дрэнна, галадаюць, чаму іх зневажаюць на кожным кроку? Чаму адзін павінен працаваць, не разгінаючы спіны, і жыць у нястачы, а кучка людзей, якія нічога не робяць, купаюцца ў раскошы?

Гэтыя пытанні не давалі юнаку спакою. І калі аднойчы Аляксандр трапіў на падпольны рабочы сход, на якім выступаў бальшэвік, то зразумеў, што іменна тут можна знайсці тую праўду, якую ён шукаў. І яшчэ адно ён зразумеў — за гэтую праўду трэба змагацца, змагацца са зброяй у руках.

І вось яна, гэтая зброя!

Проста ў цэху ў пірамідах паблісквакоць штыхі вінтовак. Па просьбе Аляксандра Мяснікова з Мінскага арсенала чырвонагвардзейскай дружыне былі выдадзены два станкавыя кулямёты, адзін ручны, вінтоўкі.

Смело мы в бой пойдём
За власть Советов...

Песню гэтую вельмі палюбілі рабочыя майстэрань, асабліва дружыннікі, і спявалі яе часта. Яна нібы дапамагала ім рыхтавацца да прадстаячых баёў, надавала адвагі і рашучасці. А яны былі патрэбны — гэта ведаў кожны.

Гэтыя падзеі ў мінскіх вагонарамонтных майстэрнях адбываліся ў сакавіку 1917 года, пасля Лютаўскай рэвалюцыі.

Прайшлі дзесяцігоддзі...

Напэўна кожны мінчанін чуў аб заводзе імя Мяснікова, — бо гэта адно са старэйшых прадпрыемстваў горада. Магчыма, не ўсе ведаюць, дзе ён знаходзіцца і што на гэтым заводзе выпрабляюць. Нямногія, напэўна, знаёмы і з гісторыяй гэтага завода, яго мінулым. Былыя вагонарамонтныя майстэрні Аляксандраўскай чыгункі — гэта і ёсць сённяшні завод імя Мяснікова.

Велізарны заводскі двор па-ранейшаму перасякаюць у многіх месцах чыгуначныя рэйкі. Толькі вагоны тут ужо не такія—не тыя, што калісьці выпускала Бранскае вагонабудаўнічае таварыства, а ўтульныя, прыгожыя — цэльнаметалічныя. На тэрыторыі завода выраслі новыя светлыя, прасторныя карпусы. Інакш ідзе і работа. Замест звычайнага малатка паявіліся пнеўматычныя, вагоны падымаюць электрычнымі дамкратамі, а не ўручную. У цэхах — электрычнасць, а не газавыя ражкі, як было раней.

Давайце пройдземся па цэхах завода. Магчыма, нам пашанцуе сустрэць каго-небудзь з былых дружыннікаў-чырвонагвардзейцаў — тых, хто адваёўваў гэты завод для народа.

Вось адзін з самых вялікіх цэхаў — зборачны. Але рабочыя, якія трапляюцца насустрач,— гэта ўсё моладзь, якая аб Чырвонай гвардыі і наогул аб рэвалюцыі ведае ўжо толькі па кнігах, расказах відавочцаў, па кінофільмах. Нарэшце каля новенькага, толькі што адрамантаванага вагона, які паблісквае яркай зялёнай фарбай, сустракаем немаладога ўжо рабочага. Гэта кровельшчык Антон Іванавіч Падабед. Ён адзін з людзей, якія памятаюць тыя гады. На заводзе ён працуе з 1915 года.

Антон Іванавіч задумліва глядзіць у велізарны прасвет акна.

— Нямнога сёння вы знойдзеце на заводзе людзей, якія маглі-б расказаць аб гісторыі нашага завода,— гаворыць ён.— Так, была тут у 1917 годзе дружына Чырвонай гвардыі, праславіла яна ў свой час наш завод. З былых дружыннікаў зараз працуе адзін толькі Русееў, з кампрэсарнага. А наогул, у нас тут усюды моладзь, камсамольцы...

Моладзь! Гэта ёй перадала свой баявы сцяг старэйшае пакаленне...

Семнаццацігадовым юнаком, як і Аляксандр Нікалаевіч Русееў, прыйшоў на завод Якаў Ягораў. Як і Русееў у тыя гады, ён таксама не вельмі многа ведаў аб жыцці. Ды і аб якім жыццёвым вопыце можна гаварыць, калі чалавек яшчэ толькі паспеў скончыць школу ФЗН! Але семнаццаць год — для юнака



**А. Н. Русееў расказвае рабочым брыгады тав. Ягорава аб рэвалюцыйных падзеях 1905 года.**

Фото С. Чырэшкіна.



Удзельнік рэвалюцыі 1905 года А. Н. Русееў.

самы неспакойны ўзрост. Да таго часу, пакуль чалавек не знойдзе свайго пэўнага месца ў жыцці, не пакідае яго пачуццё пастаяннага неспакою, пошукаў чагосьці незвычайнага. Іншы раз гэтаму «штосьці» нават цяжка даць пэўнае вызначэнне. Але калі паспрабаваць гэта зрабіць, фармулёўка выглядала-б, напэўна, так: імкненне зрабіць карысную справу, знайсці прымяненне тым сілам маладосці, якія пратэстуюць супраць спакойнага, абывацельскага існавання.

Хто з нас, прадстаўнікоў малодшага пакалення, не зайздросціў тым, хто нарадзіўся ў гады рэвалюцыі, грамадзянскай вайны — карацей кажучы, у тыя часы, калі рабіліся подзвігі. Юнацтва-ж заўсёды марыць аб іх!

Але Яша Ягораў нарадзіўся і вырас у такі час, калі ўсе подзвігі, на яго думку, былі ўжо зроблены. Да таго-ж, калі гаварыць па шчырасці, нялёгка марыць аб незвычайным, калі ты пасля заканчэння школы ФЗН атрымаў усяго толькі кваліфікацыю слесара чацвёртага разраду.

Бадай ні для каго не будзе навай тая ісціна, што самыя вялікія подзвігі здзяйсняюцца ў працы. Магчыма, Яша Ягораў нават не думаў аб гэтым. Але іменна ў працы ён зрабіў той подзвіг, па якім сумавала яго неспакойная юнацкая душа.

Мала хто сёння на заводзе імя Мяснікова не ведае брыгаду зборачнага цэха, дзе працуе Ягораў. 330 працэнтаў вытворчага плана ў студзені гэтага года — яе апошні паказчык. А вось прозвішчы людзей, якія так самааддана, гераічна працуюць: камсамольцы Якаў Ягораў, Нікалай Наваторцаў, малады рабочы Павел Рычкоў, Андрэй Бурлоў. З 1953 года працуе разам гэты невялічкі калектыў. А колькі слаўных старонак упісаў ён у працоўны летапіс завода!

Толькі не такая наша моладзь, каб спыняцца на тым, што дасягнута, спачываць, як кажуць, «на лаўрах». Заўсёды здаецца, што не ўсё яшчэ зроблена, што перад табой непачаты край работы. Ды яно і сапраўды так. І ўсюды, у любой справе, патрэбны маладыя, гарачыя комсамольскія рукі. Вось летам мінулага года партыя звярнулася да моладзі з заклікам дапамагчы ўбраць цалінны ўраджай. І не дзіўна, што Ягораў, як і тысячы іншых юнакоў і дзяўчат, усёй душой адгукнуўся на яго.

З цёплай усмешкай успамінае Якаў Ягораў сваю паездку на цаліну. Колькі прышлося пахвалявацца, калі кіраўніцтва завода не хацела адпускаць лепшага спецыяліста ў самы гарачы для прадпрыемства час. Знайшліся і такія людзі, што адгаварвалі Ягорава.

— Глядзі, пашкадуеш, што паехаў. Набярэшся гора.

З пагардай слухаў Якаў гэтыя папярэджанні. Праўда, іх было вельмі нямнога, такіх баязліўцаў.

З цалінных зямель ён прыехаў з радасным пачуццём таго, што і ён стаў удзельнікам сапраўдных гераічных спраў. Як ганаровую памяць аб гэтай паездцы Ягораў прывёз прэмію з соўгаса «Большэвік» Кустанайскай вобласці, дзе ён працаваў,— настольны гадзіннік.

І не толькі аднаго Ягорава кліча да сябе цалінная зямля. На пастаянную працу туды паехалі рабочыя завода Валеры Літвіненка, Нікалай Смаленцаў і іншыя, мараць пабываць на цаліне сябры Якава Нікалай Някрасаў, Віктар Малашанка...

У гэтым імкненні да працоўнага подзвігу нібы знаходзяць увасабленне лепшыя рысы старэйшага пакалення, якое ў жорсткіх бітвах рэвалюцыі заваёўвала чалавечае шчасце. Слаўныя баявыя традыцыі завода, як ганаровую эстафету, праносяць сёння ў сваёй працы такія, як Якаў Ягораў — лепшыя прадстаўнікі малодшага пакалення. Завод Мяснікова з гонарам носіць імя аднаго з лепшых сыноў рэвалюцыі.

Комсамолец-брыгадзір Якаў Ягораў.



# ІЛЬІЧ І ПІОНЕРЫ

Цяпер нельга дакладна паказаць тое месца, дзе стаяў напоўразбураны каменны будынак — штаб першай «дзіцячай комуны». З 1921 года, калі нарадзілася гэтая комуна, прайшло шмат гадоў. Вядома толькі, што штаб размяшчаўся на Савецкай вуліцы ў Мінску. Каменны флігель служыў «комунарам» і штабам і клубам, а беспрытульным дзецям — домам.

У тыя гады ў Мінску запаліліся электрычныя лямпачкі над дзвярамі першых комсамольскіх клубаў,і дзеці, якім было яшчэ ранавата ўступаць у комсамол збіраліся сюды. Спачатку яны бянтэжыліся, трапіўшы ў новую абстаноўку. Але крыху асвойтаўшыся, прасілі старэйшых таварышаў: «Давайце і нам камандзіра! Выдзеліце і нам пакой для збораў».

Амаль адначасова з першай «дзіцячай комунай» у Беларусі пачалі ўзнікаць дзіцячыя клубы. У Слуцку такі клуб насіў імя Карла Лібкнехта, у Віцебску — імя Калініна.

Першыя дзіцячыя аб'яднанні ў Беларусі сталі добрай асновай для стварэння піонерскай арганізацыі. У нашай рэспубліцы піонерскія атрады былі створаны месяцам пазней, чым у Расіі,—20 чэрвеня 1922 года. У гэты дзень арганізаваўся першы атрад піонераў пры клубе профтэхшколы ў Мінску; у гэты-ж дзень Мінскі гарком комсамола выдзеліў 50 юнакоў і дзяўчат — першых важатых— для работы ў будучых піонерскіх атрадах. Праз тры месяцы ў Мінску было ўжо тры атрады, па аднаму атраду ўзнікла ў Слуцку, Чэрвені, Барысаве.

Атрымоўваючы з рук комуніста або комсамольца чырвоны гальштук, піонер даваў клятву: «Чэсным словам абяцаю, што буду верны рабочаму класу, буду штодзённа дапамагаць сваім працоўным братам. Ведаю законы піонераў і буду ім падпарадкоўвацца».

Сярод гэтых законаў самым першым быў закон: вучыцца. А вучыцца ў той цяжкі для краіны час, у голад і разруху, было нялёгка. Нехапала кніг, паперы. Было мала настаўнікаў. Але піонеры знаходзілі магчымасці выконваць свой найпершы закон.

Піонеры Горацкага атрада наладзілі ў сваім пасёлку платны спектакль. На выручаныя грошы купілі кніг, сшыткаў, алоўкаў. Потым узялі шэфства над усімі непісьменнымі дзецьмі пасёлка. А праз некалькі месяцаў горацкія піонеры з радасцю паведамлялі ў губком комсамола: «Пятнаццаць нашых дзяцей без адзінай памылкі напісалі пісьмо Ільічу».

Такіх пісем у той час Уладзімір Ільіч атрымоўваў нямала, і яны вельмі радавалі яго.

У лістападзе 1922 года Ленін, гутарачы з Кларай Цэткін, выказваў задавальненне ўзрастаючай актыўнасцю дзяцей:

«Уявіце сабе, днямі я атрымаў пісьмо з глухой вёсачкі. Каля сотні дзяцей пішуць мне: «Дарагі дзядуля Ленін, мы хочам табе расказаць, што мы вучымся старанна. Ужо добра ўмеем чытаць і пісаць, робім многа добрых рэчаў...»

Вось бачыце, мілая Клара, мы робім поспехі ва ўсіх галінах, сур'ёзныя поспехі...

Паглядзіце, у нас нават дзеці ў вёсках удзельнічаюць у стварэнні савецкай Расіі. І пры гэтых умовах ці-ж павінны мы баяцца, што перамога будзе не на нашым баку?»

З першых-жа сваіх крокаў атрады юных піонераў стараліся ісці ў нагу з жыццём усёй краіны. Юныя спартакі (так называлі сябе тады беларускія піонеры) удзельнічалі ў святкаванні дня вызвалення Беларусі ад белапольскай акупацыі, дапамаглі ў арганізацыі Агульнарасійскай сельскагаспадарчай выстаўкі, разам з комсамолам рыхтаваліся да Міжнароднага юнацкага дня.

Піонерскія атрады пачалі ўмацоўвацца, пашыраць свае рады ў горадзе і вёсцы, паявіліся першыя піонерскія песні, калі краіну абляцела жалобная вестка: «Памёр Ленін!»

9 лютага 1924 г. ў Мінску, на сходзе піонераў усяго горада, было ўрачыста аб'яўлена: «Піонерскай арганізацыі Савецкага Саюза прысвоена імя Уладзіміра Ільіча Леніна».

У маі гэтага года піонерскай арганізацыі імя Леніна спаўняецца трыццаць пяць год. Для юных ленінцаў самай пачэснай справай па-ранейшаму застаецца выкананне запаветаў Ільіча, дарагое імя якога так цесна звязана з нараджэннем першых піонерскіх атрадаў.

**В. МАРОЗАЎ.**



# ВЕРШЫ

Ніл ГІЛЕВІЧ

## Унук

У сям'і павага ў нас мужчынам:
Дзед тапіў дзенікінцаў у Доне,
Бацька ўзводзіў горад на Амуры,
Брат старэйшы штурмаваў Берлін.
Ну, а я? Прызнацца, грэшным чынам,
Я адно зайздросціў іхняй долі,
Ды ў кампаніі рабога Шуры
Маладых варон здымаў з ялін.

Гераічнага было нямнога.
Праўда, знаў і я падчас адвагу,
Калі у сад, разведчыкі нібыта,
Мы паўзлі да грушы напрасткі.
Дома лаялі за гэта строга.
І якую меў я там павагу?
Толькі й чуў ад маці: «Ах, прабітнік!
Так расшастаць новыя парткі!»
«І ў каго ён урадзіўся гэткі?
Каб не грэх, сказаў-бы, што ў суседа», —
Жартаваў, падвыпіўшы, бывала,
Бацька мой, на слоўца не скупы.

Толькі час ішоў. І неўзаметку
Мне і сорамна і прыкра стала
Выхваляцца подзвігамі дзеда,
Завадзілам быць у шантрапы.

Я пазнаўся з тайнамі юнацтва
І, вяртаючыся неяк з клуба,
Летнім вечарам, ля самай брамкі,
Так сказаў суседавай дачцэ, —

Не, сказаць не змог я, а знянацку
Прыхіліў, пацалаваў у губы,
І пачуў, як бразганула клямка,
Паслухмяная яе руцэ...

Я пайшоў на курсы трактарыстаў
І вясной назад вярнуцца меўся,
Ды, на шчасце, быў я аднагодак
Тых, каго пазваў пярэдні край.
І пісалі мне, што цётка Хрыста
Праклінала мяне цэлы месяц
За сынка, якога я, нягоднік,
За сабою звёў аж на Алтай.

Стэп бязмежны... Гразь ды вецер моцны.
На світанні — дрыжыкі ў палатцы,
Суп «нішчымны», з дымам упрыкуску,
А ўпрыглядку на дзяўчат — чаёк...
Ды натое мы і камсамольцы,
Каб не хныкаць у суровай схватцы!..
Да бацькоў, у край мой беларускі,
Я прыехаў пагасціць здалёк.

У сям'і павага ў нас мужчынам:
Дзед тапіў дзенікінцаў у Доне,
Бацька ўзводзіў горад на Амуры,
Брат — герой апошняе вайны.
Ну, а я? Прызнацца, грэшным чынам,
Не чакаў, што выпадзе мне доля
У кампаніі рабога Шуры
Пакараць прасторы цаліны!

Еўдакія ЛОСЬ

## Заклік

Ні дня без радка, малады ты ці сталы.
Ні дня без радка, покуль сэрца не стала.
Ні дня без радка, покуль нівы ў калоссі.
Ні дня без радка, покуль маткі галосяць.

Ні дня без радка, — хай бракуе газета
Ці ганіць часопіс тварэнне паэта...
Расла ў лесе ёлка нябачнай нікому,
А вырасла — ёлку паставілі ў доме.

Агні запалілі, пусціліся ў скокі
Ды лес пахвалялі, духмяны, высокі...

Падоўгу майстры шліфавалі дэталі,
Якія разумнай машынаю сталі.

Як ёлка ігліцу, радок кожны трэба
Заўсёды старанна вырошчваць на глебе.
І трэба яго шліфаваць пастаянна,
Каб ён, як дэталь, быў заўжды без заганаў,

Ён, быццам-бы тая дэталь у машыне,
У вершы заняць сваё месца павінен.
Ні дня без радка, покуль ходзіш па свеце,
Ні дня без радка, покуль ён на прымеце!

* * *

Ноч ступае ціхенька па сходнях,
Сон паўзе паціху да вачэй...
Штосьці недадумана сягоння,
Штосьці недароблена яшчэ.

Што? Пытанне побыту малое:
Як адзецца, снеданне зварыць?
Ці пачуцце мучае былое,
Ці жаданне новае гарыць?

Ці маркота стукае у скроні
Па яшчэ няпройдзеных шляхах?

Ці па працы той свярбяць далоні,
Што яшчэ не пабыла ў руках?

Як прымусіш сэрца да спачыну,
Ці супыніш хоць на хвілю бой,
Калі сэрца — першая прычына,
Што не можа зладзіцца з сабой?

Калі у сэрцы столькі на спагаду,
На жальбу і радасць вугалкоў,
Што шкада мясціцца у засаду
З пухавых утульных сяннікоў.

Мікола СІСКЕВІЧ

## Знаёмаму будаўніку

Дошка гонару. Чырвань сцягоў.
Твой партрэт і на ёй і ў газетах.
Збудаваў ты нямала дамоў
За мінулае лета.

Ты вядомы рэспубліцы ўсёй,
Мой зямляк з Наднямоння.
Што ні дом, гэта працы сваёй
Лепшы помнік ты ставіш сягоння.

## На паляванне

Дзень мінуў у нецярплівых зборах.
Ёсць усё, што для дарогі трэба.
Многа шроту, самы лепшы порах
І акраец у дадатак хлеба.

Наступілі дні для палявання.
Не сядзіцца зараз многім дома...
Над зямлёю стрэл мой гэтым раннем
Загрыміць вясновым першым громам.

Васіль МАТЭВУШАЎ

## Хоць і пазнілася вясна...

Хоць і пазнілася вясна,
Снег не зыходзіў з дахаў,
схілаў,
А мне здавалася, яна
Збірае сонечную сілу.

І калі раптам ручаі
Пабеглі ад сяліб, узлескаў,
І, быццам на паказ, гаі
Свае рассыпалі пралескі,

А на Дняпры ўзарваўся лёд,
І цёплы дождж, як з душа, хлынуў,
Відаць было, што веснаход
Нарэшце рушыў у краіну.

Бо каб сады ўсе зацвілі,
І праараслі зярняты ў глебе,
Сабраць для нашае зямлі
Надзвычай многа сонца трэба.

Леанід ЯУМЕНАЎ

## Вясна ў дарозе

Вецер з галавы зрывае шапкі, —
Так імчыць машына ў гэты час,
Елкі з боку працягнулі лапкі,
Быццам просяцца: «Вазьміце нас».

Запяваюць жаўрукі над хатай,
Ледзь успыхне ранняя зара,
Клічуць на палі яны аратых:
«Гэй, выходзьце, пачынаць пара!»

Ходзіць важна бусел пры дарозе,
Быццам поле мерае, дзівак,
Над шпакоўніцаю на бярозе
Заліваецца вяртлявы шпак.

Паглядзіш і аж прыжмурыш вочы,
Ззаду ўжо сяло, рака і гаць,
А наперадзе вясна ўсё крочыць
І адной яе не абагнаць.

Аляксей ПЫСІН

## Вясновае

Дарогу асядлаў сумёт,
Машына ані з месца;
Рыдлёўку ўзяў шафёр,
І пот
З яго гарачы льецца.

Смяецца сонца:
— Скінь кажух,
Іду я на падмогу,
Хутчэй мы згонім снег удвух
І вызвалім дарогу.

Юрась СВІРКО

## На прадвесні

Ізноў пацеюць круглыя узгоркі,
На сонцы лысіны свае прыгрэўшы.
Гракі сваю картавую гаворку
Рассыпалі на маладыя дрэўцы.
Снягі набраклі талаю вадою
І з кожнай хвіляй чэзнуць і чарнеюць,
А цераз поле доўгай паласою
Ад лыжаў лёд, як два рубцы, сінее,
Часамі вецер свішча па кюветах,
У маладзенькіх яблынь стынуць
пальцы,
Ды адчуваю па усіх прыкметах,
Што сцюжы ўжо нядоўга затрымацца.

Уладзімір КАРАТКЕВІЧ

## Вясна

Раму з трэскам выняла з акенца
І да сіні праціраеш шкло,
Шэрай пыльнай ваты верацёнца
Ветрыкам у кветнік аднясло.

Кожны, хто праходзіць, азірнецца,
Хоць спяшаў кудысь, як на пажар,
І ў адказ вясною усміхнецца
Мілы-мілы сінявокі твар.

Добра ёй спяваць пад небам сінім,
Добра раму у руках трымаць.
У сонечным святле стаіць дзяўчына,
Радасная, як вясна сама.



# КАНТРАЛЁРЫ

С. КУХАРАЎ

Адчыніўся магазін, і людскі натоўп хлынуў у дзверы, растварыўся ў вялікай прасторнай залі. Утаймавалася, сціхла вірлівая мітусня, што звычайна ўзнікае, як толькі расчыняцца шырокія дзверы крамы. За прылаўкамі напагатове стаялі прадаўцы ў белых халатах...

— Мне, калі ласка, поўкіло макарону і поўкіло цукру, — папрасіў малады мужчына ў паношанай ватоўцы і працягнуў жанчыне-прадаўцу аплачаныя ў касе чэкі. Жанчына ўмомант напакавала папяровы мяшэчак, паклала на вагі і падала яго пакупніку, потым гэтак-жа хутка падала другі кулёк, з цукрам.

— Наступны!

Мужчына, зазірнуўшы на цыферблат вагаў, спакойна заўважыў прадаўцу:

— У вас няправільна адрэгуляваны вагі.

— Дзе, дзе няправільна? — злосна бліснула вачамі прадаўшчыца і загрымела вагамі. — Падумаеш, знайшоў няправільнасць — грам нейкі. Наступны!..

— У вас вагі тарыраваны няправільна на пяць грамаў, — строга паўтарыў мужчына. — Гэта не дробязь, — і паклаў руку на пакункі. — А зараз праверым, ці дакладна вы ўзважылі... Я — грамадскі кантралёр. Вось маё пасведчанне.

Жанчына за прылаўкам войкнула. Замітусіліся прадаўцы ў іншых аддзелах. Імгненна панеслася ў касу: «Кантралёры. Выбівайце толькі норму». Касірша выцягнула аднекуль з-пад зэдліка, на якім сядзела, кнігу скаргаў...

Мужчына ў ватоўцы — слесар-зборшчык машынабудаўнічага завода Леанід Медзік. Добры працаўнік, перадавік вытворчасці, Леанід таксама сумленна і шчыра выконвае адказнае даручэнне свайго рабочага калектыву — удзельнічае ў грамадскай праверцы прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання ў горадзе. Ужо два гады, як Леанід вядзе праверку грамадскага гандлю. Бывае, што нехапае дня, даводзіцца прыхапіць і вечар, і ноч, але зрабіць усё як мае быць. Часта на кантралёрскім шляху расстаўляюцца хітрыя пасткі. Схопленаы за руку махляр ідзе на ўсялякія агіднасці — імкнецца падкупіць, спакусіць выпіўкай, абы толькі выйсці сухім з вады. Але кантралёра нічым не возьмеш. Гэта чалавек, які даражыць сваім сумленнем; чалавек, які вышэй за ўсё ставіць давер'е свайго калектыву.

Такі Леанід Медзік — грамадскі кантралёр.

І ён не адзін. На тым-жа машынабудаўнічым заводзе імя Сталіна ёсць дзесяткі актывістаў, упаўнаважаных профсаюзнай арганізацыяй сачыць за парадкам у магазінах, сталовых, буфетах, палатках — ва ўсіх гарадскіх гандлёвых кропках.

— Грамадскія кантралёры, — гаворыць у гутарцы з намі старшы гарадскі гандлёвы інспектар Мікалай Аляксандравіч Ланін, — нашы найпершыя памочнікі, надзейная сіла ў навядзенні належнага парадку ў гандлі.

Мікалай Аляксандравіч паказвае аб'ёмістыя папкі з актамі — данясеннямі грамадскіх кантралёраў і задаволена расказвае аб той вялікай і важнай справе, якую робяць на сваім адказным пасту Леанід Медзік, яго сябры па заводу Якаў Селіванаў, Зянон Грабін, Змітрок Воранаў, Аскальд Клімаў і многія іншыя.

У спісах актыву гарадской гандлёвай інспекцыі налічваецца звыш сямідзесяці чалавек. Гэта простыя, радавыя людзі з фабрык і заводаў, актывісты, якія добраахвотна, па сваёй уласнай ініцыятыве, дапамагаюць партыйным і савецкім органам у навядзенні ўзорнага парадку ў гандлі — складаным і адказным участку нашай гаспадаркі.

Узяць, да прыкладу, таго-ж Якава Селіванава — слесара-зборшчыка з машынабудаўнічага завода, які працуе ў адной брыгадзе з Леанідам Медзікам. Селіванаў ужо дзесяць год працуе грамадскім кантралёрам. На яго можна заўсёды спадзявацца. Няхай Селіванаў не так гладка афармляць матэрыялы, як гэта зробяць больш пісьменныя людзі, затое ад яго пільнага вока не схаваецца ні адна дробязь. Імена з дапамогай такіх людзей, як Селіванаў і Медзік, у горадзе наведзены парадак у гандлі хлебам і іншымі прадуктамі, палепшылася абслугоўванне ў сталовых і буфетах.

Добра зарэкамендавалі сябе кантралёры Анатоль Машноў і Вольга Данілава — работнікі фабрыкі імя Дзержынскага. Праўда, яны яшчэ не маюць дастатковага практычнага вопыту, але ўжо адно тое, што бяруцца за справу горача, з душой, гаворыць само за сябе.

Анатоль удзельнічаў у адказных рэйдах па праверцы якасці прамысловых тавараў, што паступаюць у магазіны і палаткі, і як майстар-прыёмшчык, аказаў вялікую дапамогу работнікам прылаўка. Камсамолка Вольга Данілава ўзначальвае групу рабочага кантролю на фабрыцы. Сумесна з камсамольскімі актывістамі яна навяла належны парадак у сваёй фабрычнай сталовай, актыўна ўдзельнічае у праверках гандлёвых прадпрыемстваў горада.

Старшы дзяржаўны гандлёвы інспектар прыводзіць красамоўныя лічбы і факты. За год сіламі грамадскіх кантралёраў праверана 758 прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання, у тым ліку — 149 кропак дробных рознічных тавараў.

І што гэта дало?

У магазінах, сталовых і буфетах паменшала злоўжыванняў, палепшылася культура гандлю і абслугоўванне працоўных. Па матэрыялах кантралёраў звольнена з працы ў гандлі 7 чалавек, 80 чалавек атрымалі службовае спагнанне.

Грамадскі кантралёр — пільнае вока. Як толькі ён паявіцца ў магазіне ці ў сталовай, не будзе літасці ні прадаўцу, нячыстаму на руку, ні повару-махляру, ні буфетчыцы-круцельцы...

...Леанід Медзік адрэгуляваў як мае быць вагі і ў прысутнасці прадаўца Гені Флідар і намесніка загадчыка магазіна Ларысы Сядлухі ўзважыў закупленыя для кантрольнага замеру тавары — макароны і цукар. Аказалася, што не хапіла на кожным поўкілаграма — па дзесяць грамаў. Апрача таго, вагі былі ўстаноўлены няправільна — на пяць грамаў абважвалі пакупніка.

— Складзем акт, — коратка сказаў Леанід і папрасіў халат, каб зайсці за прылавак.

— За што-ж гэта? Людзі, глядзіце! — залементавала Геня, імкнучыся знайсці падтрымку ў пакупнікоў, што стаялі ў чарзе. Але тыя зацята маўчалі. Відаць было, што і яны ёй не спачувалі. А пажылы чалавек з гаспадарчай сумкай у руцэ, звяртаючыся да кантралёра, заўважыў:

— Укажыце, таварыш, яшчэ, што парушаюцца нормы продажу тавараў у адны рукі.

Геня Флідар, збянтэжаная, спрабавала нешта давесці, апраўдвалася. Але кантралёр пісаў ужо акт...

У гэты час другі кантралёр Якаў Селіванаў, які зайшоў у магазін адначасова з Медзікам, апрануўшы халат, накіраваўся ў падсобнае памяшканне. У яго была задача — праверыць, як захоўваюцца прадукты, у якім стане памяшканне, тара, спецвопратка і г. д.

— Гэта ў вас так захоўваецца цукар? — пытае Селіванаў у намесніка загадчыка магазіна Ларысы Сядлухі, заўважыўшы груду мяшкоў з цукрам на вільготнай, бруднай падлозе. — А гэта што? — ён паказвае на адкрыты бідон са смятанай, заціснуты паміж бочкамі з сялядцамі. — Хіба так можна хаваць прадукты?

Намеснік загадчыка магазіна — маладая, на выгляд прыемная жанчына, — маўчыць, густа чырванее. А потым, крыху супакоіўшыся, нясмела апраўдваецца:

— Гэтага я не заўважыла. Мне ў гадзіну трэба было-б змяняцца, але вось недзе загадчык магазіна затрымаўся...

Кантралёр пачаў праглядаць

**Грамадскі кантралёр Вольга Данілава** (злева) **правярае якасць абутку ў магазіне № 2.** Побач — **лепшы прадавец камсамолка Ада Бараноўская.**

Фото С. Чырэшкіна.



кнігу скаргаў. Яго ўвагу прыцягнулі запісы наконт таго, што тавары адпускаюцца ў магазіне без упаковачнай паперы.

— На скаргі рэагуеце? — коратка пытае ён у Сядлухі, хітравата ўсміхнуўшыся.

— А як-жа, рэагуем,—ціха адказвае тая.

— Відаць, толькі на словах,— патушыў усмешку ў шэрых вачах кантралёр. — Каб упакоўкі хапала, не было-б столькі скаргаў...

Сядлуха маўчыць, апусціўшы паружавелы твар.

Якіх-небудзь дзве-тры гадзіны пабылі ў той дзень кантралёры Леанід Медзік і Якаў Селіванаў у магазіне № 61 Бабруйскага міжрайгандлю, але зрабілі там прынцыповыя заўвагі, выявілі сур'ёзныя недахопы. У абавязковым указанні свайго акту яны запісалі: «Забараніць продаж тавараў з транспартнай тары непасрэдна, а выкарыстаць для гэтага ўсе шуфляды; строга сачыць за дакладнасцю вымяральных прыбораў; узмацніць кантроль за работай прадаўцоў; забараніць хаванне прадуктовых тавараў на падлозе, для чаго абсталяваць спецыяльныя падкладкі — падтаварнікі».

Неахвотна падпісвала акт Сядлуха. Прадавец Геня Флідар разоў некалькі перачытала тыя радкі, што датычыліся яе, узяла аловак, потым паклала яго і, збіваючыся, зноў затараторыла:

— Уранку я паглядзела — вагі ў парадку. А цяпер, на табе, калі ласка... Нехта падкруціў...

— Але факт абважвання вы не адмаўляеце?

— Якія-ж гэта злоўжыванні — пяць грамаў, — Геня Флідар развяла рукамі. — Злоўжыванняў тут няма!..

— Тады напішыце сваё тлумачэнне, — гаворыць Медзік і падае прадаўцу чысты папяровы бланк. Памаўчаўшы, пытае:

— Заўвагі па рабоце раней мелі?

— Не, ніколі, — адказвае Геня і падпісвае акт, потым ідзе за прылавак адпускаць тавары. Мне чамусьці падумалася: гэта запомніцца ёй на ўсё жыццё.

Ужо звечарэла, калі мы з кантралёрамі выходзілі з магазіна. Горад заззяў агнямі. Нам прадстаяў яшчэ рэйд у адну са сталовых, якая знаходзіцца ў цэнтры горада.

— Як хочаце, хлопцы, але з вамі сёння я ўжо не паеду,— просячы прабачэння, загаварыў Леанід Медзік. — Мне трэба заступаць на змену. Самі разумееце—канец месяца...

Шкада было расставацца з нашым таварышам, але ў сталовую № 1, што на Сацыялістычнай вуліцы, мы адважыліся рушыць і без яго. Тым больш, што да нашай групы далучылася Леаніда Ільінічна Бокая — дзяржаўны гандлёвы інспектар, спрактыкаваны знаўца сваёй справы. Ды і Селіванаў — хлопец такі, якога, як мы мелі магчымасць упэўніцца, не абвядзеш вакол пальца.

І ўсё-ж у сталовую нашым кантралёрам трапіць інкогніта не ўдалася. Не паспелі яны сесці за столік і зрабіць заказ, як тут зараз-жа паявіліся і загадчык сталовай Вішнецкі і шэф-повар Холін. На іх угодлівых тварах было напісана: «Калі ласка, правярайце. Але, далібог, нічога не знойдзеце. У нас — парадак, камар носу не ўтыкне!..»

Зіновій Маркавіч Вішнецкі завёў доўгую размову пра тое, што яму няма ніякай дапамогі ад начальства, што цяжка «выцягнуць план», а шэф-повар з нейкім незвычайным здзіўленнем усё пазіраў на фотакарэспандэнцкі апарат...

Улучыўшы хвіліну, Леаніда Ільінічна хутка пайшла насустрач афіцыянтцы і, папрасіўшы прабачэння ў мужчын, якім несліся за столік гэтыя блюды, узяла ў яе талеркі. Селіванаў умомант апынуўся на кухні. Праверка пачалася.

Кантралёры пацікавіліся і захаваннем нормы выхаду блюд згодна калькуляцыі, і якасцю іх гатавання і афармлення, і санітарным станам сталовай.

На кухні, у падрыхтоўчым цэху, паміж кантралёрам Селіванавым і поварам Тацянай Міхайлаўнай Букась адбылася такая размова.

— Скажыце, калі ласка, — звярнуўся Селіванаў да повара, — вы ўзважваеце порцыі мяса перад гатаваннем?

— Узважваю, — бойка адказала Тацяна Міхайлаўна. — Кожную порцыю ўзважваю дакладна, грам да грама!..

— А мы зараз пераважым.

— Правярайце. Я спакойная.

Пачалі пераважваць падрыхтаваныя біфштэксы. Порцыю за порцыяй кідаючы на вагі, повар пільна сачыла за кожным рухам кантралёра. Недахопу няма.

І раптам кантралёр аб'яўляе:

— Нехапае!..

Тацяна Міхайлаўна ўзварухнулася, замітусілася.

— Усяго-ж тры грамы! — апраўдвалася яна. — Мяса рэдкае, і тут, як ні старайся, можаш пралічыцца...

— Трэба, Тацяна Міхайлаўна, рабіць усё пэўна, без праліку, — гаворыць Селіванаў, і на яго спакойным, строгім твары мільганула ўсмешка.

Затое повару-раздатчыку Ізі Лур'е было зроблена сур'ёзнае папярэджанне. Па яго віне чатыры ўзятыя на праверку шніцелі не адпавядалі норме на 10—15 грамаў кожны. Гэта адзначана ў акце. А калі адзначана, будзе спагнанне!

Дарэмна ўсміхаліся і загадчык сталовай з шэфам-поварам. У акце і для іх запісана: строга захоўваць нормы выхаду блюд, забараніць уваход на кухню каму-б там ні было без спецвопраткі, зняць з карыстання непрыгодны посуд.

Калі кантралёры выйшлі ў залу, тыя мужчыны, у якіх прасіла прабачэння іспектар Бокая, пожартам спыталі:

— Што, нехапіла?

— Крышку нехапіла, — шчыра адказала Леаніда Ільінічна.

— Ну, вось бачыце, — зноў з усмешкай прагаварыў адзін з іх:—А што было-б, каб вас не было!..

Нам здаецца, што гэта не жарт. Гэта — праўда.

Дзелячыся думкамі аб сваёй працы кантралёра, Якаў Сямёнавіч Селіванаў гаворыць:

— Грамадскія кантралёры — гэта добра. Там, дзе забяспечаны належны кантроль, выключана ўсякая магчымасць жульніцтва і махінацый. Але бяда ў тым, што з намі, кантралёрамі, ніхто сур'ёзна не працуе. Адмахваюцца ад гэтай справы заводскія і фабрычныя камітэты прафсаюза. Не тое каб калі сабралі, пагутарылі з намі, дык нават на праверку адпускаюць неахвотна. А мы-ж вунь якую маем патрэбу ў дапамозе і вучобе!..

З Селіванавым згаджаецца і старшы гандлёвы інспектар Ланін. Ён скардзіцца на тое, што мясцовыя прафсаюзныя арганізацыі прамысловых прадпрыемстваў самаўхіліліся ад арганізацыі рабочага кантролю, і просіць, каб такіх прафсаюзных кіраўнікоў, як Соркін з мясакамбіната, Дорахаў з цагельнага завода, Пархомчык з горпромкамбіната — раскрытыкавалі ў друку...

Нядаўна на лесакамбінаце Леаніда Ільінічна Бокая праводзіла з кантралёрамі нараду. Сабралася чалавек 25. Ахвотна выступалі, раіліся, з чаго пачаць работу. Усе прызналіся, што зусім не ўяўляюць практычна сваіх кантралёрскіх абавязкаў. На нараду прыйшоў намеснік старшыні мясцовага камітэта т. Барботкін. Усе чакалі, што прафсаюзны кіраўнік шчыра пагутарыць з людзьмі, дапаможа ім пераадолець першыя сумненні, але ён не знайшоў часу нават дасядзець да канца гэтай нарады. Не дзіва, што хлопцы-кантралёры абурыліся такімі адносінамі да іх з боку мясцовага камітэта.

— Нас не вучаць, як трэба рабіць праверкі, — гаварыў адзін малады рабочы. — Я думаю, што гэта робіцца знарок. Магчыма, так лепш для нашага-ж камбінатаўскага начальства: лягчэй будзе прыхапіць што-небудзь лепшае з магазіна...

Дзеля справядлівасці трэба заначыць, што і гарадская гандлёвая інспекцыя, са свайго боку, недастаткова займаецца падборам і выхаваннем грамадскіх кантралёраў. Гарадская гандлёвая інспектура пакуль яшчэ не мае цеснай сувязі і з гаркомам камсамола, з камсамольскімі арганізацыямі буйных прамысловых прадпрыемстваў, слаба абапіраецца на падтрымку камсамольцаў. А між іншым імена сярод маладой гвардыі рабочага класа можна заўсёды знайсці выдатных актывістаў, сапраўдных ініцыятараў.

Каб работнікі гандлёвай інспекцыі больш уважліва ставіліся да людзей, якім выдаюцца пасведчанні грамадскага кантралёра, глыбей вывучалі іх дзелавыя якасці, то не было-б сёння тых сумных фактаў, якімі праславілі сябе «няштатнікі» Герасімёнак, Каваленка і іншыя. Аднойчы, робячы праверку ў магазіне, яны спакусіліся «гасціннасцю» гандляроў, а тыя і дапамаглі кантралёрам трапіць у выцверазіцель...

Грамадскія кантралёры — гэта людзі, якія пільна стаяць на варце інтарэсаў дзяржавы і народа. І крыўдна, што часам аб гэтым хто-кольвечы з кіраўнікоў на месцах забывае.

**г. Бабруйск.**



— Якія-ж гэта злоўжыванні — пяць грамаў! — разводзіць рукамі Геня Флідар.



— Гэта ў вас так захоўваецца цукар? — пытае Якаў Сямёнавіч Селіванаў.



— Усяго-ж тры грамы нехапае, — апраўдваецца повар Тацяна Міхайлаўна Букась.



# ДЭПУТАТКА

Аляксей **КУЛАКОЎСКІ**

Мал. Ю. Пучынскага.

**Раздзелы з новай аповесці, напісанай аб рабоце аднаго сельсовета. Асноўны персанаж твора — маладая дзяўчына Даша, дэпутат сельсовета. У сваёй грамадскай дзейнасці яна сустракае многа перашкод і цяжкасцей, увесь час вядзе нястомную барацьбу з гэтымі цяжкасцямі. Дзеянне адбываецца некалькі год таму назад.**

Мокрут сядзеў у дубовым крэсле з высокай спінкай, і гэта рабіла яго падобным на суддзю. Гадоў дваццаць таму назад гэтае крэсла было прынесена ў сельсовет з папоўскага дома, вайну перажыло, больш дзесятка старшынь на ім змянілася, і вось цяпер служыць яно Мокруту. Насупраць старшыні, ля стала, успіраючыся на кіёк, стаяла бабулька.

— Дык усё ясна?— мабыць ужо канчаючы размову, спытаў у яе Мокрут і пастукаў пальцам па рубцы стала. — Калі праз два дні не ўнясеш!...— і старшыня не гаварыў больш, а ўсё стукаў пальцам.

Даша сядзела блізка ад стала і сумна паглядвала на мокрутаў палец. Яна ўжо ведала, што азначаў гэты стукат, якія словы замяняў. Відаць, здагадалася пра гэта і бабулька, бо заплакала і яшчэ ніжэй нагнулася над кійком.

— З чаго-ж я ўнясу?— скрозь слёзы паскардзілася яна.—Дачка хворая, і сама я ледзь хаджу. Сыны на фронце загінулі. У хаце нават куска хлеба сягоння няма.

— Нічога не ведаю!— сказаў на гэта Мокрут.

— І каб за што быў гэты падатак,— працягвала старая, павярнуўшыся ўжо да незнаёмай ёй дзяўчыны, — а то-ж за дуплаватую дзічку. Яна і не родзіць ужо колькі год.

— Нічога не ведаю!— паўтарыў старшыня.

Калі бабулька выйшла, Даша спытала ў Мокрута, чаму ён так размаўляе з людзьмі, няўжо не відно, што ў старой няма з чаго заплаціць падатак, што, магчыма, і налічаны ён няправільна.

— З табой я яшчэ горш пагавару,— адказаў на гэта старшыня.

— Ну, паспрабуй!

— І спрабаваць няма чаго!— Мокрут падняў руку, каб зноў застукаць пальцам аб стол, аднак раптам перадумаў і ўстаў.— Ты колькі падатку сабрала за гэты тыдзень? Што, я за цябе пайду па хатах, буду гаварыць з тваімі неплацельшчыкамі?

— Я таксама не пайду па хатах,— цвёрда сказала Даша.— Вунь фінагент для гэтага ёсць.

—А для чаго ты пастаўлена? Для чаго?— Мокрут папраўіў на сабе кіраўнічы фрэнч пехацінскага колеру і падыйшоў да дзяўчыны.— Мы цябе для таго і паставілі, каб ты дапамагала сельсовету.

— Хто гэта—мы?

— Я, напрыклад.

— Ты мяне паставіў дэпутаткай?

— А хто, ты думала?

— Я думала і думаю, што мяне выбралі людзі.

Мокрут засмяяўся, як смяюцца дарослыя з дзяцей, і сеў побач з Дашай.

Дзяўчына здзіўлена глянула на старшыню і адсунулася.

— Пачакай, пачакай,— расставіў Мокрут рукі.— Пасядзі, паслухай! От збяру я сёння сход і скажу, што трэба нашу Тамілаву гару скапаць і перанесці ў другое месца. Думаеш не прагаласуюць?

— Глупства якое!— абурылася дзяўчына.— Я і слухаць не хачу!

— Не, ты пачакай!— намагаў старшыня. — Паслухай далей! От збяру сход і скажу, што трэба канал правесці праз усе нашы пяскі аж да самага райцэнтра. Прагаласуюць ці не? Як ты думаеш?

— Вядома не!— рэзка адказала дзяўчына.

— А я думаю, што прагаласуюць. Капаць не будуць, а прагаласаваць — прагаласуюць. Возьмем, давай, для прыкладу, твайго бацьку...

— Ну, хопіць!— ледзь не крыкнула Даша і, устаўшы, падалася да дзвярэй.— Агідна мне слухаць тваю гэтую філасофію. А бацькі майго не чапай! Досыць з яго ўжо таго, што было! І потым вось што: не табе яшчэ судзіць аб старых людзях!

— Дык хіба я... Слухай!— Мокрут мякка пакрочыў услед за дзяўчынай.— Хіба я што дрэннае гавару? Калі сказаць па чыстай совесці, дык я вельмі паважаю твайго бацьку. А цябе яшчэ больш. Давай на гэтым і скончым сёння. Не для таго я цябе запрашаў, калі гаварыць па чыстай совесці.

— А для чаго?— Даша ўзялася за ручку дзвярэй, аднак пакуль што не адчыняла.

— Пастой крыху,— пачаў прасіць Мокрут.— Ну, чаго ты ўзлавалася? Прыходзь сёння ўвечары ў школу, спектакль мы тут будзем паказваць. І мяне ўцягнулі, успомнілі талент юнацтва: п'яніцу аднаго буду прадстаўляць.

— Самога сябе?— спытала дзяўчына і крыху адступіла ад дзвярэй.

Мокрут зноў засмяяўся, але Даша заўважыла, што павекі яго залыпалі і пад калючымі, шэрымі вачамі з'явілася чырвань.

— Чаму ты думаеш, што сябе?—відаць, даруючы дзяўчыне ўсё, загаварыў старшыня. — Хіба я адзін выпіваю? Вунь добрасельцы, нашы з табой суседзі, глядзі што ўсё збожжа перагоняць на самагонку.

— Добрасельцам не вельмі ёсць з чаго гнаць,— не згадзілася Даша,— а ў другіх вёсках то гоняць, праўда.

— Добрасельцы бульбу пераганяюць,— удакладніў старшыня,— але-ж цяпер у нас не пра гэта гамонка. Я запрашаю цябе на спектакль і буду чакаць каля школы. А ты паабяцай, што прыдзеш.

— Не прыду!—цвёрда сказала Даша.—Часу мне цяпер няма ды адна дадому баюся ісці.

— Разам пойдзем! От якая ты!— Мокрут паспрабаваў узяць дзяўчыну за локаць, але яна рыўком адвяла сваю руку і зноў падалася да дзвярэй.

— Даша!— пачаў прасіць старшыня. На яго круглым, ужо з валячком, твары расплылася ўся тая ласкавасць, на якую ён толькі быў здольны. — Ну, сядзь, пасядзі, давай яшчэ пагамонім. Чаму ты такая халодная да мяне? Калі гаварыць па чыстай совесці, то я...

— Што?— з насцярожаналй усмешкай спытала Даша і паставіла нагу ў белым валёначку на парог.

— Я ўжо даўно сохну па табе. Хіба ты не бачыш?

— Не бачу і бачыць не хачу!— сказала Даша.— Ёсць у цябе па кім сохнуць!

— Эх, што ты за чалавек!— нібы крыкнуў, нібы застагнаў старшыня і, закрыўшы рукамі твар, адышоў ад дзяўчыны.— Да чаго ты мяне давядзеш!— Ён цэрабіў пальцамі свой баксёрскі чубок, узбуджана хадзіў па пакоі. Можна было падумаць, што чалавек прышоў у адчай, але Дашы чамусьці не верылася ў гэта.

— Ну, чаму мы сёння так размаўляем? — узрушана загаварыў Мокрут, прыхінуўшыся локцямі да ваконнай шалёўкі. — Не для гэтага я цябе зваў сёння і не для гэтага стараўся, каб ты была дэпутаткай. Мне ты патрэбна для душы, для сэрца, якое ўжо стала забываць, што такое ласка, што такое добрае чалавечае цяпло. Думаў — будзеш дэпутаткай, дык часцей будзем сустракацца, лепшыя будуць умовы для размоў, для дружбы. А выходзіць, што... Магла-б ты ведаць, Даша, што мне не цяжка было-б прымусіць цябе стаць ласкавейшай. Вось зачыніў-бы дзверы і нікуды-б ты не дзелася. Нарэшце, ёсць у маіх руках і такія сродкі, што маглі-б параіць табе не вельмі сварыцца са мною. Ніхто ў сельсовеце не паказвае мне гэтакі гонар, які ты паказваеш. Але-ж я не хачу быць для цябе кепскім. Я для цябе нават і не старшыня, калі ты гэтага хочаш. Я ўсё для цябе зраблю! Усё! Разумееш?..

Мокрут адарваўся ад шалёўкі, падняў галаву і ад крыўднага здзіўлення ў яго затросся валячок: Дашы не было ў сельсовеце. Яна паціху выйшла, мабыць, яшчэ тады, калі старшыня толькі пачынаў сваё красамоўства. Пайшла адразу дадому.

Падцісnуты палазамі і машынамі снег скрыпеў пад нагамі, пасля пракуранага сельсовецкага пакоя дыхалася лёгка і прыемна. Даша хутка выйшла за ваколіцу, мінула два бяскрылыя млыны, якія ледзь чутна патрэсквалі на марозе, і пакрочыла па гравійцы проста ў сваю вёску. Невялікі, хоць і даволі калючы вецярок дзьмуў насупраць, але дзявочыя шчочкі не баяцца сустрэчнага ветру: Даша нават на цемя хустку не нацягнула. Просты і тонкі радок, паабапал якога не надта паслухмяна ляжалі каштанавыя валасы, трошкі пачырванеў ад холаду, гэтак-жа, як і лоб, як і адкрыты падбародак. У вушах прыкра гучаў голас Мокрута. Гэты чалавек, мабыць, яшчэ і цяпер стаіць ля акна, выказвае сваю крыўду.

Дзяўчыне цяжка было разабрацца, што гэта за чалавек, што ў яго на душы. Здаралася, што і раней яна пра гэта думала ды адганяла

думку ад сябе, каб не замінала. Некалі, да вайны, калі Даша была яшчэ зусім падлеткам, Казімір Мокрут, Казя, як тут яго звалі, быў не апошнім хлопцам у вёсцы. Куды там! Каб хто сказаў, што ён не самы першы, то Казя, напэўна, выдраў-бы яму вочы. Яно і прычын такіх не было, каб не лічыць яго першым. Хлопец быў на выгляд прыгожы, па таму часу нядрэнна адукаваны (скончыў сем класаў), умеў мацней за ўсіх заспяваць, найлепш адстукаць гапака, выступіць на сцэне. Любіў хлопец, каб на яго глядзелі, а яшчэ больш любіў, каб яго баяліся. Няхай, можа, і не яго, а каго іншага, але ўцеха брала Казю, калі людзі палохаліся або жылі ў чаканні якога-небудзь няшчасця. Так у яго змалку. Бывала на шчадраца ён не цягаў, як іншыя, варотаў з аднаго двара ў другі, не пасыпаў мякінаю інтымных сцежак, а лавіў на вуліцы чорнага ката і спускаў яго праз комін у хату якой-небудзь бабульцы. Даша памятае, як ён аднаго разу ў асеннюю ноч паставіў на могілках гарбуза са свечкаю ў сярэдзіне. На гарбузу былі выразаны дзіркі для вачэй і страшэнныя зубы. Не толькі дзеці, а і дарослыя напалохаліся ў тую ноч, ідучы каля могілак.

Прайшло нямала часу пасля гэтага, і цяпер Дашы часам нават не верылася, што Казімір Мокрут некалі пужаў каго-небудзь і вельмі крыўдзіў людзей. У яго былі маленькія і, напэўна, мяккія, як у дзіцяці, рукі, круглы, чысты падбародак з валячком. Здавалася, што гэты падбародак выяўляў заўсёды толькі адну лагоднасць, нават і тады, калі Мокрут злаваўся. Вочы таксама не кожны раз былі калючымі. Часам яны свbadзіліся цёплай ласкаю, нават пяшчотай, асабліва тады, калі ён задумліва глядзеў на яе, на Дашу. Гэта заўважала дзяўчына не адзін раз, і часта ёй здавалася, што дарэмна людзі баяцца Мокрута, дарэмна думаюць, што ён можа зрабіць чалавеку нешта дрэннае. Варта вось ёй узяць яго за гэтую дзіцячую руку, і пойдзе ён пакорліва, куды толькі яго ні павядзеш. Ні слова кепскага не скажа, ні голасу рэзкага не падасць...

Падыходзячы да сваёй вёскі, Даша міжвольна замарудзіла крок. Вельмі-ж лёгка і прыгожа было на дарозе. З-за вясковых прысад неспадзявана выбліснула сонца, і яго спакойныя, нячутныя прамені заіскрыліся ў свежым інеі дрэў, у галінках прыдарожнага быльняку, прыцярушанага свежымі пушынкамі. Яшчэ ўчора Даша праходзіла тут і быльняк тырчэў голы, пашумліваў і пасвістваў на ветры. На яго не шкада было наступіць нагой, наехаць машынай. А сёння былінкі выглядалі так хораша



і прывабна, што над некаторымі з іх хацелася нахіліцца і дзьмухнуць. На дарозе, між каляін, быў пласт такога-ж мяккага снегу, але ён зусім не адчуваўся пад нагамі, крок парыпваў ад ранейшай намаразі. Гэтае парыпванне бадзёрыла хаду, як іншы раз маршавая музыка, хацелася ісці і ісці. Няхай-бы гэтыя самыя Добрасельцы былі трохі далей, не абавязкова ім так хутка набліжацца, хоць там і родная дашына хата, хоць там і вельмі прыгожыя зімой і летам прысады. Прайсці-б яшчэ крыху па свежым сняжку, падыхаць лёгкім паветрам. Няхай-бы нават сустрэўся цяпер хто-небудзь. Не Мокрут, вядома, і не старшыня калгаса Шупаў са сваімі заўсёды прагнымі вачыма да малака і да малочніц. Хацелася спаткаць каго-небудзь вельмі блізкага, вельмі дарагога. Думкі пайшлі пра Валодзю, далёкага-далёкага па адлегласці і бясконца блізкага па сэрцу. Служыць Валодзя ў арміі вось ужо чатыры гады, бо канчае лётчыцкую школу. Калі-ж ён прыедзе, калі можна будзе яго ўбачыць?..

Гледзячы проста на сонца (калі гэта можна глядзець проста на сонца!), Даша заўважыла сярод інею на таполях чорныя купкі вароніных гнёздаў. Цікава, што гэтыя гнёзды і пад інеем былі чорнымі. Затым высунуўся з-за дрэў чорны верх добрасельскага млына, таксама бяскрылага. Неўзабаве стала відна і хата млынара, можна сказаць, што і не хата, а цэлы дамок. Гэтым дамком з аднаго боку вуліцы і маленькай хаткай старога конюха Талімона з другога пачыналіся Добрасельцы. Насупраць млынаровага дамка стаяў слуп з электрычным ліхтаром. Пакуль на млыне былі крылы і ён пры ветры даволі жвава круціўся, ліхтар гэты асвятляў не толькі млынароў дамок, а і частку дарогі, што вяла ў райцэнтр. У млынара часта збіралася так званая мясцовая ўлада: прыходзілі старшыня і сакратар сельсовета, участковы міліцыянер, бухгалтар добрасельскага калгаса (у гэтым калгасе ўладай лічыўся не старшыня, а бухгалтар), загадчык гаспадаркі МТС ды сёй-той з механікаў. Добра выпіўшы, млынар звычайна, прыпяваў, цярэбячы чорныя стручкаватыя валасы, зацярушаныя мукою: «Ты-ыся-ача-а рублёў для мя-ане-э ніч-ога не зна-ачыць».

Неўзабаве-ж пасля таго, як навальніца зламала на млыне крылы, прыйшоў эмтээсаўскі манцёр і абрэзаў правады на слупе супраць дамка. Цяпер гэты слуп стаяў тут без усякай патрэбы, і аднаго разу ноччу гаспадар дамка вельмі моцна выцяўся аб яго галавой.

Спрабаваў млынар напівацца і потым, калі ўжо млын не круціўся. Аднаго разу нават заспяваў быў на вуліцы: «Ты-ыся-ача-а рублёў...» Але ў гэты час выйшла на вуліцу яго жонка, дзябёлая цётка Матрэна, узяла спевака за шкірку і перад «усім чэсным народам» пацягнула дадому.

У гэты-ж час пайшлі асцярожныя чуткі, што і жонка Мокрута трохі натаўкла свайго Казю. Жанчына гэтая была не такая мажная і здаровая, як цётка Матрэна, па росту і вазе яна была можа толькі ў палавіну Матрэне, але затое па злосці і ўпартасці рэдка хто мог з ёю зраўняцца. Сухенькі тварык яе з лісінымі вочкамі заўсёды меў такія зморшчыны, на якія страшна было глядзець. Нават і тады, калі яна смяялася і гаварыла што-небудзь вясёлае, дык усёроўна гэтыя зморшчыны насцярожвалі людзей.

Баяўся сваёй жонкі нават і старшыня сельсовета, хоць усе лічылі, што ён тут нікога не баяўся. Дома, перад жонкаю, Мокрут быў зусім не такі, як бывае ў сельсовеце, або на папойках у млынара. Аб гэтым не раз гаварыла Дашы Антосіха, не раз заўважала гэта Даша і сама, паколькі жыве па суседству. Адкуль Мокруціха была родам, хто яе родзічы, бацькі, ніхто пэўна не ведаў. Мокрут знайшоў яе недзе ў партызанах і, як меркавалі, боязнь яго сваёй чароўнай спадарожніцы вынікала якраз з гэтага самага. Нечага натварыў чалавек у час вайны, і ведала пра гэта, мабыць, адна толькі жонка. Ад людзей нічога не схаваеш: кажуць, што і ажаніўся Казя з-за боязні.

Аднаго разу Мокруціха выйшла на вуліцу з залатым гадзіннічкам на руцэ. Браслет вялікі для яе худой рукі, дык яна ссунула гадзіннічак аж да самага локця. Прыйшоў Мокрут на абед, убачыў жонку пры гэтым золаце і збялеў, як палатно. Стаў ківаць ёй з-за вушака, звадь у хату, а яна не заўважае, усё пакручваецца перад жанкамі ды, нібы незнарок, паказвае гадзіннічак. Тады Мокрут з дрыжачай усмешкай на твары падыйшоў да жонкі, жартаўліва ўзяў яе пад локаць і сціснуў руку так, што аж браслет уеўся ў скуру. Жанчына зморшчылася, аднак пайшла ў хату без крыку. Крык быў чуцён ужо тады, калі наглуха ў хаце былі зачынены дзверы і завешаны вокны.

— Усё падастаю, усё пакажу людзям! — крычала дзікім голасам Мокруціха.

А сам Казя гуў ціхім, пагрозлівым басам, і з гэтага гулу ледзь-ледзь вылучаліся толькі асобныя словы.

— Заб'ю!.. Дальбог, заб'ю! Сам не жыцьму, але і цябе заб'ю!

Пасля гэтага Мокруціха ні разу не надзявала блішчастага гадзіннічка, але і Казя хадзіў дома амаль заўсёды апусціўшы галаву. Калі толькі ён хоць трохі падымаў нос, жонка паказвала вачыма на падлогу каля печы і чалавек адразу панікаў, рабіўся маўклівым і паслухмяным.



У вуліцы Даша пайшла крыху шпарчэй, як ішла па дарозе. Няёмка было ісці на вачах у людзей ледзь не шпацырам, падумаюць, што дзяўчыне няма чаго рабіць. Пасярэдзіне вуліцы снег быў утаптаны больш, як на дарозе, а каля платоў відны былі сляды ўсяго таго, чым багатая была вёска: сабак, катоў, варон і свіней.

«Прыехаў ужо бацька ці не?» Дашы карцела забегчы ў хату пагледзець, ці дома стары, што робіць яе малодшы брат Цімоша перад адыходам у школу на другую змену. Гультаяваты хлапец, часта даводзіцца прымушаць брацца за кніжку. Загуляецца, бывае, а потым бяжыць у школу, не падрыхтаваўшы ўрокі, а галоўнае — не еўшы. Карміць яго горш за ўсё. Некалі ўсе гэтыя клопаты былі матчыны, а пасля таго, як памерла маці, усё лягло на дашыны плечы. З бацькам лягчэй, бацька і сам знойдзе, што з'есці, часам нават і дапаможа каля печы, а Цімоша жыве, як кватарант.

Добра было-б зайсці ў хату, але-ж і на ферме многа спраў. Яшчэ-ж, напэўна, і той конь сядзіць у сіласнай яме. Даша толькі прыпынілася каля свайго двара, шчыльней прычыніла вароты і пайшла далей.

Каля самай канюшні ёй сустрэўся нямы Талімон, у старым кажуху, падпяразаным вяроўкай, прыветна ўсміхнуўся і паказаў на вусы, якіх ў яго не было.

— Мабыць, яшчэ не прыехаў бацька,— адказала дзяўчына, пакруціўшы галавою.

Сакратар сельсовета Васіль Печка з малых год быў хлапчуком нездараўчаным, не надта вылюднеў і падросшы, таму не пайшоў далей вучыцца пасля дзесяцігодкі, і таму не быў прызваны ў армію. Мокрут, як чалавек з пэўным вокам на патрэбных яму людзей, заўважыў у хлапцу перш за ўсё схільнасць выконваць усё, што яму ні скажаш, затым — стараннасць у рабоце, найлепшы почырк і іншыя, ужо, вядома, дадатныя якасці. І сапраўды, Васіль працаваў самааддана. Кожны дзень ён пехатою абходжваў поўсельсовета, быў у Мокрута не толькі сакратаром, а і кур'ерам, выканаўцам розных асабістых даручэнняў. У апошнія часы хлапец асабліва многа бегаў па пасёлках, па дварах, падганяў розныя справы, згладжваў тое, што было не зусім гладкім, бо набліжалася сесія, дзе Мокруту трэба было рабіць справаздачу. Сама сесія дык яшчэ нічога, Мокрут разлічваў правясці яе гладка. Але на гэтую сесію, можа, як гром з неба, зваліцца раённае начальства, дык тут ужо трэба паварушыцца. Васіль туды, Васіль сюды! Печка, зрабі опісь! Печка, зрабі па «сто» грамаў! Сакратару бегатні нямаведама колькі, а тут яшчэ і выпіць дазодзіцца амаль кожны дзень, а бывае, што і два разы на дзень.

Так падкасіліся ў хлапца і тыя сілы, што былі. Для здаровага лайдака, ды яшчэ нецвярозага, нічога не значылі-б тыя вельмі спагадлівыя штуршкі, якімі надзялілі хлопцы Васіля. Не пашкодзіў-бы таму лайдаку і не надта доўгі адпачынак у снезе. А вось сакратару Сцегачоўскага сельсовета ўсё гэта вельмі пашкодзіла. Трохі яго штурхнулі, трохі паляжаў, разагрэўшыся, у снезе, пакуль хлопцы прывезлі сані, галоўнае-ж —ператросся чалавек, перапаліў нервы і не ўстаяў пасля гэтага, захварэў. Некалькі дзён праляжаў дома: яго бацькі вельмі не хацелі, каб пра такую ганьбу ведалі ўсюды. Аднак калі стала відно, што без дактароў тут не абыйсціся, яны выпрасілі ў калгасе каня (на сельсовецкім вазку некуды паімчала Мокруціха) і завязлі хлапца ў раённую бальніцу.

Даша кожны дзень прапытвала пра Васіля, некалькі разоў намервалася нават зайсці да Печкаў у хату, але на гэта ў яе не хапала смеласці: яна ведала, што васілёва маці, як і Мокрут, будзе ўзвальваць віну на яе. А што старой дакажаш? І вось намаглася дзяўчына наведаць хлапца ў раённай бальніцы, пагаварыць там аб усім, дамовіцца і наконт таго, каб Вася расказаў людзям праўду аб тым, чаму яго злавілі ноччу з чужым цялём.

Уладзіла зранку ўсё на ферме, потым каля дому ўпынілася і пайшла. Дзень быў адліжны, месцамі нават са стрэх капала, калі дзяўчына выходзіла з вёскі. А на шляху, укоўзаным санямі і машынамі, было да таго слізка, што ісці даводзілася з асцярогай і не надта паспешна. Пакуль Даша адмерала палавіну дарогі, было ўжо каля поўдня, а ў пачатку местачковых прысадаў яе сустрэў Мокрут, які ўжо вяртаўся з райцэнтра. Убачыўшы дзяўчыну, ён крануў рукою свайго кульгавага загадчыка вайсковаўліковага стала, што сядзеў трохі пад перад і падганяў каня, спусціў з вазка адну нагу. Хлапец нацягнуў лейцы, і Мокрут злез зусім.

— Куды ты ідзеш? — спытаў ён, ступіўшы некалькі крокаў да дзяўчыны.— У раён?

— Вядома, у раён, — адказала Даша.— Куды-ж мне?

— Ну, там далей яшчэ вінзавод ёсць,— лагодна ўсміхнуўся старшыня, відаць, задаволены сваім жартам.

— А ты, мабыць, адтуль? — стрымана кінула Даша.

Мокрут зарагатаў і падаў знак хлапцу, каб паварочваў назад.

— Давай і я крыху прайдуся з табою,— прапанаваў ён дзяўчыне,— а то падвязу, калі хочаш, і назад разам паедзем.

— Дзякую,— суха сказала Даша,— я адна пайду.

Яна паскорыла крокі, але Мокрут усё-ж скрыпеў ботамі побач, а воддаль за ім ехаў «вайсковы загадчык», як яго звалі ў сельсовеце.

— Я не разумею цябе, Даша,— напусціўшы на твар крыўду, пачаў старшыня.— Чаго ты так разгневалася на мяне, так зненавідзела, пусціла ўсялякія шэпты пра мяне па ўсяму сельсовету.

— Якія шэпты?

— Ну вось, хаця-б пра гэтага Печку. Хіба гэта праўда, што я прымусіў яго ісці забраць у Антосіхі бычка? Хіба гэта?..

— Не забраць, а ўкрасці,— перабіла яго Даша.— І не шапчу я пра гэта, а кажу ўсюды моцна і скажу яшчэ мацней. Мне сам Васіль пра гэта гаварыў.

— Цікава, што-б ты сказала, атрымаўшы столькі кухцялёў? — засмяяўся Мокрут. — На роднага бацьку ў такіх умовах можна нагаварыць.

— Ён расказваў пра гэта і потым, калі ляжаў дома. Многія людзі чулі.

— Але-ж гэта няпраўда! — рашуча прамовіў старшыня і махнуў перад сабою абедзьвума рукамі.— І наогул, не было ніякай пакражы. Сама Антосіха гэта прызнае.

— Антосіху ты запалохаў,— абурана і цвёрда глянуўшы Мокруту ў вочы, сказала дзяўчына.— Але не думай, што яна ўсё жыццё будзе дрыжэць ад цябе. Сёння быў у яе следчы, і яна расказала яму ўсю праўду.

— Ага, вось яно! — нібыта здзівіўся Мокрут, а ў вачах усё-ж замільгалі насмешлівыя іскрынкі.— Гэта значыць, што ўжо ты падвучыла. З Каліновічам, напэўна. Ну што-ж! Вучы, вучы! Пабачым, што з гэтага выйдзе!

— Яе не трэба вучыць,— адказала дзяўчына,— горам навучана. Прыдзе пара — скажа яшчэ не тое.

— Што гэта за намяканні?

— Сам ведаеш!

— Ну, вось што! — страсянуўшы валячком, павысіў голас старшыня.— На ўсё гэта мне наплюваць! І на твае намяканні і на твайго следчага! Скажу так: хочаш жыць са мною ў міры, працаваць, як палажана дэпутатцы, дык давай будзем працаваць. Нам няма чаго сварыцца, нам трэба разам умацоўваць свой сельсовет. Калі-ж у цябе выбрана другая дарожка, то гавару па чыстай совесці: беражыся! У парашок сатру, калі на тое пойдзе. Бацьку твайго, гэтага папоўскага прыслужніка, пашкадаваў, а цябе не пашкадую, хоць ты і дарагой была мне, вельмі жаданай. На Каліновіча, сакратара партыйнай арганізацыі, спадзяваешся? Не спадзявайся! Не такія, як ён, траплялся мне на дарозе, ды і то не ўстаялі. Зніклі!

— Не палохай! — спакойна прамовіла Даша, але ў голасе яе было столькі цвёрдасці і сілы, што Мокрут міжвольна ўздрыгнуў, наўскос глянуў на дзяўчыну.— Бацька мой нямала прыняў пакут ад цябе, хоць ён ні ў чым не быў вінаваты. Ды хіба адзін бацька? Я не ўсё ведала раней. Але май на ўвазе, што ні над Каліновічам, ні нада мною табе не ўдасца так паздзекавацца, як ты здзекаваўся над іншымі. З намі ўсе людзі, а ў цябе вось... — яна паказала на кульгавага загадчыка, што ехаў ззаду.

— Якія ў вас людзі? — паспрабаваў засмяяцца Мокрут, ды выйшла горкая міна замест усмешкі.—Печка? Антосіха? Зноў кажу,—у горле ў яго раптам з'явіліся злавесныя хрыпы,— пляваць я хачу на ўсё гэта! Ідзеш да дзеверка свайго вывуджваць на мяне розную хлусню? Няма ўжо твайго дзеверка. Разумееш? Няма Васі Печкі! Памёр сёння ноччу! Можаш напісаць у вайсковую часць свайму нарачонаму, што праз цябе загінуў яго родны брат. Ну, а я, мабыць, таксама сюды-туды напішу. Да пабачэння, суседуха! Не мінай майго двара!

Ён крута павярнуўся і пайшоў насустрач фурманцы.

«Вось чаму ён так разыйшоўся,— апякла думка дзяўчыне ўсё нутро. Даша спынілася, нібы аслупянелая. — Няўжо гэта праўда, няўжо Васіль не выжыў?»

Яна, нібы міжвольна, павярнулася, паглядзела ўслед Мокруту. Шырокія сутулыя плечы, абцягнутыя хромам, бязладна гойдаліся. У хроме пабліскваў зімні прамень сонца. «Тут Мокрут не схлусіў, вядома,—працягвала разважаць дзяўчына сама з сабою.— Такую праўду, якая можа знішчыць чалавека, паважае і ён. Што-ж цяпер рабіць? Валодзя сапраўды можа падумаць няма ведама што...»

У дзяўчыны моцна зашчымела пад сэрцам, у галаве з'явіўся нейкі вобмарачны, балючы шум. Яна ўсё-ж пайшла ў бальніцу, але ішла туды вельмі доўга.



# Паказвае МІНСК



Шэсць гадзін вечара. У гэты час у Мінску і ў другіх населеных пунктах, размешчаных на адлегласці да сотні кіламетраў, а часам і больш, уключаюцца тысячы тэлевізараў. Мінская тэлевізійная студыя пачынае чарговую перадачу.

—Якая-ж сёння праграма? — гэтае пытанне вельмі цікавіць усіх, хто сядзіць перад тэлевізарамі.

—Таварышы гледачы!— нібы ў адказ ім гаворыць дзяўчына з экрана.— Сёння мы пакажам тэлевізійны спектакль па трагедыі вялікага рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна «Каменны госць».

Спектакль пачаўся. Дзякуючы тэлевізійнаму экрану, у дом да рабочых, жыхароў калгаснай вёскі завіталі народныя артысты БССР Карнаухаў і Палосін, маладыя артысты Карзянкова, Ваксман, Сідараў.

А што адбывалася ў гэты час на студыі?

У невялікім пакоі, абсталяваным дэкарацыямі, ідзе спектакль. У адрозненне ад наведвальнікаў тэатра, тэлегледачы не бачаць усёй сцэны адразу, а сочаць за выкананнем разам з аператарам студыі. Ён накіроўвае аб'ектыў камеры то на групу акцёраў, то на твар каго-небудзь з іх. Аператараў у студыі некалькі. У кожнага з іх на камеры—лісток з распарадкам работы. Аператар сам не мае права выбіраць кадры для перадачы ў эфір. Ён робіць гэта па загаду рэжысёра, сочачы па табліцы распарадку перадач, улічваючы ўказанні асістэнта рэжысёра, якія перадаюцца па правадах. Тут-жа, у студыі, знаходзіцца і гукааператар. Мікрафон падвешаны на доўгім металічным штыры, падобным на вялізную вуду. І камеры тэлеаператараў і мікрафон увесь час рухаюцца за акцёрамі. Амаль няспынна перасоўваюцца па студыі і вялізныя асвятляльныя прыборы.

У час перадачы дзверы ў студыю зачынены. Рэжысёр, яго асістэнт і тэхнікі знаходзяцца па суседству — у апаратнай. У сцяне паміж студыяй і апаратнай — вялізнае двайное шкло, праз якое ўсё бачна, але нічога не чутно. Гэта дазваляе рэжысёру на хаду ўносіць папраўкі ў ігру акцёраў.

Як і ва ўсякім спектаклі, на акцёрах — спецыяльна сшытыя касцюмы, парыкі. Старанна загрыміраваны твары. Стракатасць убранняў, залатыя водбліскі бронзавых падсвечнікаў — усё гэта гледачы не могуць па-сапраўднаму ацаніць, бо бачаць перадачу ў монахромным, чорна-белым святле.

Пісьмы, што прыходзяць на тэлестудыю, паказваюць, якімі жаданымі з'яўляюцца ўласныя студыйныя перадачы: спектаклі, канцэрты, тэлівізійныя часопісы. Такія перадачы глядзяцца з выключнай цікавасцю і робяць вялікае ўражанне на гледача — і гарадскога і сельскага.

**Б. МАРТЫНАЎ,**
**А. ШЧАГЛОЎ.**



— А вось сакрэт тэлівізійнай перадачы. На здымку вы бачыце не толькі народнага артыста БССР Я. Карнаухава (Дон-Жуан) і артыстку А. Карзянкову (Донна Анна), але і тэлевізійную камеру. Аператар па загаду рэжысёра накіроўвае камеру то на групу акцёраў, то на твар каго-небудзь з іх.



Апаратная. Ад яе работы залежыць бадай ўсё, што бачыць глядач.



Да спектакля спатрэбіўся партрэт. За арыгіналам далёка ісці не прышлося.



А калі асістэнт рэжысёра памылкова ўключыць не той, што трэба, апарат, то гледачы ўбачаць сцэну, якая не мае ніякага дачынення да спектакля. Артысты тут проста перакусваюць...

# Свята юнацтва, дружбы і працы

Р. СЯМЁНАЎ

Фестываль... Цяпер няма больш папулярнага слова ў моладзі ўсіх краін. Пра фестываль гавораць народы Еўропы, Азіі, Амерыкі, Афрыкі, Аўстраліі... Не выпадкова эмблемай фестывалю стала адлюстраванне зямнога шара ў аправе пяці пялёсткаў, якія сімвалізуюць пяць кантынентаў свету.

VI Міжнародны фестываль моладзі і студэнтаў у Маскве абяцае яго ўдзельнікам шмат цікавага, захапляючага. У савецкім падрыхтоўчым камітэце распрацавана праграма фестывальных свят.

Раніцай у дзень фестывалю да плошчы Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі падыйдуць некалькі тысяч ўпрыгожаных аўтамашын. Адсюль—са зборнага пункта, яны павязуць удзельнікаў фестывалю да Смаленскай плошчы. Далей, да самага Цэнтральнага стадыёна імя Леніна, удзельнікі фестываліо пойдуць калонамі. Гэта будзе ўрачыстае шматкаляровае шэсце. Па шырокім Садовым кальцы, усцяж гранітных берагоў Масквакі стройна пройдуць у адзіных калонах хлопцы і дзяўчаты з белым, чорным, жоўтым колерам твару, апранутыя ў нацыянальныя касцюмы.

Па алфавітным парадку ступяць дэлегацыі краін на тэрыторыю стадыёна, абыйдуць навокал яго каля перапоўненых гледачамі трыбун.

Рознастайная і велізарная праграма фестывалю. Сустрэчы дэлегацый, агляды нацыянальнай творчасці, выступленні самадзейных калектываў, канцэрты артыстаў тэатраў, эстрады, цырка... Каля 400 розных мерапрыемстваў будзе праводзіцца штодзённа ў час фестывалю. Яны адбудуцца не толькі на Цэнтральным стадыёне імя Леніна, не толькі на плошчах сталіцы, але і ў 60 палацах і дамах культуры, 25 кінотэатрах, 22 тэатрах, у канцэртных залах, якія масквічы гасцінна перададуць у распараджэнне сваіх маладых гасцей. Калі-б гэта аднаму чалавеку зажадалася наведаць усе сустрэчы, канцэрты і кіносеансы фестывалю, то яму, бадай, спатрэбілася-б пражыць не менш ста гадоў.

Яркімі падзеямі фестывалю з'явяцца карнавальнае шэсце ад Сакольнікаў да Цэнтральнага парку культуры і адпачынку імя Горкага і воднае свята на Маскве-рацэ.

На спецыяльна абсталяваных упрыгожаных суднах выступяць зарубежныя артысты, калектывы самадзейнасці, тэатральныя групы. Перад гледачамі праплыве цэлая эскадра, пачынаючы ад параходаў і канчаючы гандоламі і шлюпкамі. У водным парадзе прыме ўдзел копія вядомага плыта «Кон-Цікі». А калі закончацца водныя спаборніцтвы і вечарам над ракою загарацца шматкаляровыя агні ілюмінацый, у небе зоркамі рассыплюцца феерверкі. Воднае святкаванне завяршыцца вясёлым карнавалам на вадзе, масавымі гульнямі на плошчах.

Адзін з фестывальных дзён прысвячаецца цыркавому мастацтву. У гэты дзень маладыя майстры цырка праедуць кавалькадай па вуліцах сталіцы. Увечары яны выступяць перад моладдзю з паказам сваіх дасягненняў на Манежнай плошчы і на стадыёне «Дынамо».

Кожны іх дзень будзе запоўнены весялосцю і радасцю. Чакаюць моладзь і дзелавыя сустрэчы — па прафесіях, маладых працаўнікоў палёў і маладых рабочых, студэнтаў, маладых вучоных. Тут яны змогуць падзяліцца ўражаннямі, расказаць адзін аднаму пра сваё жыццё, аб рабоце, вучобе, творчых замыслах, падзяліцца сваёй радасцю і смуткам. Праграмай фестывалю прадугледжаны таксама вечары, прысвечаныя жыццю і дзейнасці выдатных людзей, святы сельскай моладзі, дзяўчат, вечар салідарнасці з моладдзю каланіяльных краін, выстаўкі, экскурсіі, гулянні за горадам. У адзін з фестывальных вечароў госці сталіцы запоўняць залы Крэмлёўскага палаца, дзе адбудзецца грандыёзны баль...

Фестываль—гэта своеасаблівы агляд талентаў і здольнасцей у розных галінах культуры і мастацтва. Арганізатары грандыёзнага свята юнацтва свету прадугледзелі не толькі ўрачыстыя вечары і сустрэчы, не толькі міжнародныя семінары і экскурсіі. У дні фестывалю адбудуцца таксама спартыўныя спаборніцтвы моладзі, міжнародны кінофестываль, конкурсы выканаўцаў па розных відах мастацтва. Юнакі і дзяўчаты будуць аспрэчваць першынство ў народных і класічных спевах, ігранні на музычных інструментах, у народных, бальных і характэрных танцах. Усяго адбудзецца каля 20 міжнародных мастацкіх конкурсаў. Іх удзельнікамі могуць быць усе, каму да 1 снежня 1957 года не споўніцца 32 гады.

Змогуць паказаць сваё майстэрства і маладыя мастакі, скульптары, рэзчыкі, вышывальшчыцы. На фестывалі арганізуюцца мастацкія выстаўкі.

У Маскве ўжо даўно рыхтуюцца да гэтага свята маладосці. Ідзе работа па афармленню сталіцы. У ёй удзельнічае каля 150 мастакоў, архітэктараў, графікаў, дэкаратараў. Яны ахвотна дзеляцца сваімі творчымі замысламі, якія знаходзяцца ўжо ў стадыі завяршэння і ажыццяўлення.

У святочным убранстве сталіцы шмат творчай вынаходлівасці, смелага замыслу. Кожная магістраль, кожная плошча будзе мець сваю пэўную тэматыку афармлення.

Маскву ў дні фестывалю бадай можна параўнаць з гіганцкім пахучым газонам. Сотні тысяч кветак упрыгожаць яе вуліцы, плошчы і праезды. Велізарная клумба кветак, дзе будзе цвісці жывы каляндар, раскінецца каля Цэнтральнага стадыёна імя Леніна ў Лужніках. Безліч букетаў кветак, якія клапатліва вырасцяць на прадпрыемствах, ва ўстановах і школах сталіцы, масквічы падаруюць сваім замежным гасцям. Да фестывалю ў Маскве пасаджана больш 8 мільёнаў расады кветак.

Кожны ўдзельнік фестывалю павязе з Масквы да сябе на радзіму не толькі гарачыя пачуцці, але і падарункі ў знак любві і дружбы. Маладыя жыхары сталіцы рыхтуюць гасцям тысячы самых рознастайных падарункаў. Гэта будуць вышытыя рукамі маладых майстроў падушкі і сурвэткі, альбомы марак і картак, па-мастацку выкананыя з дрэва куфэрчыкі, скульптуры, карціны і шмат, шмат іншага. Тысячы самых рознастайных сувеніраў, памятак аб фестывалі, аб Маскве рыхтуюць прадпрыемствы сталіцы і іншых гарадоў краіны. Ужо закончыўся адкрыты конкурс на лепшыя ўзоры падарункавых тавараў і сувеніраў. Сярод іх — арыгінальная туалетная і папяросная каробкі, якія, як адчыніш, граюць папулярную мелодыю спартыўнага марша з кінофільма «Варатар», кніжачка з мініятурнымі відамі Масквы, з павелічальным шклом, прыгожа афармленыя шкляныя сувеніры, розныя каробкі з пластмасы. Будуць выпушчаны фестывальныя хусткі і касынкі з эмблемай фестывалю і надпісам «Мір» на розных мовах. Да фестывалю выпускаецца 6 мільёнаў эмблемных значкоў, шматлікімі тыражамі выдаюцца пуцевадзіцелі і даведнікі, разгаворнікі на рускай, англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай і італьянскай мовах. Гандаль сувенірамі, мастацкімі вырабамі, літаратурай будзе весціся ў спецыяльна адкрытых палатках, ларках, аўтакалясках і павільёнах.

З кожным днём, што набліжае нас да фестывалю, расце працоўная і грамадская актыўнасць юных масквічоў. Дзесяткі соцень маладых рабочых сталічных прадпрыемстваў далі слова сустрэць фестываль перавыкананнем вытворчых заданняў, павышэннем якасці прадукцыі. І яны верныя свайму слову. Шмат ініцыятывы праяўляюць у гэтыя дні комсамольскія арганізацыі, праўленні клубаў, дамоў культуры. Усюды праводзяцца тэматычныя маладзёжныя вечары, фестывальныя суботы, сустрэчы з зарубежнымі гасцямі, агляды мастацкай самадзейнасці. 200 тысяч маладых выканаўцаў удзельнічаюць у праглядзенні ва ўсіх раёнах сталіцы конкурсаў самадзейных калектываў.

Цікавую справу задумалі комсамольцы Фрунзенскага раёна. Яны вырашылі сфатаграфаваць на кінаплёнку ўсё самае цікавае, што адбудзецца ў іх раёне ў часе падрыхтоўкі да фестывалю. Кансультацыю здымкаў вядзе Цэнтральная студыя дакументальных фільмаў.

Шмат юнакоў і дзяўчат сталіцы з поспехам вывучаюць замежныя мовы. У дні фестывалю яны змогуць без дапамогі перакладчыкаў размаўляць з замежнымі гасцямі. У Маскве створана некалькі комсамольска-маладзёжных клубаў.

Сталіца рыхтуецца да грандыёзнага свята юнацтва, свята, якое яшчэ больш умацуе дружбу моладзі розных краін, актывізуе моладзь у барацьбе за мір ва ўсім свеце.





**Студэнты Маскоўскага мастацка-прамысловага вучылішча** (справа налева) **А. Кашалёў, С. Хрусталь, А. Токар абмяркоўваюць макеты павільёнаў адпачынку.** На правым здымку — **студэнты 5 курса Маскоўскага мастацка-прамысловага вучылішча Аляксандр Разінкін і Валерыя Гарбунова распрацавалі да фестывалю макет плывучай эстрады на Чыстых прудах.**

Фото В. Львова.



Узоры фестывальных сувеніраў, распрацаваныя эксперыментальна-мастацкай лабараторыяй Белхудожпромсаюза і рэкамендаваныя для масавага вырабу ў прамысловых арцелях рэспублікі. У цэнтры маладыя вышывальшчыцы лабараторыі Н. Шамшурына (злева) і К. Саўлевіч, якія прымалі актыўны ўдзел у вырабе ўзораў..

Фото А. Дзітлава.

# У лабараторыях

У апошні час у Акадэміі назук БССР створана некалькі новых лабараторый. У іх ліку — лабараторыі электра-тэрмічнай апрацоўкі металаў, цеплафізікі і энергетыкі. Гэтыя лабараторыі мы наведалі з фотаапаратам.

Верхні левы здымак зроблены ў аддзеле генетыкі Інстытута біялогіі. Вялікая група вучоных, і сярод іх малодшы навуковы супрацоўнік Усевалад Борматаў, заняты вывучэннем асаблівасцей развіцця гібрыдаў кукурузы. У момант, калі рабіўся здымак, У. Борматаў даследаваў танчэйшыя зрэзы зародкаў раслін, каб раскрыць таямніцы іх апладнення і росту.

Злева ўнізе — група супрацоўнікаў Інстытута геалагічных навук: (злева на-

# Акадэміі навук БССР







права) старшы лабарант Ларыса Корсакова, кіраўнік сектара гідрагеалогіі кандыдат геолага-мінералагічных навук М. Ф. Казлоў і малодшы навуковы супрацоўнік Н. І. Парфёнава. Геолагі адкрылі шмат каштоўных карысных выкапняў. Даследаванні падземных вод дазволілі вучоным зрабіць пэўныя вывады аб магчымасці адкрыцця ў Беларусі сваіх курортаў, багатых лекавымі мінеральнымі водамі.

На здымку ў цэнтры — адзін з самых маладых работнікаў Інстытута хіміі, малодшы навуковы супрацоўнік Хасень Александровіч, выхаванец Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Ён даследаваў і практычна даказаў магчымасць прымянення навейшага метада ўзбагачэння калійных солей, месцанараджэнне якіх нядаўна адкрыта ў Старобінскім раёне Мінскай вобласці. Эксплуатацыя гэтага месцанараджэння дасць сельскай гаспадарцы рэспубліцы шмат мінеральнага ўгнаення.

Правы верхні здымак зроблен у лабараторыі Інстытута энергетыкі. Зафіксавана падрыхтоўка да эксперыменту, які прадаўжае даследаванні ў галіне рацыянальнага вядзення энергагаспадаркі буйных прамысловых прадпрыемстваў. Мантаж муфельных печаў робяць — загадчык лабараторыі член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР прафесар Альберт Іосіфавіч Вейнік (злева) і старшы лабарант комсамолец Венедыкт Улашчык.

На апошнім здымку — супрацоўнікі Фізіка-тэхнічнага інстытута — кіраўнік лабараторыі электра-тэрмічнай апрацоўкі металаў кандыдат тэхнічных навук М. Н. Бадзяка (справа) і старшы механік гэтай лабараторыі Юры Кажарскі. Яны праводзяць дослед па награванню металу токамі высокай частаты.

**А. ДЗІТЛАЎ.**
**Фота аўтара.**

# СВАІМІ РУКАМІ

Вось гэты хлопчык — Уладзімір Прушкоўскі, вучань 4 класа. Пакуль што ён яшчэ толькі вучыцца ляпіць з пласціліну, робіць просценькія рамачкі. Але яму вельмі хочацца навучыцца рабіць больш складаныя рэчы. З захапленнем ён паказаў нам чучала вароны, якое зрабілі старшакласнікі. Няма сумнення, што Валодзя свайго даможацца.

Вельмі сур'ёзная спрэчка ўзнікла вось у гэтага хлопчыка і дзяўчынкі (правы здымак). Яны робяць афармленне для спектакля. Дзе-ж трэба пракручваць дзірачкі? Хто праў? Хутчэй, дзяўчынка. Бачыце, як яна ўпэўнена робіць метку. Гэта вучні 7 класа Галя Хмялеўская і Уладзімір Сарока на ўроку політэхнізацыі.

Вучань 9 класа Анатоль Дземіткевіч (злева ўнізе) разам з дванаццаццю сваімі таварышамі вывучае аўтасправу. Ён ужо навучыўся вадзіць машыну. Мы сфатаграфавалі яго ў той час, калі ён старанна вывучаў карбюратар.

У фізічным кабінеце многія прыборы зроблены рукамі вучняў. Вось чаму тут комсамольцы — частыя госці. Яны самі прыбіраюць кабінет, не давяраючы гэта нікому. На здымку Тамара Дземіткевіч, Ліда Бачыла і Яніна Савіч у фізічным кабінеце.

Умелымі вырастуць гэтыя рэбяты.

Фото А. Дзітлава.







# Якое ваша рашэнне?

Невялікая судовая зала, у якой слухалася гэтая справа, была перапоўнена. Да сакратара суда падыйшла маладая бялявая дзяўчына і спытала, ці хутка пачнецца судовае пасяджэнне. Трымалася яна сціпла. Пачуўшы адказ сакратара суда, яна села на лаўку ў першым радзе і стала чакаць. Гэта і была адказчыца Ніна Нікалаеўна Златкевіч. Да яе суд прад'яўляў іск аб спагнанні сродкаў на ўтрыманне роднага бацькі. Існец, Нікалай Васільевіч Златкевіч, паявіўся ў судзе ў назначаны час.

— Судовае пасяджэнне аб'яўляю адкрытым, — прамовіў суддзя.

Старшыня суда і два народных засядацелі — пажылая жанчына з тонкасуконнага камбіната і слесар з завода імя Кірава — занялі месцы за сталом, пакрытым чырвоным сукном.

— Златкевіч Нікалай Васільевіч, раскажыце суду аб сваіх патрабаваннях...

...Ён гаварыў ціха і мала. Гаварыў пра тое, што ён немалады і адзінокі. Так, не зусім удала склалася яго жыццё. Па прафесіі ён мастак. Напружаная работа адбірала ўвесь яго час. Магчыма, што праз гэта ён мала ўвагі аддаваў сваёй дачцы, якая цяпер стаіць перад судом адказчыцай. Што-ж, магчыма... Але ён не шкадаваў сваіх сіл, аддаў іх дарэшты любімай справе. Яго карціны выстаўляліся на выстаўках. Так прайшло жыццё. Цяпер родная дачка адвярнулася ад яго, не хоча дапамагчы яму нават матэрыяльна. Сённяшні дзень, калі ён праз суд просіць дапамогі ў роднай дачкі, самы агідны і самы сумны ў яго жыцці...

— Я прыехаў у Мінск з горада Шуя,—працягваў Златкевіч. — Я вельмі многа думаў, пакуль адважыўся напісаць заяву ў суд. Мне вызначана дзяржаўная пенсія, але я хворы і без дапамогі дачкі абыйсціся мне цяжка. Яна-ж працуе бухгалтарам, забяспечана добра і магла-б крыху дапамагчы свайму бацьку...

Сціплы, усхваляваны расказ гэтага чалавека, крануў і суддзяў і прысутных. Работніца з тонкасуконнага камбіната нервова камячыла ў пальцах папяровы шарык, а суддзя выразам свайго твару выказваў поўную спагаду Златкевічу. У гэтую хвіліну ў судовай зале не было ніводнага роўнадушнага чалавека. Толькі адна адказчыца заставалася, здаецца, спакойнай і абыякавай.

— Гадуй дзяцей, а яны цябе пасля пусцяць з торбай па свеце, — кінуў нехта невясёлую рэпліку.

— У сям'і не без выродка...

Суддзя звярнуўся да адказчыцы—Ніны Златкевіч:

— Вы прызнаеце абвінавачванні, якія да вас прад'яўлены?

У зале стала ціха-ціха. Дзяўчына адказала не адразу. Яна адкрыла сумачку, узяла адтуль насоўку і, скамячыўшы яе, зноў паклала ў сумачку.

— Мы чакаем...—гучна папярэдзіў суддзя. — Вы згодны дапамагаць свайму бацьку?

— Не, — рашуча адказала дзяўчына.

У зале зашумелі. Суддзя вымушан быў навесці парадак.

— Тады раскажыце, чаму вы не хочаце дапамагаць свайму бацьку?

— Гэтага чалавека я не ведаю,—дзяўчына прыкметна хвалявалася.—Не хачу называць яго бацькам, і няхай ён не называе мяне дачкою. Болей я нічога не скажу.

Дзяўчына сапраўды болей не сказала ні слова. Але чаму? Гэтае пытанне хвалявала не толькі суддзяў, але і ўсіх прысутных.

Прышлося выклікаць сведак. У залу ўвайшла немаладая ўжо жанчына Марыя Рыгораўна Ларыёнава. Убачыўшы яе, Златкевіч апусціў галаву і стаў выціраць хустачкай лоб.

— Гэта было ў сорак першым годзе,—спакойнае пачала Ларыёнава. — Я служыла ў арміі санітаркай. У час адступлення наша машына спынілася ў лесе. Там мы знайшлі цяжка параненую жанчыну з маленькай дзяўчынкай. Маці памерла, а дзяўчынку мы ўзялі з сабой. З яе дакументаў было вядома, што яна—дачка Нікалая Васільевіча Златкевіча. У вайну дзяўчынка выхоўвалася ў дзіцячым доме, а пасля вайны — у мяне. Мне ўдалося знайсці адрас Златкевіча. Ён жыў тады ў Горкім. Я з Нінай паехала да яго.

— Гэты чалавек,—Ларыёнава паказала на Златкевіча,—адчыніў мне дзверы свайго дома. Мне здалося, што ён узрадаваўся, калі я расказала яму пра Ніну. Ён запісаў нумар пакоя ў гасцініцы, дзе мы спыніліся з Нінай, і паабяцаў вечарам зайсці па дачку. Златкевіч сказаў, што ён спяшаецца купіць падарункі, каб не прыйсці да дачкі з пустымі рукамі.

Але ўвечары не было ні падарункаў, ні самога Златкевіча. Калі я назаўтра пайшла да яго на кватэру, мне сказалі, што ён перабраўся на другое месца жыхарства. Адрасу не пакінуў. Я паехала дадому...

Пасля гэтага тры разы ён прысылаў на маё імя па пяцьсот рублёў. Зваротнага адрасу на пераводах не было, і я не магла адаслаць гэтыя грошы назад. Калі Ніна падрасла, я ёй усё расказала. Вось і ўсё, што я магу паведаміць суду.

У судовай зале было ціха. Ніхто не чакаў такога канца.

— Ці ёсць у вас пытанні да сведкі?—звярнуўся суддзя да Златкевіча.

Златкевіч падняўся. Яго позірк быў накіраваны некуды ўбок.

— Сведка пацвердзіла, што я дапамагаў сваёй дачцы, — сказаў ён. — Няхай і яна мне дапаможа. Законам я не пазбаўлены бацькоўскіх правоў, і па гэтаму закону дачка павінна плаціць мне аліменты.

Суд пайшоў на нараду. На лаўцы ў пакоі пасяджэнняў сядзела дачка і старалася не глядзець на бацьку, якога сустрэла ўпершыню ў жыцці. А ў другім пакоі, дзе ішла нарада суда, суддзя звярнуўся да засядацеляў з пытаннем: «Якое ваша рашэнне?»...

* * *

**Выпадак, пра які тут расказана, не выдуманы. Ён сапраўды меў месца нядаўна ў адным з мінскіх судоў. Суд вынес сваё рашэнне па гэтай даволі складанай справе. Пра рашэнне суда мы паведамім пазней. Але рэдакцыя хоча, каб па гэтаму пытанню выказаліся не толькі суддзі, але і нашы чытачы.**

## Першы з'езд мастакоў

З 28 лютага па 7 сакавіка ў Маскве праходзіў Першы Усесаюзны з'езд савецкіх мастакоў. З прывітаннем да з'езда звярнуўся ЦК КПСС.

Удзельнікі з'езда заслухалі даклад народнага мастака СССР Б. І. Іогансона «Аб стане і задачах савецкага выяўленчага мастацтва», а таксама садаклады аб жывапісу, мастацтвазнаўстве і крытыцы, графіцы, палітычным плакаце, скульптуры, тэатральна-дэкарацыйным і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве.

У рабоце з'езда прынялі ўдзел кіраўнікі партыі і ўрада. З вялікай прамовай выступіў сакратар ЦК КПСС тав. Д. Т. Шэпілаў.

На з'ездзе прысутнічала вялікая група мастакоў зарубежных краін. Савецкіх мастакоў віталі прадстаўнікі кітайскага, чэхаславацкага, польскага і германскага мастацтва.

На здымку: у зале пасяджэнняў Вялікага Крэмлёўскага палаца. Злева направа — загадчык рэстаўрацыйным аддзелам Дзяржаўнай Трэцякоўскай галерэі М. Ф. Іваноў-Чуронаў, мастак А. І. Лакціёнаў, у другім радзе — скульптар І. С. Ефімаў і мастак Ф. С. Шурпін.

Фотахроніка ТАСС.



# ДАЎНЯЯ, НЕЗАБЫЎНАЕ...



**Вячэслаў АДАМЧЫК**

**Апавяданне**

**Вячэслаў Адамчык нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Варакомшчыне на Гродзеншчыне.**
**У 1952 годзе, скончыўшы Новаельненскую школу рабочай моладзі, паступіў на аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**
**У 1954 годзе ў газеце «Чырвоная змена» і ў часопісе «Маладосць» з'явіліся яго вершы. Ніжэй друкуецца першае апавяданне маладога аўтара.**

Мал. Л. Дубара.

Навагрудчына—зацішны куток майго маленства. Тут я гадаваўся і рос. Тут наша Бярозаўка, невялікая вёсачка за густым сасняком і рэдкім бярэзнікам. Адсюль я выходзіў у свет і сюды-ж не раз вяртаўся з далёкіх дарог.

Сам я з польскай сям'і. Бацька мой, родам недзе з-пад Ломжы, зрушаны з месца яшчэ ў часы імперыялістычнай вайны, знайшоў сабе прытулак у Бярозаўцы, прыстаўшы ў прымы да бяздзетнае ўдавы. З ім разам у няродную хату сваім яшчэ няпэўным дзіцячым крокам прытупаў і я. Дагледзець мяне не было каму. Маці чужая, а бацька—чалавек пануры, скупы на літасць і ласку. І рос я сам па сабе, як гарох пры дарозе,—хто не ідзе, той і ўшчыпне.

Мачыха, жанчына хваравітая, трывала нядоўга; аднаго году на прадвесні яе вынеслі за вёску пад дубовы крыж.

Бацька, страціўшы на суды немалыя сродкі, нічога не дасягнуў—невялікі, у тры гектары, клін поля ўсё-ж такі адсудзілі крэўныя мачыхі. Па законах таго часу мы не мелі права на спадчыну. За гэтымі судамі бацька абнядужаў, да яго, ужо нездаровага, прыкінуліся сухоты і ён памёр.

Я застаўся адзін. Мне ішоў дзевятнаццаты год. І вось у тыя маладыя гады мне палюбілася Зоня, палюбілася шчыра і моцна.

Я ўпадабаў яе з першай стрэчы. Гэтая стрэча мне помніцца добра, на ўсё жыццё.

Падвечар увайшоў я ў сыраватую і цвілую кухню Сідара Сіўтука згоджвацца на малацьбу. Іншага шляху, акрамя заработкаў па суседзях, тады, пасля смерці бацькі, я прыдумаць не мог. Яшчэ з-за парогу я кінуў у хату «добры вечар», толькі на мой голас ніхто не азваўся. Мне здалося, што дома нікога няма, і я памкнуўся выйсці назад. Але на печы заварушыўся кажух, з-за коміна высунулася лысая галава Сідара, багатага і скупога гаспадара ў нашым сяле.

— Гэта ты, Уладак? То праходзь далей ды садзіся. Я-ж такі чую сабе, што нехта рыпнуў дзвярмі.

Крэкчучы і стогнучы, шчуплы Сіўтук злез з печы, усунуў ногі ў старыя боты, падцягнуў вышэй кужэльныя порткі (у хаце ён, відаць, аціраўся ў споднiх) і загаварыў зноў:

— Кажаш, пахаваў бацьку.

— Ага...

— Ды яно так на свеце. Голад у вайну ды вось гэтыя суды нябось падарвалі здароўе. А што, многа чалавеку трэба... І мачыха, вечны пакой...

Я маўчаў, не адгаварваўся. Разглядаў запылены абраз у цёмным покуце і думаў аб сваім: думаў аб неспадзяванай смерці бацькі, думаў аб тым, што давядзецца хадзіць па свеце, бадзяцца па людзях.

На двары сшарэла, у кухні зрабілася цёмна. Сіўтук змоўк, цяжка соп. Было чуваць яшчэ, як недзе за печчу шамацелі прусакі. Каля печы хадзіў памаўзлівы кот. У прыцемках вочы яго блішчэлі. Ён палез у памялешнік, нешта адтуль выцягнуў і, мармычучы, пачаў есці.

— Ых, каб ты здох, няма на цябе смерці. Гэта-ж жуе нешта.

Сіўтук схапіў з акна мокрую анучу і папусціў у ката. Той з кухні шмыгануў на хату, а Сідар, супакоіўшыся, зноў пасунуўся на печ. Пасля гэтага на кухні зрабілася невыносна ціха. За парогам у сенцах нехта лёгка затупаў, але замарудзіў, шукаючы клямку. Дзверы скрыпнулі, і дзявочы голас пачуўся са смехам:

— Скажы, і клямкі не знайшла...

Дзяўчына засмяялася ад душы, лагодна, наспех атрэсла з хусткі мокры снег, дастала з коміна карабок запалак, запаліла лямпу і, ужо выціраючы шкло, упікнула старога:

— Чаму-ж без агню сядзіш?

— Яшчэ відно, нашто лішне газу псаваць,— агрызнуўся з печы Сідар.

«Скупы які,—падумаў я сам сабе,—з ім не ўжывеш».

Вешаючы над сталом лямпу, дзяўчына заўважыла мяне.

— А хто-ж гэта яшчэ?..—Але пазнала:—Уладак! Прытаіўся, а я і не бачу.

Яна пайшла на хату, скінула жакет, зняла з галавы белую вязаную хустку і вярнулася ў кухню, расчырванелая пасля марозу.

Гаварылі, што сіўтукова дачка Зоня ўся ўдалася ў нябожчыцу маці, некалі самую прыгожую дзяўчыну на сяле. Цяпер, седзячы ў іх хаце, я прыпомніў і гутарку на вёсцы, і разам з тым свая нейкая цікавасць прымусіла мяне прыглядзецца да гэтае дзяўчыны.

Цьмяны агеньчык лямпы скупа асвятляў яе постаць. І сапраўды Зоня была прыгожая: чарнявая, не так высокая, але стройная і пад свой тонкі стан здавалася рослай. Яе вочы з дзіцячай неразважнасцю і неяк ужо з дарослай строгасцю глядзелі на мяне.

З кухні на хату Зоня перанесла лямпу, і хатняя шырыня ўвабрала яе скупое святло. У далёкіх кутках густа асеў змрок. На белянy столь, на сцены, на шэрую нефарбаваную падлогу легла скупая відната.

На сцяне, у фанернай скрыначцы, цікаў гадзіннік. Быў ён куплены дзеля фасону. Стары заўсёды спадзяваўся на пеўня—клаўся позна спаць, а ўставаў рана і заўсёды ўпару.

Мы селі з Зоняй на шырокай лаве, дзе пазней ужо сядзелі разам, як блізкія, і вельмі блізка. Мы размаўлялі, ды нас перабіў Сіўтук, высунуўшы з кухні даўгаваты, пануры твар:



— От сядзіш, паслала-б хлопцу.

Яна не адгаварвалася. У валёнках на босую нагу і, здаецца, не датыкаючыся імі да падлогі, лёгка выбегла з хаты.

— Мо' ляжаш?—Сіўтук прытупаў да мяне.— Зранку малаціць-жа...

Я не ведаў, што сказаць яму: ці адмаўляцца, ці згадзіцца. «Тут не адпачнеш, успора яшчэ да свету»,—падумаў сабе, але сказаў інакш.

— Ды буду спаць.

Ён засмяяўся, задаволены і, мусіць, рады сваім смехам, заварушыў шчуплымі плячмі.

— Гэтак-жа...

Памаўчаў трохі і запытаў потым:

— Куды-ж ад мяне падавацца думаеш? Яно каб была свая зямля, дык, пэўна, калупаўся-б пры доме.

Што я, не ведаючы пра свой лёс, мог адказаць Сіўтуку?

— А хто яго ведае...—і толькі.

— То я скажу,—забубніў ён,—як сабе хочаш, справа твая, ад самога залежыць. Я чалавек такі, калі што якое, то з платаю не пакрыўджу. Ды што гаварыць, некалі спамянеш. Вось, пакуль што да чаго, папрацаваў-бы ў мяне з годзік, а там яно відаць будзе. Ведаеш, занядужаў я, не тыя рукі да работы, цяжка, а зямлі яно належны выраб дай. А ўдвох, нябось, управіліся-б...

Выйсця другога для мяне не было, і я мусіў падацца на не вельмі салодкі батрацкі хлеб.

Зоня прынесла куль свежае жытняе саломы, дастала са свайго куфра здатную дзяругу-перабіранку ў трыццаць два пруты з прыгожым узорам, можа яшчэ памятку рупнага дзявоцтва свае маці, і мякка выслала мне на падлозе.

Мы клаліся спаць. Патушыўшы лямпу, гаспадар пасунуўся на гарачую печ. Там ён шчыра адгаварваў нанач штодзённую малітву: «Крыжам пасцялюся, крыжам апрануся, з панам Язусам спаць кладуся». Дробным гарохам сыпаліся на хату яго набожныя словы.

У вокнах сінела зімовая ноч, патрэскваў на дварэ частакол ад марозу, а тут, у хаце, усё так-жа мерна і зычна цікаў гадзіннік. Даўно ўжо выказаў горкі жаль і вымаліў збавенне і апеку ў літасцівага бога і пасвістваў носам стары Сіўтук. Уклалася на ложку Зоня. А я ўсё варочаўся з боку на бок і ніяк не мог заснуць. Можа гэта ад таго, што трапіў на новае месца, у чужую хату, і з непрывычкі адчуваў сарамлівасць і няёмкасць, а можа ад таго, што на падлозе было не так цёпла і я не адагрэўся: праз дзяругу мяне даймаў холад. Але не, тут было нешта другое, нешта такое зусім іншае. Калі я паварушыўся, нацягваючы да самага падбародка дзяругу, відаць, вельмі зашамацела салома, бо мяне аклікнула Зоня.

— Уладак, ты не спіш?

— Ага, не спіцца.

Ды гутаркі не было. Мы змоўклі. Мы, відаць, не ведалі, аб чым гаварыць, мы больш думалі, думалі, напэўна, адно аб адным, аб першай такой стрэчы, аб першай такой блізкасці...

Гэта было на пачатку нашага знаёмства.

Зімою я з Сідарам малаціў, вясною мы аралі і сеялі. Незаўважна для мяне пабег час. Надыйшло лета, і набліжалася касьба. А за работаю не ўбачыш, як прабяжыць дзень. Касілі мы з Сіўтуком удваіх: ён—цягавіты і ўвішны ў рабоце—не наймаў нікога, спадзяваўся на сябе, на мой спрыт і на маю сілу. Уставаў прыцемкам, яшчэ да ўсходу сонца, і мы кляпалі, даганялі косы. А калі на бадзёрыя ад ранішняга халадку альховыя кусты, на самотныя вербы, на крушыну пырскалі і рассыпаліся па чыстых слязах шчодрай расы першыя ласкавыя промні,—мы ўжо ішлі па другому або трэцяму доўгаму пракосу.

Я зачынаў першым, а за мною, беручы вужэй і падразаючы мне пяты, у адной сподняй бялізне, злёгку чэпаў стары. Я браў на поўную сілу і на добры размах касы. Сіўтук потым асядаў, ён усё выменьчваў касу і, наровячы мне, кожны раз гукаў далёка ззаду:

— Ого, у цябе аж брые. Чуеш, мусіць ты дабраў вострую касу.

— Залежыць і ад касы, дзядзька, але і рукамі пацягнуць трэба.

— Яно так. Бывала, ого... Ды што раўняць. Некалі я гэта з Петруком нашым хадзілі ў двор, пану касіць. Аб нішчымніцы, але да полудня звалім люба глянуць! А сёння яно не тое.

Ды ён толькі гаварыў, а каб прымеў, здаецца зубамі траву грыз-бы. І мы касілі, калі не было расы, калі ў сухой траве было цяжка і нават немагчыма пацягнуць касу.

Управіўшыся дома, крыху пазней, разбіваць і сушыць сена прыходзіла Зоня. У полудзень яна прыносіла нам есці і, абцягнуўшы падол на поўныя загарэлыя ногі, садзілася воддаль на порыстым пракосе. Перабірала рукамі мятліцу і падсмейвалася з мяне.

Аднаго разу ў невялікім збаночку яна прынесла шчаўе з леташнімі буракамі. У гэты дзень я, напрацаваўшыся ўволю, еў вельмі спешна і ўсё неяк недалікатна: мая ёмкая лыжка брынчэла ў збанку і ў руках крышылася луста хлеба. Да збанка падсеў Сідар. Мне вельмі хацелася есці, але я прыглядзеўся да яго. Не вельмі пераборлівы да яды, Сіўтук, седзячы на кукішках, бурчэў ля збанка, неяк нудна сёрбаючы і цмокаючы губамі.

— Эге, што смачна, то смачна. Еж, чаго ты,—стары аблізнуўся.—Гэтакі смак. Тут ясі і аж язык...

— Ды вы ўжо, дзядзька, адзін... Мне досыць.

— От табе і маеш...

Ля сажалкі, абапёршыся на стаўпец грабель, як-бы нечым устрывожаная, стаяла Зоня. Я не хацеў парушаць яе заклапочанасці, але там яна, як мне здалося, нешта вельмі цікавае бачыць, і ў мяне самога з'явілася цікавасць. Я падыйшоў да яе.

— Што там?

Яна не аглянулася.

— Гэта-ж хаджу тут і не бачу... Глянь, як хараша цвітуць плавукі.

— Я сарву.

— Ой, нашто, Уладак!

— Я сарву табе.

— Ах, божа мой, ці ты не бачыш—у іх жоўты колер.

Ды я не паслухаў. Я, здаецца, не падкасваючыся, боўтнуўся ў цёплую лугавую ваду: ля берага забулькала, зашыпела бросня, праламалася адпаліраваная бязветраным сухім днём роўная паверхня сажалкі—і загойдаліся шырокія зялёныя лісты плавукоў і доўгія стаўбункі іх кветак.

— Не чапай!—Зоня спачатку адпіхала граблямі мяне, ды, не даўшы рады, адвяла стаўпцом з-пад самых маіх рук прывабную кветку.

Толькі я намерыўся (і ў гэты раз, пэўна, сарваў-бы соладка-пахучую макаўку плавука), ды Зоня незнарок, у спешцы, пацягнула да сябе граблі. І тут ужо нечаканая для яе самой між зубоў грабель, шырока раскрыўшы вейкі-пялёсткі, пакорна і вінавата затаілася кветка. Зоня, трохі злосная, пляснула граблямі па вадзе, але, апырскаўшы мяне, весела засмяялася з таго, што я мокры ўвесь, і адбеглася. На цёмнай вадзе нерухома плавала страчаная нашай забаўкай буйная жоўтая кветка, а я даганяў Зоню, страшачы, што калі злаўлю, то выкупаю ў сажалцы. Яна ўхілялася маіх рук, адмахвалася граблямі, ды, кінуўшы іх, уцякла да рэчкі. Дабегшы да берага, занепакоілася, што ёй няма куды дзецца, і ўзбегла на пахілую вярбу.

— Страсу,—смяяўся я,—нікуды не дзенешся.

Я пажартаваў, не трос пахілую вярбу. Трымаючыся за моцныя сукі, я ступіў да яе па тоўстаму шурпатаму камлю. Нейкае глыбокае, трывожнае пачуццё спакусіла мяне—мне захацелася лёгка падняць яе на сваіх руках. Ды яна вёртка адвяла іх і збегла на бераг. Збянтэжаная, стаяла воддаль вярбы—прыгожая і прывабная.

— Гэта-ж дзень, людзі... які-ж ты неразумны,—яна ўсміхнулася,—і які-ж нядатны.

Сказала і засаромелася. Потым, не азіраючыся, пабегла, злёгку прытопваючы яшчэ няскошаную мураву траву. Узяла граблі і, маўклівая, пачала рухава завіхацца ў рабоце.

Я вярнуўся да Сіўтука. Ён ляжаў бокам на пакошы.

Мы яшчэ трохі пасядзелі, не абзываючыся адзін да другога. Падняліся таксама моўчкі і пайшлі варочаць сена.

Сідар, як я пачаў заўважаць, глядзеў на мяне з-пад ілба, панура. Ён недалюбліваў мяне, і што далей, то больш. Праўда, бывала, ён толькі кашляў, а потым нават пачаў мармытаць. Мы яго не таіліся. І ён усё яшчэ змоўчваў, ды аднойчы-такі не сцярпеў, не мармытнуў, як заўсёды, а выказаў сваю незадаволенасць і злосць выразна.

Я добра помню той вечар на спадзе гарачага лета. Высока ў зорным, чыстым небе вісеў сярпок-месяц. За вёскаю чулася дзявочая песня, а тут, пад ясенем, пад густым яловым частаколам, дзе да кусціка густога бэзу прытулілася нізкая лавачка, сядзелі мы. Стаяла чуткая цішыня, і было цёмна.

У гэты вечар Зоня неяк уся прыгарнулася да мяне. Вочы ў яе былі вільготныя і таемна глыбокія, з лёгкім сумам і тугою. Я прыхінуў яе да сябе—сцішылася, пацалаваў у сцятыя вусны—трохі засаромелася, цяжка ўздыхнула і ўсё маўчала. Яна вінавата ўглядалася на мяне.

Ціха рыпнулі дзверы, і на панадворак вышаў Сіўтук. Пастаяў воддаль, потым неяк бокам пасунуўся да плоту, падцягнуў да шульца прыадчыненыя веснічкі, а калі варочаўся назад, не пазіраючы ў наш бок, злосна папярэдзіў.

— Усё сядзіць, і не да сну ёй.

Гаварыў ён да Зоні, але гэта датычылася і мяне. Калі яна, паслухаўшыся бацьку, пайшла ў хату, ён дапёк мяне ясна, але як-бы папракаючы толькі яе:

— Ых ты, каб цябе зямля, залёты строіш,— і голас яго пагрубеў, быццам я не дачуў-бы і так,—і каб з кім людскім, а то...

«Людскасць» Сідар разумеў па-свойму і вымяраў яе па-свойму: заможна жыць, трымаць добрае поўвалокі ўрадлівае зямлі, а то і больш, як ён трымае. Толькі тады табе і гонар, табе і пашана, тады з табою завядзе хаўру стары Сіўтук. Ён будзе паважаць, радніцца з табою.

Прыкідваў Сідар на сваё вока і годнасць хлопца для свае дачкі, ашчадна выпытваў і выведваў, бо тут была тая самая мерка—каб багаты. Характар і харазство? Маладому і гэта на ўме, а ён, Сіўтук, разважае зусім інакш, абы, як кажуць, шапка на галаве, абы рукі ды ногі, абы чалавек, а калі ў гадах—бяда невялікая, затое гаспадар спраўны.

І на гэтай вазе Сідара я многа, ды і вельмі многа, не дацягнуў: не быў я роўны Зоні.

А тут якраз здарыўся Васіль—кавалер з Ельніцкіх хутароў. Гэты «ат сабе хлопец», як яго ахарактарызаваў Сідар, пераступіў парог сіўтуковае хаты. Я ўжо ніяк не мог разабрацца, што робіць бацька для свае дачкі. Васіль меў трыццаць сем год, а Зоня нават на год была маладзейшая за мяне. Калі я прыглядзеўся да яго носа, то праўду кажуць: каб зачапіўся за парог ды на яго не абапёрся, то ўпаў-бы. Да кавалера не прыставаў дарагі касцюм, на галаве парадзелі валасы. І каб да Зоні сватаўся хто іншы, а не ён, то я, пэўна, сышоў-бы з вачэй Сіўтука. Мне не абыходзіла яго плата за маю парабчанскую службу, мне абыходзіла Зоня. Я любіў яе.

У той дзень была вечарынка. Вярнуліся якраз дзяўчаты з фэсту, а хлопцы прывялі музыку—кульгавага Пятра з суседняй вёскі. Мы ўсе скláліся па дваццаць грошай і заплацілі яму два злоты, за што ён наймаўся граць усю ноч. Танцавалі на выгане, дзе сыйшлася ўся вясковая моладзь і дзе Пятро на пачатак рэзнуў пару танцаў. Але прытрухаў стары Сіўтук, выглядзеў мяне і, падыйшоўшы крадком, штурхануў, каб ніхто не заўважыў, локцем пад бок.

— Чаго яны таўкуцца на гэтай дзяцеліне? У мяне-ж падлога, намякні ім. Я пушчу ў хату, чуеш, намякні.

Літасць гаспадара здзівіла мяне. Хто мог падумаць, даць веры, што ён «злітуецца», уважыць моладзь, не будзе палохацца, што на яго панадворку закураць і, не давядзі бог, упадзе іскра пад страху, ды начыста высмаліцца Сідар, спапяляцца ў каморы судзіны з прэлым збожжам і пойдзе з дымам доўгі яго будынак. Так падумалі мы ўсе, ды інач́ай трошкі думаў сам гаспадар. Ён гэтым днём рабіў усё ва ўгоду Васілю.

Зоня пабегла прыбіраць у хаце. І неўзабаве пад вясёлы гармонік Пятра ўсе агулам рушылі на сіўтукоў двор.

Быў тут і Васіль. Ён, здаецца, змарнеў за адзін гэты дзень. Ён сох па Зоні, увесь час трымаўся каля яе і нават спаважна прайшоў з ёю лёгкі вальс. Але Зоня стаpанілася яго і, вылучыўшы трапную хвіліну, уцякла ў купку дзяўчат. Васіль пачырванеў: ім, гэтакім багатым кавалерам, ганьбавала Зоня, да якой ён думае прыйсці ў сваты. Аднак яна падабалася яму. Я заўважыў гэта па яго вачах, па яго хадзе, па яго голасу перад ёю. Ён ішоў на рызыку: Зоня пойдзе за яго—ён багаты, дзе-ж яна дзенецца.

Я, прызнаюся, не ведаў, што рабіць. Я любіў, і першы раз так неспадзявана адбівалі маё шчасце, якім я толькі жыў, аб якім было столькі думак і непакою. А яна? Зоня сарамліва, вінавата глядзела на мяне. Няўжо яна пяшчотна яму засмяецца, прыгорнецца да яго і, сустракаючыся калі-ні-калі, гляне на мяне, як на зусім далёкага, чужога, можа нават з нялюбасцю і агідаю? Няўжо ён прыхіліць да сябе ўсю яе, поўную дзявочасці і харазства?

Не, я не ўпушчу сваё шчасце!

Ад гэтае думкі ў мяне адлегла на душы, і я нават быў павесялеў. Можа і не павесялеў, але мне зрабілася як-бы лягчэй.

На брукаваным сіўтуковым панадворку ўсе спыніліся і на нейкі момант сцішыліся. Чакалі Пятра. А калі ён падыйшоў, трохі накульгваючы і ўсё яшчэ граючы вясёлы марш, дзверы ў хату шырока адчыніліся.

Васіля яшчэ на парозе стрэў Сідар і запрасіў на кухню. Я разам з усімі пайшоў у хату, і там забыўся пра ўсё.

Музыка прымасціўся ў покуце на шырокай лаве, закінуў за плячо шырокі рамень і з заліхвацкім пераборам правёў пальцамі па роўным радку белых гузікаў.

Эх, гармонік! Каго ён не развясельваў і каму ён да жалю не рэзаў маладое сэрца? І кульгавы Пятро спавольна расцягнуў мяхі, лёгка закружыліся вясёлыя пары, зазвінеў, глуха прыстукнуў бубен, прытупнулі ўзапар боты ў такт гармоніка—і злілося ўсё ў адзін густы гуд зычнага смеху, моцнай гутаркі, свавольнай музыкі і грукату падлогі. Расступіліся, пацісуліся ў цёмныя куты даглядныя кабеты, што з-за чужых плячэй цікавалі за непаседлівымі дочкамі, пашыліся назад дзеці — і пашырэў круг.

Я, нядоўга пастаяўшы ў парозе, праціснуўся наперад. Першая полька! Але, на шчасце, Зоня замарудзіла ці можа спадзявалася на мяне—не ішла з кім іншым, ці можа так, не набраўшыся адвагі ці ахвоты, сядзела на лаве трохі ўжо як чужая ад мноства людзей у сваёй хаце. На ёй была чорная спаднічка, чырвоны кафтанік з кароткімі рукавамі, з белымі канцікамі, з белым каўнерыкам. І гэты не надта модны ўбор, просты парkалёвы кафтанік, так прылягаў да яе стану, да поўных дзявочых грудзей!.. Чырвоны колер ішоў да яе смуглявага твару.

Я падыйшоў да Зоні. Падняліся чарнявыя тонкія бровы, вочы загарэліся,—яны былі толькі для мяне. Яе спрытная рука лягла на маё плячо—і мы лёгка закружыліся: яна здатная да полькі ды і я не малы аматар.

У рухавай польцы мы забыліся, што недалёка ад нас, усяго цераз парог, у цвілой кухні сядзіць Васіль, падрахоўвае свае выдаткі на спраўнае вяселле, а перад ім стары Сідар казырыцца слаўнаю дачкою і запэўняе яго добрым пасагам.

Полька змянялася вальсам, а там і зноў пачыналася тая-ж самая доўгая полька. Толькі дашчэнту ўмарыўшыся і спацеўшы, мы выйшлі ў сенцы. Я хацеў сказаць Зоні шмат аб чым, шмат чаго запытацца, параіцца. Адзін ва ўсім не разбярэшся, не здагадаешся. Ды, гавару праўду, я добра не ведаў, як выйсці з такіх абставін.

— Пойдзем адсюль... Тут цяжка жыць, тут немагчыма табе і мне,—казаў я.

Яе пальчыкі ўздрыгнулі ў маёй руцэ.

— Куды, Уладак, ну, куды?

Яе непакой павялічыўся. Яна моцна ўхапілася сваімі рукамі мне за грудзі, закалацілася ўся.

— Я не ведаю, я не скажу... Куды-ж гэта, Уладак?

Рукі Зоні моцна задрыжэлі, і мяне яна якбы хацела прыцягнуць, не пусціць ад сябе.

— Мы пойдзем, Зоня, пойдзем у свет. Там хоць чужыя, але не такія ліхія людзі.

Больш не помню, што я гаварыў, але ў сенцах яна заплакала і, здаецца, выбегла на двор. Потым-жа яна ўжо была ў хаце. Я зайшоў на кухню напіцца вады.

Тут усё яшчэ сядзелі Васіль з Сідарам. Гаспадар, набраўшыся не ў меру, адразу з'ехаў ля стала, асунуўся з лаўкі на зямлю і, не ўстаючы, поўз аж да парога. Намацаў рукамі вушак, учапіўся за яго і ўстаў. Васіль яшчэ трымаўся на нагах, ступіў за Сіўтуком. Я выйшаў за імі.

Сідар цераз сілу зацягнуў прыпеўку. Ды хоць-бы запеў, а то проста драў горла на ўсю хату:

Полька тая, полька гэта,
Полька добрая кабета.

Ён выпучыў жывот, закінуў голаў назад, перагнуўся ўвесь і зашоргаў ботамі па падлозе.

Полька дома не начуе,
Полька з хлопцамі танцуе.

Васіль, разводзячы рукамі жанок і дзяцей, што заторылі праход, падыйшоў да Пятра і заказаў вальс. Ён азірнуўся кругом, і асалавелыя вочы яго шукалі толькі яе, Зоні. І знайшлі. Яны вострa ўпіліся ў мяне. Зоня, вядома, была са мною. Мы толькі прайшлі няпоўны першы круг. Перад намі, вызверыўшыся, нібы з-пад зямлі, вырас п'яны Сідар. Правае вока яго прыжмурылася:

— Вон адсюль, вон з мае хаты, і каб нагі твае тут...

Ён збялеў і пацягнуўся сухім кулаком да майго твару, але я абараніўся. Толькі я знячэўку так працягнуў рукі, што ён, стары, п'яны, бразнуўся на падлогу. Здаецца, намагаўся яшчэ ўстаць, але мне добра не помніцца. Нечым цяжкім і даволі-такі ёмкім мне ззаду пеканулі па плячы, і я адчуў вострy боль. Гэта, напэўна, біў Васіль, біў за сябе і за агань-баванага, асаромленага перад усімі людзьмі Сіўтука. Біў ён метка, напавал—і так, каб я не падняўся, не ўстаў ніколі. Другі раз секанулі па галаве—і мне стала горача, забегалі, замітусіліся чырвоныя іскры, і пацямнела для мяне ў хаце. Я аслабеў, але яшчэ ступіў да парога. Дзверы ў сенцы былі адчыненыя—паваліўся цераз парог. Я страціў прытомнасць. Помню сябе толькі тады, калі намацаў на галаве мокрую хустку, ды яшчэ ніяк усё не мог разабрацца, чаму я ляжу на прызбе, на сухім бульбоўніку, чаму гэтак моцна баліць галава гэтак страшна звініць у вушах.

Васіль моцна пабіў мяне. Але рана была невялікая. Я скора папраўіўся. А Зоня? Яна шкадавала. Тры дні даглядала мяне, хаваючыся ад бацькі і крадком прыносіла мне есці. Я быў хлопец моцны і за гэтыя тры дні ачуняў, устаў на ногі.

Апошняга дня яшчэ раненька Зоня праводзіла мяне ў недалёкае ад нашай вёскі старое мястэчка. Ішлі мы не гасцінцам, а воддаль—вузкаю сцежкаю праз рэдкі бярэзнік. Яна чамусьці спяшалася ў хадзе, і мне здавалася, нібы старалася вывесці мяне найхутчэй са сваіх вачэй.

Я загаварыў зноў аб тым, што ёй таксама няма іншага выйсця, як ісці разам са мною. Мы ўсё-ж знойдзем прытулак, бо не ўсюды ліхія людзі. Яна-ж зноў пыталася ў мяне, дзе мы дзенемся? У вёсцы свая хата, свой кавалак хлеба. А што паганы бацька, то яе так пакарала доля. У сініх вачах яе быў смутак цяжкага растання. Зоня неспадзявана для мяне забегла наперад, нібы хацела перагарадзіць дарогу, папрасіла:

— Не едзь далёка! Застанься блізка дзе. Пачакай!

— Дзе-ж мне застацца?

— Дзе-небудзь. Не пакідай мяне! Я баюся!

Я не суцяшаў яе, я гаварыў праўду, ад сэрца, шчыра:

— Скора вярнуся, вярнуся, Зоня. Толькі не выходзь за яго. Чакай мяне.

...Нашто прыпамінаць тое, што так цяжка і невыносна пераносіць самому, што так востра даймае чалавека.

Я пайшоў у свет. У той час нават работу давялося знайсці нялёгка. Я не меў права на той мізэрны грош беспрацоўнага, што выплачвала гміна.

Марны лёс закінуў мяне ў Беласток, дзе на чыгуначнай станцыі я наняўся прыватным рабочым.

У мяне завяліся ўласныя грошы, але мне было не да заробкаў. На сэрцы ляжала другое. Мяне цягнула ў Бярозаўку. І я вярнуўся.

Помню ўжо добра сцямнела, калі я сыйшоў з цягніка ў мястэчку і дзе гасцінцам, а дзе

наўпрасткі полем спяшаўся ў Бярозаўку. Ідучы, я нікога не спаткаў, толькі на поўдарозе мяне засцігдробны дождж з моцным ветрам. Да вёскі тры кіламетры хады, і я нават не заўважыў, як выйшаў на вуліцу. Падыходзячы да сіўтуковае хаты, адчуў сябе трывожна: ногі здаліся не сваімі, забілася сэрца, і мяне апанаваў нейкі страх. Дождж перастаў, і адсунулася цемень ночы. Па небе нізка плылі папяловыя хмары, і дзе-ні-дзе прасвятлелі сінія лапінкі чыстага неба. Воддаль ад вуліцы, на невялікім грудку, выступала знаёмымі абрысамі сідарава хата.

У хаце не было агню. Толькі на кухні гарэла лямпа. Але да сідаравай хаты і даступіцца было цяжка: за гэты час ён наўкруг абнёс яе плотам, абгарадзіўся. Тады плот быў толькі ад вуліцы, а цяпер і з тыльнага боку сажняў у чатыры стаяла новая агарожа. Я, не доўга думаючы, учапіўся рукамі за трывалыя частаколіны, на адных руках пераскочыў цераз плот і зазірнуў ў акно.

У кухні было двое: на печы падкурчыўшы пад сябе ногі, сядзеў стары Сіўтук, і як два гады таму назад, у сподняй бялізне. Ля століка, спіною да мяне, умасціўся незнаёмы чалавек.

«Няўжо Васіль?»—Я пачаў пазнаваць. Галава павярнулася. «Нос, той самы дзюбаты нос».

Мяне адолела нейкая слабасць, апанаваў халодны страх. Я не помню, як дайшоў да брамкі. Мой неспакой павялічыўся.—Чаго ён тут? Ён яе...—я скрыгануў зубамі, але думка была адна,—ён узяў яе замуж. Інакш не сядзеў-бы тут.

Чакаў я нядоўга, але гэты кароткі час чакання здаўся бясконца доўгім. І вось з вуліцы, ля веснічак, паказалася яна. Ішла, не вельмі спяшаючыся, але трохі неспакойна. Я пазнаў яе адразу па росту, па хадзе, нават яшчэ здалёк па той самай белай хустцы.

— Зоня!

Яна палахліва адхіснулася ўбок.

— Ой...—здзівілася, ды неяк скора пазнала, можа нават не спадзеючыся, што гэта напэўна я.—Уладак, ты?.. Няўжо ты?

З пакутай і тугою я выгаварыў яшчэ раз дарагое імя, якое ў голас не гаварыў даўно... Я ніколі не думаў, што яго так цяжка вымавіць, аж да горкіх слёз на вачах, да цяжкага болю ў душы:

— Зоня!..

Яна маўчала, не адказвала. Збітая з тропу, стаяла як сама не свая, прыгнуўшыся. З-пад хусткі ў яе выбіліся валасы, яна не папраўляла іх і ўсё ўглядалася ў мой твар. У цемры вочы яе наліліся дзіўным бляскам. У іх заталілася нядобрая злосць.

— Ты прыехаў дзеля мяне? Нашто?—голас быў не свой і страшны, як позірк вачэй.

— Чаму-ж ён тут! Няўжо забылася?

— Не, Уладак, не!—ціха і жалобна адазвалася яна. І ці гэта быў жаль па сабе, па мне, што так рана загубілася маладосць наша:— Адкуль мне ведаць, што ты вернешся. Я чакала, мне было не выжыць без цябе. Але яны падгаварылі. Яны спакусілі... Ты не даруеш мне, ніколі не даруеш!

Яна адбеглася ад мяне.

— Зоня, што з табою?—я кінуўся да яе. У грудзях, здаецца, нешта адарвалася і балюча заныла.

— Не чапай мяне! Я хаджу дзіцём. Карай мяне, карай бацьку!

Заламаўшы рукі яна заплакала. І гэты плач працяў мяне, востра кальнуў у сэрца. Я адчуў раптоўнае гора, вялікую бяду. Можа я меў што сказаць ды не мог, можа меў чым парадзіць, ды не ведаў, як. І я маўчаў. Да свядомасці даходзіла штосьці крыўднае, і раптам паднялося гарачае полымя нянавісці і брыдкасці да Зоні, да Васіля. Я быў знявагаваны, усё маё святое, чыстае было аганьбавана. І мае думкі перавярнуліся інакш і можа горш для мяне. Мне здалося, што не на кухні ў сіўтуковай хаце, а тут, недзе каля мяне, стаіць Васіль. Яго тлустыя губы дрыжаць, гараць яго асалавелыя вочы і апастылыя рукі яго цягнуцца да яе.

— Зоня!—вырвалася ў мяне з грудзей, я памкнуўся быў да яе, але не ўбачыў Зоні. Помню, бег вуліцаю, не разбіраючы, куды бягу і чаго бягу. Здаецца, чуў яе голас—«Уладак! Уладак!», але, апынуўшыся ў чыстым полі, убачыў дарогу і пайшоў з Бярозаўкі.

# ТЭАТР ЗВЯРОЎ

Больш за сорак год прыцягвае ўвагу маскоўскай дзетвары невялікі асабняк побач з плошчаю, якая носіць цяпер імя Комуны. Яшчэ ў 1912 годзе пасяліліся тут незвычайныя жыхары—сланы і вярблюды, ваўкі і мядзведзі, лісы і вароны, зайцы і мышы, малпы, ільвы. Дружнай сям'ёй зажылі звяры і птушкі — выхаванцы выдатнага рускага дрэсіроўшчыка Уладзіміра Леанідавіча Дурава.

«Куток Дурава» — так называюць масквічы гэты своеасаблівы будынак-заапарк. Цяпер шматграннай работай яго кіруе дачка У. Л. Дурава — Анна Уладзіміраўна.

Цяжка вызначыць, што гэта: заапарк? музей? тэатр? Усе тры назвы ў аднолькавай ступені адпавядаюць таму, што створана вядомым дрэсіроўшчыкам і яго паслядоўнікамі ў доме № 5 па вуліцы Дурава.

Раніцай каля брамы гэтага дома тоўпіцца дзетвара. Усе збіраюцца тут, каб пабачыць, як кожны дзень паважна і горда выходзяць на шпацыр два неразлучныя сябры — двугорбы вярблюд Рачо і вялізны індыйскі слон Пунчы. Пунчы нізавошта не выйдзе на прамінку без Рачо. У сваю чаргу Рачо ніколі не згаджаецца ісці, пакуль не пабачыць, што за ім тупае Пунчы.

Цікавы такі выпадак. Рачо быў «запрошаны» прымаць удзел у здымках кінофільма «Вольніца». За ім прыслалі спецыяльна прыстасаваную для гэтага падарожжа машыну. Ведаючы адданасць Пунчы да вярблюда, работнікі Кутка вырашылі на час пагрузкі змясціць слана ў другое памяшканне. Але гэтая хітрыка поспеху не мела: вярблюд катэгарычна адмовіўся ўвайсці ў машыну. Апаратар і рэжысёр вымушаны былі самі прыехаць у Куток з апаратурай, каб зняць патрэбныя кадры на месцы.

Шматлікія гледачы Кутка Дурава бачаць яго выхаванцаў не толькі ў пабудаваных для іх домиках, вальерах, загонах, але (і гэта самае цікавае!) — у ролі «артыстаў» на сцэне. У будынку Кутка ёсць невялікі тэатр. Усё ў ім, як у сапраўдным тэатры — і глядзельная зала, і сцэна, і заслона, і закулісныя памяшканні. У ролі артыстаў тут выступаюць звяры, птушкі, рознастайныя жывёлы.

148 «артыстаў» налічваецца ў «трупе тэатра» Кутка Дурава. Калі-б усіх выканаўцаў выпускаць на сцэну па чарзе, спектакль мог-бы працягвацца цэлыя суткі. У праграме тэатра — 50 нумароў. Яны складаюць чатыры вялікія канцэрты.

Папулярнасцю карыстаецца самы юны ў трупе артыст — марскі леў Дадон. Ён — «жанглёр».

Сямімесячны мядзведзік Байкал — падарунак сібірскіх паляўнічых — танцуе, катаецца на барабане, перакульваецца, «іграе» ў валейбол, прагульваецца з парасонам па сцэне.

Сабака Джэк зарэкамендаваў сябе добрым «матэматыкам». Гэтага «артыста» выхаваў член гуртка юных дрэсіроўшчыкаў Толя Маёраў.

Ёсць сярод артыстаў варона Вара і грак Малышка, якія «чытаюць»; янот Цішка, які «мые» бялізну; козачка Ночка, якая «танцуе»; барсук Шарык, які «грае» на шарманцы; кошка Дымка — фурман і шмат іншых «талентаў».

Р. ДОДЗІН.



Марскі леў Дадон.



Два неразлучныя сябры Рачо і Пунчы.



↕ Лісіца і певень, мыш і кот ядуць з адной пасуды.



Мядзведзік Байкал сабраўся на прагулку.



Добрай раніцы!



# ЗАЎСЁДЫ Ў СТРАІ

**Янка БРЫЛЬ**

Дзесяць гадоў таму назад памёр Валянцін Таўлай.

Жыццёвы шлях яго быў кароткім і яркім, як бляск маланкі. Высокае званне паэта-рэвалюцыянера, вядомасць аднаго з лепшых работнікаў давераснёўскага і ваеннага, партызанскага, падполля каштавалі яму вельмі дорага. Катаванні ў засценках дэфензівы, этапныя шляхі, турма, пасля—нялёгкая работа партызанскага сувязнога... Калі-ж адшумела вайна, прыйшоў час пажыць і папрацаваць спакойна, яго— на трыццаць трэцім годзе жыцця—аблажыла хвароба. Страшна сказаць—ён паміраў шэсць месяцаў, ведаў пра гэта, а ўсё-ж заставаўся самім сабою: цярплівым і спакойным. Дачка не паспела парадаваць яго сваім першым словам. Першая кніга не прыйшла да яго ў бальніцу нават у выглядзе карэктуры. А ён жартаваў, па-свойму, ціха і весела, над тым, як мы з ім будзем хадзіць калісьці «ў чыне цесцяў», гаварыў мне: «Нічога, мы яшчэ папрацуем, яшчэ парадуем адзін аднаго новымі творамі». І ніколі нельга было пазнаць, колькі яму каштуе гэты няштучны аптымізм.

Пачаў ён рана. На дванаццатым годзе жыцця хлопчык быў выключаны са школы за першае праяўленне нацыянальнай самасвядомасці. Першыя, надзіва сталыя вершы яго датаваны 1928-м годам, калі паэту было чатырнаццаць. На шаснаццатым годзе ён быў арыштаваны за падпольную камсамольскую дзейнасць.

Аб гэтым пачатку яго рэвалюцыйнага шляху красамоўна расказвае фотаздымак, які нядаўна паступіў у распараджэнне нашай рэдакцыі.

Сам паэт не бачыў гэтага здымка, інакш— у спадчыне Таўлая, магчыма, быў-бы яшчэ адзін верш, па-таўлаеўску непаўторна авеяны роздумам над мінулым, мужнай усмешкай чалавека, які заўчасна пасталеў у бурах.

Мне давялося быць першым чытачом і крытыкам некаторых апошніх вершаў Валянціна, у пэўнай меры прысутнічаць пры іх нараджэнні. Адзін з такіх вершаў — «Лістоўка» — прыпомніўся мне, калі я ўпершыню зірнуў на гэтае фото:

...Стыль да болю знаёмы:
любіў я калісьці і сам
гэткім чынам расхістваць
асновы варожага свету.

Першы арышт В. Таўлая. Здымак з судовай справы.



Прызнавайся, лістоўка,—
ці часам не я напісаў
і цябе ад імя
забастовачнага камітэта?..

Нават не ўвесь верш, а іменна гэтыя словы ўспыхнулі ў памяці, калі я міжвольна уявіў іх аўтара схіленым над сваім юнацкім фотаздымкам—з жывой усмешкай, з жывым пытаннем у вачах: «Прызнавайся, дзе ты быў, дзе ты так доўга вылежваўся ў архівах?..»

«Стыль да болю знаёмы...»

А нам да болю знаёмы гэты твар, такі дзяцінны яшчэ, такі падобны да тварыка яго дачкі, цяпер ужо вучаніцы чацвёртага класа. Яркі ўспамін, вострае пачуццё жалю і захапленне заіграла двума сваімі полюсамі: з аднаго боку—звонкі смех яго дзесяцігадовай Галінкі, і смех вельмі падобны да бацькі, з другога—дошка на грудзях рэвалюцыянера, скатаванага ў дэфензіве, «ганебная» дошка, якой можна ганарыцца і якой, як баявымі ордэнамі, ганарыліся і ганарацца многія паплечнікі паэта па барацьбе.

На дошцы—дата баявога хрышчэння: 29 жніўня 1929 года. Выходзячы на барацьбу з польскім фашызмам, камсамолец Таўлай быў маладзейшы за краснадонскіх «маладагвардзейцаў». З дзесяці гадоў гэтай барацьбы каля сямі прайшло за кратамі,—амаль уся маладосць...

Давераснёўская біяграфія паэта—дасканалая ілюстрацыя лёсу перадавой заходнебеларускай моладзі. Барацьба за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне з-пад прыгнёту пілсудчыны, за ўз'еднанне з Савецкай радзімай. Самаадданая і бескампрамісная барацьба была зместам жыцця Таўлая і запаветнай тэмай яго творчасці. Усюды, на кожным этапе гэтай барацьбы, верным спадарожнікам змагара было яго шчырае і мужнае паэтычнае слова. Верш яго быў перш за ўсё зброяй. Таму ён амаль усюды па-салдацку суровы, з рэдкімі пераходамі да задушэўнай цеплыні.

У творчай спадчыне Таўлая, колькасна невялікай, але як-жа багатай і непаўторнай, ёсць аўтабіяграфічныя нататкі, нешта накшталт дакументальнай аповесці—«Аб сабе», напісаныя гранічна скупой і вобразнай мовай. Нажаль, нататкі гэтыя ахопліваюць толькі маленства паэта. Ні ім самім, ні сябрамі яго, паплечнікамі па змаганню, не напісана амаль нічога пра маладосць Валянціна,—пра тыя гады падпольнай працы і нечалавечых пакут у санацыйных турмах, калі гэты ціхі і лагодны па характару юнак умеў быць сапраўдным камсамольцам і комуністам, сапраўдным байцом рэвалюцыі, калі гэты сціплы і не па гадах сталы таварыш «пілаваў вершам краты», стварыў першакласныя ўзоры рэвалюцыйнай паэзіі.

Пасля вызвалення, азіраючыся на сваю маладосць, на «знаёмыя шляхі», якія «затанулі ў далеч», паэт пісаў:

Пры юнацтве, што здалёк звініць,
і арлы садзіліся ахвоча,
часам,—каб да лёту заманіць,
часам,—каб выдзёўбваць вочы.
Але мы, ўлюбіўшыся насмерць
у шляхі, пракладзеныя ў заўтра,
навучылі песню разумець,
што ў змаганні і загінуць варта.

Жыццё такіх, як Таўлай, належала народу. Пакаленне, з якім паэт-рэвалюцыянер быў насмерць закаханы ў светлую будучыню сваёй Радзімы, аддало сваю цудоўную маладосць справе народа, справе партыі. Мужны комсамол—маладая гвардыя давераснёўскіх год змагання за сённяшні светлы дзень заходніх абласцей Беларусі—чакае свайго гісторыка, свайго мастака.

У дні Вялікай Айчыннай вайны, апынуўшыся на захопленай ворагам тэрыторыі, Таўлай уключыўся ў партызанскую барацьбу. Сціплая і нялёгкая, некрыклівая але слаўная праца партызанскага сувязнога-разведчыка была натуральным працягам дзейнасці спрактыкаванага падпольшчыка.



Валянцін Таўлай у час адпачынку ў Севастопалі (1932 год).

Ёсць у Максіма Танка верш, дзе паэт расказвае, як да яго ў змрочныя давераснёўскія дні, «калі гадамі не ўставала сонца», прыйшоў звольнены з Лукішскага астрогу таварыш і прынёс, зашытыя ва ўбогай вопратцы, вершы Таўлая.

І мы іх перапісвалі ўсю ноч.
Калі-ж прышоў пад вокны ранак хмарны,
У непагоду, у асенні дождж
Аднеслі іх ў падпольную друкарню.

Напрадвесні сорак чацвёртага года ў партызанскую друкарню, што працавала пры штабе Стаўбцоўскага міжрайцэнтра, на поўдні Налібоцкай пушчы, адзін з разведчыкаў Асоба-казацкага атрада прывёз вершы невядомага паэта, засакрэчанага па ўсёй строгасці баявых законаў. Мы, супрацоўнікі рэдакцыі сатырычнай газеты «Партызанскае жыгала», не дапытваліся, вядома, пра аўтара, а далі яго вершам «зялёную вуліцу». За першай ластаўкай—паляцелі другія. І толькі ў канцы года, пазнаёміўшыся з Таўлаем ужо ў вызваленым Мінску, я даведаўся, што ён—той наш засакрэчаны супрацоўнік, вершамі якога захапляліся і наборшчыкі і мінёры.

...Дваццаць сёмага красавіка спаўняецца дзесяць год з таго ранку, калі перастала біцца сэрца паэта. У памяці яшчэ стаіць, як учарашні, той дажджлівы поўдзень, калі мы, сябры Валянціна, у горкай жалобе схіляліся над заўчаснай магілай. А ўсё-ж не верыцца, што ён—наш ціхі і палымяны друг—больш не з намі!..

Ён не паспеў зрабіць усяго, што хацеў і мог. Па старой турэмнай прывычцы да «грыпсаў», патайных пісулек, ён занатоўваў думкі свае, планы новых твораў, паасобныя радкі на маленькіх кавалачках паперы, мікраскапічным почыркам, і гэтымі паперкамі быў заўсёды набіты яго стары партфель, з якім ён ніколі, здаецца, не расставаўся. Ён працаваў, як сапраўдны мастак,—многа, але без спешкі. І ў гэтай немітуслівай, грунтоўнай працы мне бачылася яго сталая, правераная ў жорсткіх выпрабаваннях упэўненасць у несмяротнасці справы, якой ён беззапаветна служыў. А ў несмяротнасці справы—і наша бяссмерце.

Вершы Валянціна Таўлая і светлы воблік іх творцы—заўсёды ў страі.

Сцяпан ГАЎРУСЁЎ

Малады паэт Сцяпан Гаўрусёў нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Нова-Аляксандраўка Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці. Пасля вучобы ў сямігодцы ён займаўся ў Магілёўскім педвучылішчы, а ў 1951—54 гг. служыў у Савецкай Арміі.



Вершы яго з 1948 года неаднаразова з'яўляліся на старонках часопісаў «Полымя», «Беларусь», «Маладосць» і газет «Літаратура і мастацтва» і «Чырвоная змена».

У 1955 годзе ў Дзяржаўным выдавецтве БССР выйшаў з друку першы зборнік С. Гаўрусёва «Паходныя кастры». Ніжэй мы змяшчаем новыя вершы маладога паэта.

## На грэбнях хваль

Страмніна быстрая ракі
Мяне знянацку абдымае.
Адзін, другі узмах рукі —
І хваля пругка узнімае.

І вось плыву, плыву, грудзьмі
Напор адчуўшы стрэчнай плыні,
І паўстаюць перад вачмі
Раней нязнаныя глыбіні.

А там парог, як бюракрат,
Загарадзіў сабой дарогу
І выдумцы няхітрай рад,
Што многа шуму, пены многа.

Ўсплывае кітам бервяно,
Корч-васьміног стаіўся нема,
І цягне сквапна вір на дно,
Халодны, мутны, што багема.

Як абывацелі, малькі
Хаваюцца пад вязкай цінай.
Ды плынь магутная ракі
Мяне узносіць, як плацінай.

З крамністых гор бяжыць рака,
І шлях яе не будзе тванным.
Хай пройдзе поўмацерыка —
Сальецца чыстай з акіянам.

І я спяшаюся туды,
Адкуль б'юць чыстыя вытокі,
Да паднябеснай той грады,
Дзе сілы ёй даюць аблокі.



* * *

О, каб я мог у час вячэрні,
Як дзень знікае за парканам,
Ва ўсе дамы, ва ўсе кватэры
Зайсці з візітам нечаканым!

Я-б паглядзеў, ці многа сонца
Людзям да заўтра засталося,
Ці толькі промні, што бясконца
Нагамі топчуць на падлозе;

Ці холіць тут цяпла такога,
Каб не было далёкім ранне,
Ці не ад холаду людскога
І месяц гнецца ў рог барані?



Я-б не заплюшчыў свае вочы,
Калі-б халодны змрок убачыў
І на парозе сіняй ночы
Дарогу-б сонцу перайначыў.

Я-б загадаў яму вярнуцца
Туды, дзе дзень застаўся ценем,
Каб новай раніцай прачнуцца
Маглі ўсе з сонечным праменнем!

* * *

Ставок вады, ставок вады
Раскрыў акно у падзямелле.
І, асцярожныя, туды
Заглядваць воблакі умелі.

Ледзь дакрануўшыся жарствы, —
Паціху, каб не паслізнуцца, —
Плылі павольна да травы,
Што ў хвалі марыць акунуцца.

Туды, пад карані ракіт,
Што над магілай шалясцелі,
Нябёсаў чэрвеньскіх блакіт
Перанясці яны хацелі.

Там спіць салдат, які не раз
Сачыў за рухам іх палётаў,
Хоць воблакаў было ў той час
На небе менш, чым самалётаў.

Салдат за неба вёў тут бой...
Яму-ж зямлёй закрылі вочы.
Ды і ў магіле над сабой
Ён адчуваць нябёсы хоча.

І, асцярожныя, туды
Штодня плывуць цяпер аблокі,
Каб не зямля — блакіт густы
Бярог салдата сон глыбокі.



* * *

Вясна —
Гарэзная дзяўчына —
За светлы час красы кароткай
Ва ўсіх мільгне перад вачыма
Сваёю лёгкаю паходкай.

Хадой спакойнай пройдзе лета,
Як прыгажуня-маладзіца,
Што ласкай шчасця абагрэта
І на сябе не наглядзіцца.

А восень ступіць ціхім крокам —
Абедзве занятыя рукі —
У фартуху сваім шырокім
Нясе, як маці, падарункі.

Адна зіма у хустцы белай
На печы сядзе, як бабуля,
І казкі баіць вечар цэлы
Унукам, што даўно заснулі.



* * *

Я познім вечарам дамоў прыехаў,
Стаміўся конь — ледзь ставіў капыты.
І я ў табун павёў яго, туды,
Дзе сыпле восень спелы град арэхаў.

Гай клікаў мяне жоўтымі лістамі
І шолахам прадрогшага галля,
Але пахаладзеўшая зямля
Маўкліва слалася пад капытамі.

Нячутна ноч ішла з усіх бакоў,
І неба, як шкарлупіна арэха,
Ганяла ціха стомленае рэха,
Што глуха вылятала з-пад падкоў.

# Савецкая „Кінопанарама“

Для пачатку крыху фантазіі.

...Мы ў адным з новых кінотэатраў, якія будуць пабудаваны ў бліжэйшы час у сталіцы нашай рэспублікі Мінску. Разам са шматлікімі гледачамі заходзім у вялікую глядзельную залу, у якой крэслы размешчаны ў выглядзе амфітэатра. Гэтая зала нічым не адрозніваецца ад звычайнай, хіба толькі тым, што экран незвычайна вялікіх памераў і ўяўляе сабой дугу, павернутую да гледачоў увагнутай старанной.

... Павольна тухне святло. На экране — кабіна самалёта ў палёце. Чуваць гул матораў. Раптам самалёт нахіляецца, робіць разварот і хутка імчыцца ўніз, падае. Усе, хто знаходзіцца ў зале, інстынктыўна хапаюцца за ручкі крэслаў і... натыкаюцца на суседзяў.

Кіно прымусіла гледачоў забыцца, што яны на самай справе сядзяць у крэслах тэатра, а не ў кабіне самалёта.

Чым-жа дасягаецца такі незвычайны эфект?

Кожны чалавек на сваім уласным вопыце ведае, што звычайна ў жыцці ён бачыць не толькі тое, што адбываецца проста перад ім, але таксама і тое, што адбываецца па баках. Гукі мы таксама чуем не толькі тыя, якія ўзнікаюць перад намі, але і тыя, якія да нас даносяцца ззаду, збоку або зверху.

На гэтай аснове і створана панарамнае кіно.

Панарамны фільм у адрозненне ад звычайнага здымаецца адначасова трыма апаратамі на тры плёнкі пад вуглом у 146 градусаў. Пад гэтым-жа вуглом зняты фільм дэманструецца з трох апаратаў на ўвагнуты цыліндрычны экран. Уражанне ўзмацняе яшчэ стэрэафанічны гук. Такім чынам, глядач, які сядзіць у зале панарамнага кінотэатра, адчувае сябе непасрэдным удзельнікам падзей, што разгортваюцца на экране.

Першая спроба стварэння панарамнага фільма, або «сінерамы», была яшчэ ў 1925 годзе. Французскі рэжысёр Абель Ганс зняў трыма апаратамі фільм «Напалеон», які дэманстраваўся на трох пастаўленых шчыльна адзін да аднаго экранах. Нягледзячы на недасканаласць усёй сістэмы паказу, батальныя эпізоды гэтага фільма, па сведчанню гледачоў, зрабілі вялікае, нечаканае ўражанне.

Першы стала дзеючы панарамны кінотэатр быў адкрыты ў Нью-Йорку ў 1952 годзе. Зараз налічваецца панусь што некалькі дзесяткаў такіх кінотэатраў у свеце. Гэта тлумачыцца тым, што амерыканскія кінодзялкі ў імкненні да нажывы хаваюць сакрэт новага кіно.

Калектыў інжынераў навукова-даследчага кінофотоінстытута сканструяваў і зрабіў узоры айчыннай здымачнай і праекцыйнай кінопанарамнай апаратуры. У дні святкавання 40-годдзя Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі працоўныя Масквы ў спецыяльна абсталяваным кінотэатры ўбачаць першыя савецкія панарамныя фільмы.

Згодна рашэння Міністэрства культуры СССР у бліжэйшыя гады тэатры «Кінопанарама» будуць пабудаваны ў сталіцах саюзных рэспублік і буйнейшых гарадах нашай краіны. В. СМАЛЬ.

# НАФТА ПАЛЕССЯ



Памочнік бурыльшчыка Рыгор Макарэнка падрыхтоўвае буравы інструмент.

Напрадвесні рыхтавалася гэтая карэспандэнцыя. Над забалочанымі пералескамі нізка слаліся шэрыя воблакі. А над воблакамі ліло сваё цяпло па-веснавому яркае сонца. Самалёт купаўся ў яго шчодрых праменнях.

Пасажыры, што спяшаліся на Палессе, не адрывалі позірку ад вакон, але, апрача срабрыстых крылляў машыны і бялесых клубоў пары ўнізе, нічога не маглі ўбачыць.

Мяркуючы па часу, мы былі ўжо над Мазыром. Раптам стала цёмна: самалёт, ідучы на пасадку, перасякаў таўшчыню воблакаў. Праз некалькі мінут мы былі на зямлі, так і не задаволіўшы сваю цікаўнасць: не паглядзелі на воблакі ўверсе.

Мы спяшаліся да разведчыкаў палескай нафты.

Нафта! Думаючы пра яе, кожны з нас уяўляў берагі Каспія, сонечны Азербайджан ці «новыя Баку» — на Волзе, у Башкірыі, у Татарыі, на Пячоры...

І вось — нафта на Палессі!

Аўтамашына, якую прадставіў у наша распараджэнне дырэктар Беларускай канторы вышукальнага бурэння Канстанцін Георгіевіч Сілкоў, імчыць па дарогах Палесся, вязе групу людзей, якія жадаюць убачыць сваімі вачамі беларускую нафту, пазнаёміцца з людзьмі, якія «умеюць бачыць скрозь зямлю».

Прайшло нямала часу, перш чым перад намі ў лясным гушчары адкрылася шырокая паляна і на ёй — ажурная і незвычайна лёгкая сталёвая буравая вышка. Яе вяршыня, ўзнесеная на 40-метровую вышыню, ахутана туманам. А ля падножжа, нібы схіленыя веліканы, — агромністыя трубы. З шалёўчатага збудавання, якое складае адно цэлае з вышкай, даносіцца грукат дызеляў...

З варот вышкі выходзіць чалавек. Ступіўшы некалькі крокаў, ён нахіляецца да металічнага прадмета, які ляжыць на памосце, і пачынае змятаць з яго снег.

Пра гэтага чалавека нам гавораць: «Самы малады і па ўзросту і па стажу рабочы нашага ўчастка. Мясцовы жыхар. Нікалаем Селюком завуць. Камсамолец».

Заўважце, не бакінец, ці прыезджы з якіх-небудзь іншых нафтапромыслаў, а мясцовы жыхар, паляшук, нашчадак дзеда Талаша. Мы спыталі ў яго, што гэта за прадмет ачышчае ён ад снегу і што ён збіраецца з ім рабіць.

— Гэта наш «прафесар»! — усміхнуўся Сялюк.—«Прафесар Долата». Трэба падрыхтаваць яго ў камандзіроўку. Туды... — і ён пакруціў вялікім пальцам уніз. І тут-жа, заўважыўшы недаўменне на нашых тварах, сур'ёзна растлумачыў: — Гэта асноўны від буравога інструменту — каленкавае долата. Яно навінчваецца на самы ніз труб, круціцца на забоі скважыны і ўвесь час паглыбляе і паглыбляе яе. Зразумела?

— Чаму-ж вы называеце яго прафесарам?

— Гэта ў бурыльшчыкаў даўно прыдумана! Ні адзін геолаг дакладна не вызначыць, якія пласты пройдзе скважына, на якой глыбіні што сустрэнецца. А бурыльшчык скажа. З чыёй дапамогай? З дапамогай долата. Вось і атрымліваецца, што гэта — галоўны прафесар!

Жарт, вядома, застаецца жартам. Але ён яскрава падкрэслівае любоўныя адносіны бурыльшчыкаў-разведчыкаў да сваёй працы. Кожны з іх ахвотна раскажа вам цікавую гісторыю адкрыцця нафты ў гэтым раёне...

Першымі падалі думку аб існаванні на Палессі нафты вучоныя-геафізікі. Назіраючы за змяненнем сілы цяжару, за распаўсю-



Бурыльшчык Іосіф Рудкоўскі.

джаннем па зямной кары гукавых хваляў, геафізікі, якія пачалі свае даследаванні яшчэ да Вялікай Айчыннай вайны, заўважылі ў геалагічнай будове поўднёвай ускраіны рэспублікі ўмовы, спрыяльныя для пошукаў нафты. У 1957 годзе стала магчымым цвёрда сказаць аб новым перспектыўным нафтаносным раёне — беларускім Палессі. Адна з разведачных скважын дала фантан нафты такой сілы, што ўціхаміраць яго каштавала сапраўды гераічнай працы.

Узрост беларускай нафты вылічваецца мільярдамі год. Працоўны стаж беларусаў-нафтавікоў вымяраецца гадамі і нават месяцамі. Удзельнік баёў за вызваленне Беларусі ўраджэнец Віцебшчыны Георгі Іванавіч Еўдакімаў не так даўно зрабіў першыя крокі разведчыка нафты. А цяпер ён — перадавы майстар, які ўжо прабурыў каля 15 тысяч метраў. Упэўнена асвойвае новую прафесію карэнны паляшук Рыгор Макарэнка — памочнік бурыльшчыка. Яго зямляк Фёдар Мазурэнка кіруе сэрцам буравой установкі, крыніцай яе сілы і энергіі — дызелем. Мазурэнку падуладны рухавікі агульнай магутнасцю амаль у 15 тысяч конскіх сіл.

Зладжана і дружна працуе брыгада, ці, як яе тут называюць, вахта. Узначальвае вахту камсамолец Іосіф Рудкоўскі.

Неўзабаве сюды, да скважыны, прыйшлі начальнік участка Сурэн Лявонавіч Мелікаў і геолаг камсамолец Анатоль Поляк. Яны пачалі правяраць работу вахты. Па выразу іх твараў было зразумела, што яны засталіся задаволеныя ходам справы.

Потым Анатоль Поляк паказаў нам узоры нафтаносных парод і нафту — чорную, густую, са спакойным бляскам на паверхні.

Нахіліўшыся да балонаў з нафтай, мы ўдыхалі яе пах і яна здавалася нам духмянай. Вось яна, паланянка нетраў, жыватворчая сіла індустрыі.

Вось яно, невычэрпнае багацце Палесся — калісьці, здавалася, беднага краю лясоў і балот!

**А. ДЗІТЛАЎ,**
**Фото аўтара.**

Геолаг Анатоль Поляк вывучае пароду, якую дастаў з нетраў зямлі.



# МАЯКОЎСКІ Ў МАСКВЕ

14 красавіка мы адзначаем дзень памяці Владзіміра Маякоўскага. Юнаком Маякоўскі трапіў у Маскву, дзе звязаў сваё жыццё з жыццём рэвалюцыянераў-камуністаў. Ніжэй мы друкуем раздзел з кнігі Дм. Малдаўскага аб Маякоўскім, якая выйдзе ў Ленінградскім выдавецтве.

... З Кутаісі пераехалі ў Маскву.

Студэнты пазнаёмілі Владзіміра з такімі кнігамі, аб якіх ён нават і марыць не мог у Кутаісі. Чытаць дома не ўпраўляўся, дачытваў у гімназіі, у чацвёртым класе 5-й гімназіі, куды быў пераведзены. Прачытаў «Анты-Дзюрынг» Ф. Энгельса, «Прадмову да «Крытыкі палітычнай эканоміі» К. Маркса, «Дзве тактыкі соцыял-дэмакратыі ў дэмакратычнай рэвалюцыі» В. І. Леніна.

Складаныя словы «матэрыялістычнае разуменне гісторыі», «класавая свядомасць», «дыялектычны метад», раскрываліся, станавіліся больш зразумелымі, па-новаму тлумачылі ўсё, што ляжала ў памяці бязладна, бесталкова, навалам. Ленінская крытыка тактыкі меншавікоў, абгрунтаванне бальшэвіцкай тактыкі ў перыяд буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі — усё гэта хвалявала значна больш, чым размеранае — ад званка да званка — жыццё гімназіі.

Сябры — таксама гімназісты, але з 3-й гімназіі,—выдавалі нелегальны часопіс. Валодзя паспрабаваў пісаць сам. Атрымалася, паводле яго слоў, «надзвычай рэвалюцыйна і ў такой-жа ступені пачварна». Вершы не выяўлялі таго, што ведаў, бачыў, адчуваў Маякоўскі.

Дома даводзілася выпальваць па дрэву і маляваць нязграбных баярышняў, падобных да лялек, лялькі, падобныя да баярышняў — і ўсё гэта было агіднае, прыгожанькае, бясконца ілжывае, тое адзінае, што купляў магазін.

А студэнты гаварылі аб сапраўдным мастацтве, аб творчасці, аб рэвалюцыі. Рэвалюцыя жыла. Яна крочыла дзесьці побач.

Час быў суровы. Правальваліся яўкі і адрасы. Ішла паласа арыштаў. І зусім зразумела, што калі да студэнта Вегера, вядомага пад клічкай «Паволжац», з'явіўся цыбаты юнак з Каўказа і сказаў, што хоча працаваць, Паволжац насцярожыўся.

Размова была доўгая. Выявілася, што юнак добра пісьменны, чытаў працы Леніна. Людзі, знаёмыя з Маякоўскім, яго сябры-студэнты, расказвалі аб ім, як аб чалавеку надзейным.

Член Маскоўскага камітэта РСДРП(б) Паволжац накіраваў юнака з Кутаісі на агітацыйную працу ў Лефортаўскі раён. Маякоўскі атрымаў партыйную клічку «таварыш Канстанцін».

Пачалася праца агітатара, аб якой ён толькі марыў. Людміла Уладзіміраўна, сястра паэта, успамінала, што сумяшчаць агітацыйную дзейнасць і шкалярскае зубрэнне Маякоўскі не мог. Ён пакінуў гімназію, пачаў займацца сам, вывучаў палітэканомію, філасофію.

У пачатку года Маякоўскі быў абраны ў гарадскі камітэт РСДРП (б), а ў канцы сакавіка быў арыштаваны паліцыяй у падпольнай друкарні. У яго былі знойдзены лістоўкі і бальшэвіцкія газеты. Пачалося следства.

Следчы Вальтаноўскі ўяўляў сябе вялікім сышчыкам. Ён з лупай у руцэ разглядаў фотаздымак—профіль і анфас—і пераводзіў позірк на затрыманага. Чытаў асобыя прыкметы.

Усё супадала. Ходзячы па пакоі, следчы нечакана пытаў аб рэчах пабочных, невядомых, а потым раптам адразу:

— Хто даў лістоўкі?

Але дабіцца нічога не здолеў. Маякоўскі заяўляў нязменна адно і тое-ж — лістоўкі даў яму невядомы каля помніка Пушкіну. Следчы мяняў тактыку.

— Не разумею, чаму я павінен пісаць пратакол сам, калі вы можаце зрабіць гэта не горш за мяне!

Ён саджаў Маякоўскага за стол і пачынаў дыктаваць. Яму вельмі хацелася абвінаваціць гэтага юнака ў напісанні лістовак...

Маякоўскі ўспамінаў, як ён безнадзейна пераблытваў дыктант. Пісаў: «соцыяль-дзімокрытычная».

Вальтаноўскі адступіў. Да таго-ж ён даведаўся, што затрыманаму ўсяго толькі 14 год. У пачатку красавіка Маякоўскі быў вызвален да суда пад адказнасць маці. Але за ім сачылі. У архівах захаваліся данясенні шпікоў аб тым, дзе бываў і што рабіў «Высокі».

Маякоўскі добра ведаў, што за ім сочаць. Пры жаданні адчапіцца ад «хвастоў» было не вельмі цяжка — дастаткова было ўскочыць на хаду ў трамвай або звярнуць хуткім крокам у прахадны двор і перачакаць за бліжэйшымі параднымі дзвярыма, пакуль шпікі прабягуць міма.

Але з-за гэтага праводзіць сапраўдную працу нельга было. Шпікі маглі трапіць на след. Маякоўскі вырашыў прадаўжаць заняткі. У канцы лета ён быў прыняты вучнем у Строганаўскае мастацка-прамысловае вучылішча.

Праз некалькі месяцаў другі арышт. Маякоўскі трапіў у Сушчэўскую паліцэйскую часць. Цяпер да арышту ён аднёсся даволі роўнадушна — як і ўсе палітычныя, адразу-ж вырашыў выкарыстаць гэты час для чытання. У пісьме да сястры прасіў перадаць яму творы Талстога і Дастаеўскага, Ібсена на нямецкай мове, падручнікі для гімназіі, «Капітал» Карла Маркса.

Ранняй вясной Маякоўскі быў вызвалены з-пад варты і зноў пачаў займацца ў Строганаўскім вучылішчы. Адначасова спрабаваў працаваць як прапагандыст.

Трэці раз яго арыштавалі ўлетку 1909 года. Ён, як і яго маці і сястра Людміла Уладзіміраўна, прымаў удзел у арганізацыі ўцёку трынаццаці асуджаных на катаргу жанчын. Адным з арганізатараў яго быў «спецыяліст па ўцёках» І. Марчадзе. Уцёк прайшоў удала, але арганізатары былі схоплены. Быў арыштаваны і В. Маякоўскі.

У турмах Маякоўскі трымаў сябе задзірліва. То ён, карыстаючыся правам старасты, умешваўся ў распараджэнні турэмнага начальства, то, спасылаючыся на дазвол маляваць, патрабаваў, каб яго адвялі ў камеру да іншых палітычных, то выступаў з «супрацьзаконнымі» прамовамі.

Але ўсё гэта хутка скончылася. Маякоўскага перавялі ў Бутыркі — цэнтральную перасыльную турму і змясцілі ў адзіночную камеру. Глухія сцены. Ложак. Стол. І маленькае акно, праз якое толькі і бачна шыльда бюро пахавальных працэсій.

У сваёй аўтабіяграфіі паэт назваў адзінаццаць месяцаў, праведзеных у камеры № 103 важнейшым часам. Ён чытаў і чытаў амаль беспярапынна.



В. Маякоўскі ў ролі паэта Івана Нова ў фільме «Не для грошай народжаны» (1918 г.).

Маякоўскі — вучань Строганаўскага прамыслова-мастацкага вучылішча (1910 г.).



Гэта быў час самай страшнай рэакцыі. Рэвалюцыя была разгромлена. Яе ўчарашнія песняры — з буржуазнай інтэлігенцыі — сёння станавіліся яе ворагамі. У літаратуры панавалі ўсялякія ўпадніцкія плыні.

У гладкіх і гучных вершах гэтых паэты ўслаўлялі правы жыць, забываючы пра сапраўднасць, пра народ з яго думамі і барацьбой.

Маякоўскі спрабаваў пісаць пра тое, што ён бачыў, ведаў, любіў. Атрымлівалася, як ён пасля казаў сам, «ходульно и ревплаксиво». Рэўплаксіва — азначае рэвалюцыйна, але плаксіва. І не выпадкова, калі наглядчыкі пры выхадзе Маякоўскага з турмы адабралі ў яго сшытак такіх вершаў, ён не вельмі засмуціўся. Праз шмат год ён напісаў: «Дзякуй наглядчыкам — пры выхадзе адабралі. А то яшчэ надрукаваў-бы!»

Былі, вядома, і іншыя кнігі. Быў мяцежны свет Байрана, з яго героямі, якія ўзнімалі руку на само неба, з бунтарамі, што вялі наступленне на багоў зямных і нябесных. Былі трагедыі Шэкспіра, поўныя чалавечых пакут і чалавечага смеху, радасцей і тугі. У гэтых кнігах нічога не гаварылася аб 1905 годзе, аб лёсе сяброў і аднагодкаў. Але яны былі больш праўдзівыя, чым маленькія, прыгожа выдадзеныя цяпер томікі вершаў.

«Хачу рабіць соцыялістычнае мастацтва»— гэта была асноўная думка Маякоўскага. Але шляхі да яе ажыццяўлення былі невядомыя. Іх яшчэ трэба было шукаць.

У студзені 1910 года Маякоўскага вызвалілі як няпоўналетняга. Яму было толькі 16 год. І яго аддалі «пад нагляд паліцыі і пад бацькоўскую адказнасць».

Ён прышоў дадому нечакана. Было холадна, ён прамёрз, але адразу-ж, не трацячы часу, пайшоў расшукваць сяброў. Пакуль маці і сястра шукалі грошай, каб выкупіць яго паліто,— яно было закладзена ў ламбард,—ён ужо абыйшоў поўгорада. Многія з таварышаў па рэвалюцыйнай працы былі арыштаваны. Іншыя выехалі. Сёй-той адыйшоў убок. Такія ахвотна гаварылі аб мастацтве, аб літаратуры і адмоўчваліся, калі Маякоўскі пачынаў гаворку пра барацьбу...

Трэба было зноў шукаць шляхі да рэвалюцыі. Гэта павінен быў быць шлях праз новае мастацтва.

**Дм. МАЛДАЎСКІ.**




# Загадкі Марса

Няма, бадай, ніводнага куточка на Зямлі, дзе-б не існавала жыццё. Яно пранікла пад лёдавыя тоўшчы Арктыкі і Антарктыкі, у бязводныя пяскі афрыканскіх пустынь, у глыбіні акіянаў і на вяршыні высокіх гор.

Але Зямля — не адзіная планета сонечнай сістэмы. Такіх планет бясконцае мноства. Ці ёсць там жыццё? Ці ёсць разумныя істоты, падобныя да чалавека?

Для ўзнікнення жыцця неабходны тры ўмовы: наяўнасць вады, якая ўваходзіць у склад жывой клеткі, атмасферы, неабходнай для газавага абмену, і спрыяльнай тэмпературы, не вельмі нізкай і не вельмі высокай.

Няма сумнення ў тым, што ў бязмежным сусвеце такія ўмовы могуць стварыцца на бясконцым мностве планет, і ў гэтым сэнсе матэрыялістычная навука на пытанне аб наяўнасці жыцця за межамі Зямлі дае станоўчы адказ.

Але дзе і ў якіх канкрэтных формах існуе жыццё?

З усіх планет нашай сістэмы больш за ўсё верагодна наяўнасць жыцця на Марсе.

Вывучаць Марс вельмі цяжка. Па-першае, гэтая планета бачна на небе адзін раз у два гады, ды і то ўсяго на працягу некалькіх месяцаў. А найбольш спрыяльныя ўмовы для наглядання Марса бываюць толькі адзін раз у 15—17 гадоў, у час так званых вялікіх супрацьстаянняў.

Але мы цяпер ведаем, што Марс, як і Зямля, верціцца вакол сваёй восі і рухаецца вакол Сонца. На яго паверхні, такім чынам, ноч змяняецца днём, а зіма — летам. Як і Зямлю, Марс акружае атмасферная абалонка, толькі менш шчыльная, чым наша, зямная. У атмасферы Марса ёсць вуглекіслы газ і, па ўсёй верагоднасці, азот. Кісларод на гэтай планеце пакуль што не выяўлены.

Тэмпература на Марсе, не гледзячы на яго аддаленасць ад Сонца, дастаткова высокая. Днём у летні час на экватары тэмпература дасягае 20° цеплыні, але ноччу паніжаецца да—50°—60°. Затое ў палярных раёнах яна на працягу ўсяго доўгага палярнага лета ўстойліва трымаецца на ўзроўні вышэй нуля.

Нарэшце, ёсць на Марсе і вада. Каля яго полюсаў добра прыкметны светлыя плямы — «палярныя шапкі». У час марсіянскага лета яны рэзка памяншаюцца, іншы раз знікаючы зусім, а зімой зноў паяўляюцца. Гэта вельмі нагадвае таянне снегу. І сапраўды, савецкаму вучонаму Г. А. Ціхаву ўдалося атрымаць пераканаўчыя доказы таго, што «палярныя шапкі» не што іншае, як лёд.

Як бачым, прыродныя ўмовы Марса хоць і вельмі суровыя, але пэўным чынам нагадваюць зямныя. Адсюль можна з поўнай падставай меркаваць, што жыццё на Марсе магчыма. На прыкладзе зямных раслін і жывёл мы добра ведаем, да якіх суровых умоў можа прыстасоўвацца жыццё. Вопыты паказалі, напрыклад, што многія расліны нармальна развіваюцца ў паветры, у тры разы радзейшым, чым атмасфера на Марсе, а мухі могуць жыць на вышыні, якая дасягае амаль 15 кіламетраў.

Тое самае можна сказаць і пра нізкія тэмпературы. У Сібіры пад Оймяконам маразы дасягаюць — 73°, але там існуе звыш 200 відаў раслін і жывёл, а круглыя чэрві вытрымліваюць паніжэнне тэмпературы да — 250°.

Калі на Марсе ёсць жыццё, дык як-жа яго выявіць? У самыя магутныя тэлескопы не ўбачыш ні жывёл, ні раслін. Задача, як бачым, вельмі складаная. Вырашыць яе можна толькі ўскосным шляхам, назіраючы за тымі шматлікімі зменамі, якія адбываюцца на паверхні Марса. Вопыты ў гэтым напрамку прывялі да стварэння новай навукі — астрабатанікі, заснавальнікам якой з'яўляецца савецкі астраном Г. А. Ціхаў.

Найбольшую ўвагу астрабатанікаў прыцягваюць цёмныя плямы на паверхні Марса, так званыя «моры». Існуе думка, што гэта — цэлыя вобласці, пакрытыя расліннасцю. Яшчэ ў пачатку гэтага стагоддзя Г. А. Ціхаву ўдалося ўстанавіць колер марсіянскіх мораў і параўнаць яго з колерам зямных раслін. Выявілася, што цёмныя плямы на Марсе маюць сіне-блакітны колер.

Далейшыя даследаванні, здавалася, яшчэ ў большай ступені былі не ў карысць таго, што на Марсе ёсць раслінnасць. Усім вядома, што для жыцця раслін патрэбна цеплыня. Цеплыню прыносіць не толькі бачнае святло, але і нябачныя цеплавыя інфрачырвоныя прамені. Зямныя расліны амаль не карыстаюцца імі. У той-жа час было выяўлена, што, у адрозненне ад зямных раслін, марсіянскія моры паглынаюць інфрачырвоныя прамені. Многія астраномы лічылі таму, што раслін на Марсе няма.

Але Ціхаў развальжаў так: клімат на Марсе халодны і сухі, а на Зямлі цёплы і вільготны. Таму параўнанне марсіянскіх «раслін» з зямнымі раслінамі цёплых і вільготных мясцін не апраўдана. Значыць, трэба глыбей вывучыць асаблівасці зямной раслінnасці высокіх гор, палярных і засушлівых краін.

Работы, якія былі праведзены ў гэтым кірунку, пацвердзілі здагадку Ціхава. Выявілася, што зямныя расліны, якія жывуць у халодным клімаце, паглынаюць цеплавыя прамені, а іншы раз нават чырвоныя і частку аранжавых, і маюць таму сінявату афарбоўку. Такім чынам розніца паміж раслінамі Зямлі і Марса была бліскуча вытлумачана.

Сёння праблема жыцця на Марсе зводзіцца да наступнага. З аднаго боку, на гэтай планеце ёсць такія ўмовы, пры якіх там магчыма жыццё. Змены, якія адбываюцца на Марсе, можна вытлумачыць як праявы гэтага жыцця. З другога боку, у атмасферы Марса да гэтага часу не знойдзен свабодны кісларод.

У нас на Зямлі свабодны кісларод у атмасферы ствараецца жывымі арганізмамі. На Марсе-ж кісларод не знойдзены, і гэта азначае, што жыццё там чамусьці сябе не праявіла ў касмічным маштабе.

Некаторыя вучоныя лічаць, напрыклад, што марсіянскія расліны могуць выдзяляць кісларод не ў атмасферу, а ў глебу або ўтрымліваць яго сваёй карнявой сістэмай. Гэтым, дарэчы, спрабуюць вытлумачыць і чырванаватабуры колер марсіянскай глебы, якая нагадвае колер акісленых парод.

10 верасня 1956 года адбылося вялікае супрацьстаянне Марса, калі гэтая планета асабліва блізка падыйшла да Зямлі. Савецкім астраномам у гэты час удалося сабраць вельмі многа цікавых фактаў, а таксама нагледаць незвычайныя з'явы на Марсе. У пачатку верасня харкаўскія астраномы заўважылі нечаканае знікненне палярнай шапкі. Такія-ж з'явы былі заўважаны наглядальнікамі ў Абастумане і Ташкенце. Палярная шапка паявілася праз некалькі дзён, але была ўжо значна меншых памераў.

Некаторыя вучоныя лічаць, што ўвесь гэты час палярная шапка была закрыта ад нас жоўтаватай імглой, якая ўяўляла сабой воблакі пяску і пылу, узнятыя ветрам з паверхні планеты.

Калі на Марсе сапраўды праносяцца пясчаныя бураны, то гэтая акалічнасць з'яўляецца вельмі грунтоўным аргументам у карысць той думкі, што марсіянскія моры — не што іншае, як зоны раслінnасці. На самай справе: абрысы мораў на працягу многіх год застаюцца амаль нязменнымі. А між тым усякія іншыя ўтварэнні, апрача раслінных, былі-б непазбежна засыпаны пяском. Мы ведаем, што толькі раслінnасць можа супрацьстаяць наступленню пустыні.

Ці не з'яўляецца вывучэнне жыцця на другіх планетах пустым заняткам? Не, не з'яўляецца. У сувязі з міжпланетнымі палётамі, якія будуць ажыццёўлены ў недалёкім будучым, гэтая праблема набывае велізарнае практычнае значэнне. У гэтай сувязі ўжо ў бліжэйшыя гады пачнуцца даследаванні хімічнага складу і будовы атмасферы Марса і Венеры, падрабязнае вывучэнне будовы паверхні Месяца і Марса, а таксама далейшае высвятленне магчымасці жыцця на Венеры і Марсе.

Наяўнасць раслінnасці на другіх планетах значна дапаможа ў вырашэнні праблемы харчавання ўдзельнікаў будучых міжпланетных экспедыцый. Справа ў тым, што прадукты харчавання складуць значную частку агульнай вагі міжпланетных караблёў. Па самых сціплых разліках, на кожнага ўдзельніка экспедыцыі трэба ў суткі 2,5 кг вады, 500 гр ежы і 1,1 кг кіслароду, г. зн. каля 4,1 кг.

Калі пры гэтым улічыць, што экспедыцыя на Марс можа працягвацца некалькі гадоў, то стане відавочным, якое велізарнае значэнне можа мець выкарыстанне натуральных харчовых рэсурсаў гэтай планеты.

**В. КАМАРОЎ.**



Якія смачныя марсіянскія пальмы!



— Ведаеш, Муся, да нас набліжаецца Марс...
— Ой! Пазнаём мяне з ім!

Мал. І. Атраховіча.



**Цяпер пачаліся ўжо ігры. А зусім нядаўна спартакаўцы Мінска трэніраваліся ў зале.** На здымку: заслужаны трэнер СССР **М. Г. Базененкаў тлумачыць маладым ігракам Л. Ерахаўцу** (справа) **і А. Кавалёву іх недахопы.**

Фото В. Ждановіча.

# Уперадзе—132 матчы

Першынство краіны па футболу сёлета аспрэчваюць 12 мацнейшых футбольных калектываў. Гэта — маскоўскія каманды «Спартак», «Дынамо», ЦСК МА, «Тарпеда» і «Лакаматыў», дынамаўцы Тбілісі і Кіева, ленінградскі «Зеніт», «Буравеснік» (Кішынёў), «Шахцёр» (Сталіно), а таксама мінскі «Спартак» і куйбышэўскія «Крыллі Советаў», якія ў мінулым сезоне занялі першыя месцы ў класе «Б».

31 сакавіка на стадыёнах Тбілісі і Кішынёва падняты флаг футбольнага чэмпіяната, а 6 красавіка ўступілі ў барацьбу астатнія каманды. У турнірнай табліцы паявіліся першыя лічбы. Адным камандам яны прынеслі радасць перамогі, другім — горыч паражэння.

У першым кругу чэмпіяната мінчане ўбачаць 7 спаборніцтваў. Сезон у нас адкрываецца 26 красавіка матчам спартакаўскіх каманд Мінска і Масквы. Гасцямі беларускіх майстроў будуць таксама «Буравеснік» (2 мая), дынамаўцы Кіева (8 мая), маскоўская каманда «Дынамо» (14 мая), спартсмены Грузіі (19 мая) і данецкія футбалісты «Шахцёра» (17 чэрвеня). Матчам з «Шахцёрам» і закончыцца першая палова чэмпіяната.

У гэтым сезоне ўнесена шэраг змен у правілы спаборніцтваў. Мы зноў убачым, як прыкладна ў сярэдзіне другога тайма на супрацьлеглым ад цэнтральнай трыбуны баку поля з'явіцца ігрок з лічбай «12» на футболцы. Гэта — свежая падмога камандзе. У мінулым годзе замена ігракоў не дазвалялася, а сёлета правілы спаборніцтваў дазваляюць у іграх асноўных саставаў каманд класа «А» замяняць не толькі варатара, але і палявога іграка.

На некаторых стадыёнах, дзе праводзяцца матчы чэмпіяната СССР, у тым ліку і на мінскім стадыёне «Дынамо», футбольныя палі няроўныя, з дрэнным травяным пакрыццём. У палажэнні аб першынстве, зацверджаным Усесаюзным камітэтам па фізкультуры і спорту, указваецца, што ў выпадку, калі футбольнае поле знаходзіцца ў нездавальняючым стане, назначаная на ім ігра адмяняецца і пераносіцца на поле «працаўніка» або на «нейтральнае» поле.

Наўрад ці застануцца роўнадушнымі да гэтага мінскія «балельшчыкі».

Сёлетні сезон будзе багаты міжнароднымі сустрэчамі. У гасцях у совецкіх футбалістаў пабудуць спартсмены амаль усіх еўрапейскіх краін. У Мінску ў пачатку чэрвеня будуць гасціць футбалісты Галандыі, якія ўпершыню прыязджаюць у Совецкі Саюз. Спартакаўцы беларускай сталіцы ўпершыню правядуць ігры за межамі Радзімы. Плануецца паездка каманды для таварыскіх сустрэч у Румынскую Народную Рэспубліку, Кітайскую Народную Рэспубліку, Карэйскую Народна-Дэмакратычную Рэспубліку.

Сезон у каманды будзе напружаны. І да яго беларускія футбалісты старанна рыхтуюцца. Састаў спартакаўцаў у асноўным не змяніўся. Выбыў з каманды яе ветэран майстар спорту П. Мімрык, а таксама вядучы нападаючы Ю. Бачурын. Уключаны ў каманду варатар маскоўскага «Спартака» Э. Мікулец, абаронца В. Паўловіч, які перайшоў з рыжскай «Даўгавы», нападаючыя А. Гіршын і А. Бурачэўскі — выхаванцы мінскай футбольнай школы моладзі.

Акрамя матчаў чэмпіяната, мінскія аматары футбола ўбачаць спаборніцтвы каманд класа «Б». 62 каманды гэтага класа раздзелены на 4 зоны. Мінская каманда «Ураджай» выступае ў другой зоне разам з калектывамі Вільнюса, Таліна, Рыгі, Калінінграда, Кіева, Днепрапятроўска, Львова.

Новай камандай кіруюць вопытныя спартсмены і трэнеры П. С. Мімрык і В. Г. Брэгман. У ёй іграюць майстар спорту Бачурын, які перайшоў сюды з мінскага «Спартака», нападаючыя Пержхала і Сідараў, абаронца Васільеў, паўабаронца Манько і інш. Каманда ўкамплектавана з футбалістаў Беларусі. У яе ўвайшлі выхаванцы Мінскай спецыялізаванай футбольнай школы моладзі, мінскіх і гомельскіх прамысловых прадпрыемстваў.

Сезон абяцае быць цікавы. Хто будзе чэмпіёнам краіны? Хто выйдзе пераможцам у другой зоне класа «Б»? На гэтыя пытанні адказаць цяжка: уперадзе — 132 матчы. Як кажуць, пажывем — убачым.

**А. МАЙСКІ.**

# Замежны гумар




**Макмілан: А як нам запоўніць гэты вакуум?**
(«Ст'ршел»)

**Радыёстанцыя «Свабодная Еўропа».**
(«Ойленшпігель»)







**— Не ведаю, Джон, ці не трапяць гэтыя падарункі на нашы галовы.**
(«Дзікабраз»)

**— Трымайце яго, ён чорны!..**
(«Ст'ршел»)






пад рэдакцыяй майстра спорту
**А. СУЭЦІНА**

## У пошуках лепшага ходу

Кожны шахматыст у той або іншай ступені ўзброены веданнем тэорыі і разуменнем асноўных шахматных прынцыпаў. Але задача яго ў практычнай барацьбе не абмяжоўваецца «ўзнаўленнем» у памяці тых ці іншых тэарэтычных «рацэптаў» або выкарыстаннем таго ці іншага шахматнага прынцыпу.

Галоўная задача ў **канкрэтным уліку** асаблівасцей пазіцыі, сваіх актыўных магчымасцей і контрзадум праціўніка, у разліку варыянтаў. Іншымі словамі, асноўная задача — у пошуках добрага, моцнага ходу, які-б адпавядаў у найбольшай ступені патрабаванням данай пазіцыі.

Такая задача іншы раз не мае матэматычнага рашэння; г. зн. у пазіцыі можа быць некалькі амаль роўных па сіле працягаў. Асабліва гэта датычыць дэбюта (пачатку партыі), дзе галоўнае — тыя або іншыя схільнасці густу шахматыста. Адзін аддае перавагу спакойнай манеўранай барацьбе, другі — распачынае складаную камбінацыйную ігру. Пра густ не спрачаюцца, але ёсць многа пазіцый, дзе знаходжанне моцнага ходу ўжо не справа густу, а неабходнейшая і **абсалютна адзіная** магчымасць паспяховага працягу барацьбы.

У такіх выпадках, нягледзячы на стыль і творчыя схільнасці, шахматыст павінен імкліва шукаць гэтага адзінага «матэматычнага» вырашэння пазіцыі. Вельмі часта такое рашэнне мае камбінацыйны характар. Для знаходжання яго трэба адмовіцца ад матэрыяльных суадносін, пайсці на ахвяру матэрыялу.

Ніжэй мы прапануем нашым чытачам знайсці лепшы ход у чатырох прыведзеных ніжэй пазіцыях.

№ 1

Ход белых!

№ 2

Ход чорных!

№ 3

Ход белых!

№ 4.

Ход белых!

Рашэнні прысылаць у адрас рэдакцыі не пазней месяца пасля выхаду часопіса з друку.

## КРАСВОРД

Склаў І. Ляцецкі



**Па гарызанталі:** 1. Архітэктурнае збудаванне. 3. Балотная трава. 6. Гатунак яблык. 8. Герой грамадзянскай вайны. 12. Рака на Далёкім Усходзе. 14. Хімічнае рэчыва, у якім атамы вадарода замешчаны атамамі металаў. 15. Спецыяльны галаўны ўбор лётчыкаў, танкістаў, лыжнікаў. 16. Гандлёвы порт Францыі. 17. Рака ў СССР. 18. Прамысловы горад РСФСР. 19. Сталіца Нарвегіі. 21. Нервовае захворванне. 24. Горад у Еўропе. 26. Адлюстраванне прадмета на святлоадчувальнай пласцінцы. 28. Паселішча горцаў. 29. Цыркавы гімнаст. 30. Прыток ракі Рэйн. 34. Расліна. 37. Мужчынскае імя. 39. Адзінка вымярэння адлегласці. 40. Аўтарытэт, уплыў. 41. Паэт, пясняр. 42. Князь Кіеўскай дзяржавы. 43. Дзіцячая цацка. 44. Неажыццявімая фантазія. 45. Рака ў Румыніі. 49. Пушны звер. 51. Рэмарка ў тэксце драматычнага твора. 52. Адтуліна, неабходная для асвятлення памяшкання. 53. Майстар. 54. Халодная зброя. 57. Старажытнае народнае сказанне аб легендарных героях, аб паходжанні з'яў прыроды і г. д. 58. Лятальны апарат. 59. Палажэнне ў шахматнай ігры. 61. Медыцынскі прыбор. 63. Асабліва каштоўнае, запаветнае. 65. Выбар. 68. Сельскагаспадарчая прылада. 69. Горад у Азербайджанскай ССР. 71. Электрамагнітная прылада. 72. Амерыканскі прагрэсіўны пісьменнік. 73. Поўвостраў. 74. Прыбор для даследавання марскога і рачнога дна. 75. Пляцоўка для бокса. 76. Водная прастора. 77. Газ з моцным пахам. 78. Музычны інструмент. 79. Марская млекакормячая жывёла.

**Па вертыкалі:** 1. Ісціна, якая не патрабуе доказу. 2. Музычны духавы інструмент. 4. Персанаж аднаго з твораў А. М. Горкага. 5. Герой оперы «Паяцы». 6. Рака, якая ўпадае ў Тірэнскае мора. 7. Прыстасаванне ў рухавіках для механічнага пуску. 9. Парука. 10. Прыкрыццё ў акопах. 11. Палітычны саюз Англіі і Францыі. 13. Апавяданне А. П. Чэхава. 20. Пладовае дрэва. 22. Прадстаўнік, паслядоўнік філасофскага рэалізма. 23. Частка свету. 25. Перадача па радыё. 27. Галіна навукі аб жыцці жывёл. 31. Горад на крайняй поўначы Афрыкі. 32. Пастанова, якая мае сілу закона. 33. Навука аб здароўі насельніцтва. 35. Міжнародны дагавор. 36. Кантрольная работа. 38. Спалучэнне двух галосных у адным складзе. 46. Дзяржава ў поўднёва-заходняй Азіі. 47. Сістэма мерапрыемстваў з мэтаю ізаляваць якую-небудзь дзяржаву. 48. Рыбалоўная снасць. 50. Ураган вялікай разбуральнай сілы. 52. Класік армянскай літаратуры. 55. Від вяза. 56. Склад зброі. 57. Польскі нацыянальны танец. 60. Сукупнасць усіх снасцей судна. 62. Стваральнік рускай вінтоўкі. 64. Высокае люстра. 66. Вярчальная частка ў машынах. 67. Прэснаводны малюск. 68. Разметачны інструмент. 70. Частка хімічнага элемента.

### АДКАЗЫ НА КРАСВОРД,
**змешчаны ў № 3 часопіса.**

**Па гарызанталі:** 1. Гелій. 3. Цялец. 6. Ямал. 8. Дуб. 10. Этна. 13. Біс. 15. Мат. 18. Судан. 19. Цэгла. 20. Экран. 21. Карэя. 22. Цукар. 23. Полька. 25. Горкі. 28. Атаман. 31. Ват. 33. Бор. 35. Аорта. 36. Аут. 38. Атака. 40. Тар. 41. Грам. 43. Корк. 44. Сом. 45. Ашуг. 48. Лімanад. 49. Арфа. 52. Ежа. 54. Мор. 56. Абрэк. 57. Крым. 58. Рэле. 59. Кабул. 60. Лот. 62. Цна. 64. Раса. 66. Капітан. 68. Ліса. 72. Ясы. 73. Эсен. 74. Танк. 76. Бах. 77. Мазыр. 78. Ямб. 80. Огайо. 81. Гоа. 83. Ток. 85. Яхідна. 89. Садко. 92. Тычына. 95. Брэст. 96. Ротар. 97. Опера. 98. Отава. 99. Аўтар. 100. Аул. 102. Ніл. 104. Тара. 105. Лак. 106. Кума. 107. Непал. 108. Кніга.

**Па вертыкалі:** 1. Глінка. 2. Ілі. 4. Ява. 5. Цэрэра. 7. Медзь. 9. Уйгур. 11. Нарва. 12. Осло. 13. Бірма. 14. Сцяг. 15. «Маці». 16. Токіо. 17. Янка. 23. Піхта. 24. Карфу. 26. Ока. 27. Кіт. 29. Тэатр. 30. Норма. 31. Ваг. 32. Трал. 33. Брод. 34. Рак. 35. Ара. 37. Уран. 39. Аса. 42. Мічыган. 43. Катэгат. 46. Шырма. 47. Гекла. 49. Аркал. 50. Фобас. 51. Май. 53. Акт. 54. Мец. 55. Ялу. 61. Сіям. 63. Зямля. 64. Рым. 65. Сазан. 66. Кета. 67. Нант. 69. Інары. 70. Або. 71. Схема. 73. Эрг. 75. Кок. 78. Яна. 79. Бук. 82. «Отэла». 84. Олтул. 86. Хлор. 87. Дзева. 88. Абакан. 89. Стол. 90. Драма. 91. Оран. 92. Траска. 93. Чатам. 94. Норд. 101. Уфа. 103. Іён.

**Да нумару прыкладаецца бясплатны дадатак часопіса «У дапамогу політэхнічнаму навучанню».**


**Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ.**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ (намеснік рэдактара), Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК.**

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость».**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон — 93-854.

АТ 02188. Фармат паперы 70×108 1/8. Друк. арк. 4. Вуч.-выд. арк. 7. Здадзена ў набор 13.III.57 г. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 153. Падпісана да друку 30.III.57 г.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.





## На конкурс „Маладосці“

**1. Што ў яе баліць?**
Фотаэцюд Г. Юрэвіча (г. Гродна).

**2. У ваколіцах Мінска.**
Фото Е. Крупені (г. Мінск).

**3. Куток парка.**
Фото Д. Рудніцкага і М. Шэрмана (Мінск).

